ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

8 жніўня 1997 г. № 32/3908 Кошт 3 000 руб.





# Ля Курганскай крыніцы

Штогод летняю парою вернікі каталіцкай парафіі мястэчка Жодзішкі, што на Гродзеншчыне, збіраюцца на маляўнічым беразе хуткаплыннай Віліі, каб уславіць Божую Маці Нястомнай Дапамогі. Гэтая традыцыя даўняя. Тут, у глухім лясным кутку, было магчыма ладзіць фэсты і крыжовыя шэсці нават у той час, калі дзяржава бязлітасна знішчала храмы і традыцыі.

Драўляная капліца была ўзведзена ў 1928 годзе ў месцах шматлікіх паганскіх курганоў. Таму і назва яе — Курганская. З гэтага часу шэсце ўздоўж Віліі да святой крыніцы, з прыпынкамі і малітвамі каля крыжоў і каплічак — абавязковы рытуал у гонар Маці Нястомнай Дапамогі.

Крыніца выглядае незвычайна, іншай такой, бадай, нідзе няма. Скульптурная выява Маці Боскай у нішы каменнай сцяны ўзвышаецца над крынічкай і бачна далёка з ракі, з супрацьлеглага берага. Тут заўсёды прыпыняюцца аматары воднага турызму, сюды ідуць жыхары бліжэйшых вёсак. Вада ў крыніцы лічыцца лячэбнаю.

Зразумела, гэта не такі шматлюдны фэст, як у сталічных прыходах падчас вялікіх святаў. Але тут, на лоне прыроды больш непасрэднасці і шчырасці.

**Анатоль Кляшчук**

*Фота аўтара*





## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Першыя палосы газет зноў застракацелі словам "бітва" ў розных склонах. На Беларусь прыйшло жніво... Будучы ўраджай падлічаны: ён павінен скласці каля 6,4 мільёна тон, або на адзін мільён больш, чым летась. Засталося толькі яго сабраць. Мяркуючы па першых паведамленнях, па выніках паездак кіраўнікоў дзяржавы "на месцы" — збяром, нягледзячы на дрэнныя ўмовы надвор'я. Ох, ужо гэтае надвор'е! Ніколі не спрыяла яно хлебаробам. Але сёлета — асабліва... Аднак досыць іранізаваць. Бо ў краіне, дзе за аснову ўзяты лозунг плебса "Хлеба і відовішч!", гэта не смешна. Не смешна, бо там, дзе ім кіруюцца, звычайна не хапае ні першага, ні другога, ёсць толькі бачнасць намераў, абяцанні ды заўсёдная надзея ў народа, што "калі не мы некалі будзем жыць па-чалавечы, дык хоць нашыя ўнукі пажывуць..." Зрэшты, так яно пры нашым жыцці было заўсёды, звыкліся...***

### НАВІНА ТЫДНЯ

З першага студзеня 1998 у Расіі пачнецца правядзенне чарговай грашовай рэформы — дэнамінацыі нацыянальнай валюты ў 1000 разоў. Гэта азначае, што расійскі рубель "пахудзее" на тры нулі. Рэформа будзе працягвацца чатыры гады — старыя купюры будуць выводзіцца з абароту паступова... Чаму мы звяртаем асаблівую ўвагу на гэтае паведамленне? Ды таму, што лепшы момант для ўвядзення абяцанай агульнай валюты на тэрыторыі Саюза Беларусі і Расіі проста і прыдумаць немагчыма... Рэакцыя беларускага боку на рашэнне расійскага прэзідэнта Б.Ельцына, які сказаў, што "без лішніх нулёў будзе лягчэй", спакойная: нас гэта не закране. Але наўрад ці... Хоць бы таму, што ў нас "лішніх нулёў" на грашах хапае і пазбавіцца ад іх даўно хацелі. Нават хадзілі чуткі, што недзе ў Германіі новыя "рублі" надрукаваны з партрэтамі Купалы, Цёткі ды іншых дзеячаў нацыянальнай культуры. Чуткі чуткамі, але рэальнасць такая: у адрозненне ад адносна стабільнага расійскага рубля курс "зайчыка" катастрафічна падае. Інфляцыю спыніць на Беларусі каторы год не ўдаецца...

### ФАКТ ТЫДНЯ

Закончыліся ўступныя экзамены ў ВНУ краіны. 23 з паловай тысячы хлопцаў і дзяўчат сталі студэнтамі. Самымі прэстыжнымі сярод ВНУ сёлета былі БДУ, ЭЛУ, Вайсковая Акадэмія, самымі прэстыжнымі прафесіямі — юрыдычныя і эканамічныя спецыяльнасці, замежныя мовы і... беларуская мова і літаратура. Зрэшты, здзіўляцца апошняй "з'яве" не варта: сёлета паступалі яшчэ тыя, хто пачынаў вучыцца і вучыўся ў беларускамоўных школах і класах. Толькі вось каго і дзе будуць вучыць настаўнікі роднай мовы праз чатыры-пяць гадоў? Колькасць беларускіх школ у гарадах Беларусі блізкая да нуля... У той жа Гародні, паведамляе "Свабода", у 1994 годзе было 27 беларускамоўных школ — цяпер засталася адна і тую могуць з верасня перавесці на рускую мову...

### СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Колькасць беспрацоўных на Беларусі няўхільна скарачаецца. Як паведамляе дзяржаўная служба занятасці, узровень беспрацоўя адносна агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва краіны на 1 ліпеня г.г. склаў 2,82 працэнта, або на 0,35 працэнта менш, чым летась. Усяго ж на ўліку стаіць крыху больш за 100 тысяч беспрацоўных. Што і казаць, лічбы прыгожыя. Толькі вось ці рэальныя яны? Бо пасля некаторых даўніх і нядаўніх указаў адважваюцца стаць на ўлік толькі самыя адчайныя ды і тое ў поўным адчаі...

### ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Прайшлі ўрачыстасці з нагоды пуску першага ў СНД завода па вытворчасці аўтамабіляў "Форд". І прыйшоў час задумацца, а хто ж на іх будзе ездзіць, хто будзе купляць? Абсалютнай большасці беларусаў "айчынныя" аўтамабілі будуць не па кішэні... Так і ёсць: 85—95 працэнтаў беларускіх "Фордаў" мяркуецца рэалізоўваць у Расіі... Дарэчы, з'ява гэтая не новая ў навейшай беларускай гісторыі. Першымі расійскі рынак "адкрылі" для сябе нашыя выдаўцы. Да 100 працэнтаў рускамоўных кніг, а таксама розных аўта-, мота-, радыё-, мода-часопісаў, што друкуюцца на Беларусі, збываюцца якраз на бязмежных расійскіх прасторах. Інтэграцыя ў дзеянні? Не, мусіць усё ж — рынак. Расійскі.

### ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Газеты паведамілі, што на Брэсцкай мытні затрымана чарговая партыя абразоў. Мытнікі прадухілілі вываз за мяжу 57 абразоў 18—19 стагоддзяў. Пра далейшы лёс іх пакуль не паведамляецца. Але, пэўна ж, яны будуць "безвозмездно" перададзены Расіі, як было ўжо не раз. Расія ж нам, нават у рамках праграмы "Вяртанне", перадаваць культурныя каштоўнасці не спяшаецца. Таму ў нядаўнім інтэрв'ю "Звяздзе" і прапанаваў Адам Мальдзіс абменьваць затрыманыя на нашай мяжы расійскія творы мастацтва і гістарычныя рэліквіі на беларускія, што пыляцца ў запасніках расійскіх музеяў. Прапанова заканамерная: сяброўства — рэч узаемная, а не аднабаковая.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

480 гадоў таму, 6 жніўня 1517 года, Францішак Скарына надрукаваў у Празе першую беларускую кнігу. Колькі разоў прапаноўвалася менавіта ў гэты гістарычны дзень адзначаць Свята беларускага друку, аднак Днём друку названа сёлета 7 верасня. Зразумела: навошта беларусам кожны раз нагадваць, што і ў іх ёсць свая вялікая гісторыя, якой можна ганарыцца...

### АБМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

З першага жніўня ўступіў у сілу загад Міністэрства гандлю Беларусі, згодна з якім уведзены абмежаванні на гандаль "прадукцыяй, што ўтрымлівае элементы эротыкі". Перыядычным выданням цяпер дазваляецца выкарыстоўваць эратычныя кампаненты (фатаграфіі, малюнкі, калажы, карыкатуры, артыкулы і г.д.) у памеры, які не перавышае 5 працэнтаў ад агульнага аб'ёму выдання. Нагадаем, што "прапаганда парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці" забаронена на Беларусі яшчэ ў 1992 годзе. Праўда, "спецыялісты" скардзяцца, што дагэтуль не вызначаны крытэрыі: як адрозніць парнаграфію ад эротыкі. Калі ў прэзідэнцкай камандзе знойдзецца чалавек, які гэта зробіць, — Нобелеўская прэмія будзе нашай. Бо з часоў узнікнення мастацтва ў свеце не сціхаюць спрэчкі пра тое, дзе канчаецца эротыка і пачынаецца парнаграфія і наадварот.

## З НАГОДЫ

# Горкі яблык ісціны

Як ужо паведамлялася, 1 ліпеня 1997 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў распараджэнне за нумарам 182р, паводле якога шэраг будынкаў у сталіцы перадаюцца ў аператыўнае кіраванне Упраўленнем справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У шэрагу гэтых пабудоў значыцца і будынак па вул. Фрунзе, 5, а ў гэтага будынка, як вядома, ёсць канкрэтная назва — Дом літаратара. Калі прытрымлівацца думкі тых, хто будзе ажыццяўляць правядзенне гэтага распараджэння ў жыццё, як быццам нічога страшнага няма. Проста зменіцца ўласнік Дома літаратара. Але ўся справа ў тым, што, па-першае, Дом літаратара, як бы і хто б ні даказваў адваротнае, законная ўласнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў, а, па-другое, калі яго ў пісьменнікаў забяруць, то ў беларусаў будзе забраны і перададзены немаведама каму асяродак культуры, калі не блытаць культуру з палітыкай.

Каб засяродзіць на гэтым увагу грамадскасці, кіраўніцтва творчага саюза вырашыла пазнаёміць са становішчам, якое склалася вакол Дома літаратара, айчынных і замежных журналістаў, акрэдытаваных у сталіцы Рэспублікі Беларусь. У аўторак у Доме літаратара з гэтай нагоды была наладжана прэс-канферэнцыя. Прадстаўнікі "чацвёртай улады" ахвотна адгукнуліся на запрашэнне. Прыйшлі журналісты Расійскага інфармацыйнага агенцтва "Навіны", Польскага агенцтва друку, Сусветных тэлевізійных навін, рэдакцый газет "Народная воля", "Свабода", "Белорусский рынок", "Белоруссия", "Товарищ", "Звязда" і іншых.

Пра тое, што Дом літаратара з'яўляецца ўласнасцю СП, спасылаючыся на шматлікія дакументы, доказна расказаў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак. Тыя ж, хто прэтэндуе на Дом літаратара, сярод іншых аргументаў (часам не на прамую, а завуаліравана, ад чаго сутнасць не мяняецца) прыводзяць у карысць перадачы яго ў кіраванне Упраўленнем справамі Прэзідэнта "арэндны фактар": маўляў, здаючы асобныя памяшканні ў арэнду, пісьменнікі ледзь не нажываюцца. В. Зуёнак падрабязна спыніўся і на гэтым аспекце, апелюючы да лічбаў, якія, як кажуць, гавораць самі за сябе.

За мінулы, 1996 год, ад здачы памяшканняў у арэнду, работы кафэ і г.д. было атрымана 1 мільярд 603 мільёны рублёў. З гэтай сумы розныя падаткі і адлічэнні склалі 788 мільёнаў, а гэта больш за пяцьдзесят працэнтаў. З тых грошай, што засталіся браліся сродкі на ўтрыманне будынка (ацяпленне, энергазабеспячэнне, падтрыманне яго ў належным стане), выдаткоўваліся на творчую работу — правядзенне вечарын, наладжванне сустрэч, на зарплату тым, хто працуе ў розных службах Дома літаратара... Прыкладна 350 мільёнаў было выкарыстана для аказання фінансавай дапамогі пісьменнікам. Як вядома, 100 літаратараў з'яўляюцца інвалідамі, ветэранамі, а пенсіі іх малыя. Да ўсяго з гэтай сумы бяруцца грошы на арганізацыю пахавання літаратараў.

Як неабгрунтаваныя, адвёў В. Зуёнак і меркаванні аб тым, што Дом літаратара можа быць "для нажывы" прададзены Фонду Сораса ці якой-небудзь іншай арганізацыі. Дом літаратара, падкрэсліў В. Зуёнак, калектыўная ўласнасць грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў, а такая ўласнасць, паводле закона, продажу не падлягае.

Пра становішча, якое склалася вакол Дома літаратараў, гаварылі таксама пісьменнікі Карлас Шэрман, Сяргей Грахоўскі, Сямён Букчын, Генадзь Бураўкін, Віктар Казько і іншыя.

Журналісты задалі шэраг пытанняў, каб удакладніць асобныя моманты. У прыватнасці, пыталіся, што канкрэтна робіцца кіраўніцтвам СП, каб ўратаваць сваю законную ўласнасць. З адказаў даведаліся, што ў Мінскі гарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне пікетавання, але, паводле інсуючага парадку, яна павінна быць разгледжана на працягу двух тыдняў. У адпаведнасці з Законам, звярнуліся пісьменнікі і ў Гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь.

З боку журналістаў было і такое пытанне, ці гатовы пісьменнікі на крайнія меры ў адстойванні сваёй уласнасці, наконт чаго прагучаў адказ, што ўсе меры, якія будуць прымацца па абароне ўласнасці, не павінны выходзіць за межы закона. Пасля гэтага, з вуснаў аднаго з тэлежурналістаў пачулася, што ў такім выглядзе падача матэрыялу на іх тэлеканале нікога не зацікавіць...

Дом літаратара, цяпер, па словах В. Зуёнка, ператварыўся ў яблык разладу, які ніяк не ўдаецца падзяліць.

Праўда, як гэта найчасцей бывае апошнім часам, больш вялікі кавалак у такіх выпадках адкусвае той, у каго больш улады. Прынамсі, за некалькі хвілін да пачатку прэс-канферэнцыі кіраўніцтву СП патэлефанавалі з Гаспадарчага суда і паведамілі, што судовы іск пісьменнікаў не будзе прыняты да разгляду.

Калі вы, шаноўныя чытачы, атрымаеце гэты нумар "ЛіМа", відаць, з суда ўжо прыйдзе і афіцыйны адказ на зварот СП. Папера, як вядома, усё можа вытрымаць. Толькі як быць з гэтым самым яблыкам разладу, які на паверку аказаўся вельмі горкім.

**НАШ КАР.**

# У засені помніка Купалу

***Таварыства беларускай мовы, Сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада" і музей Янкі Купалы, які нядаўна таксама далучыўся да правядзення паэтычных чытанняў, наладзілі на мінулым тыдні чарговую імпрэзу. Гэтая вечарына, прымеркаваная, дарэчы, да Дня Незалежнасці, традыцыйна адбылася ў сталічным скверы імя Купалы. Знойку панавала атмасфера даверу і шчырасці, знойку гучалі вершы і музыка.***

***Гэтым разам у чытаннях бралі ўдзел Сяргей Законнікаў, Антаніна Хатэнка, Сяргей Панізнік. Аздаблялі іх выступленні барды Андрэй Мельнікаў і Аляксей Галіч. Цікава, што перад чытаннем уласных вершаў, каб не ператварыць іх у чыста сцэнічнае майстэрства, паэты распавядалі прысутным пра сваё творчасць і жыццё — пра тое, як пішацца, пра тое, што выдаецца.***

***Напрыканцы вечарыны свае вершы чытаў Генадзь Бураўкін, вядучы згаданага мерапрыемства. Менавіта з ім, старшынёй Таварыства беларускай мовы, адным з арганізатараў гэтых паэтычных чытанняў, я і напрасіўся пагутарыць.***

**— Генадзь Мікалаевіч, без сумневу, задума праводзіць пастаянныя паэтычныя чытанні надзвычай файная. А ажыццяўленне гэтай ідэі, на вашую думку, можна назваць удалым?**

— Ацэнку ў першую чаргу павінны даваць тыя, хто прыходзіць на нашыя вечарыны. Але што да мяне, то я мяркую, што гэта справа добрая, вартая жыцця, падтрымкі і развіцця. Бо на кожную сустрэчу прыходзяць тыя, каму гэта сапраўды цікава і неабходна. Таму і выступаць перад імі прыемна. Галоўнае — нам, на маю думку, удаецца захоўваць дастаткова высокі ўзровень чытанняў. З самага пачатку мы вырашылі складаць праграму наступным чынам: выступаюць вядомыя паэты, спяваюць барды, даём выказацца, калі тыя просяць слова, прысутным слухачам. Ёсць, аднак, і шэраг недахопаў. Па-першае, у арганізацыі. Недастатковы розгалас, недастатковая рэклама, ананасаванне нашых паэтычных чытанняў. Па-другое, не заўсёды ўдала абсталяваны вечарыны тэхнічна. А гук, самі разумееце, на такіх імпрэзах павінен быць выдатны. Было б няблага яшчэ, каб падчас чытанняў працавалі кіёскі паэзіі, дзе б прадаваліся разнастайныя выданні, сувеніры, касеты з беларускімі песнямі і г. д.

**— Выступленні "Бум-бам-літа", бардаў, меркаваны гэтым разам удзел маладых паэтаў з "Першацвета" — гэта захады, каб прыцягнуць моладзь альбо імкненне разнастаіць чытанні?**

— І тое, і другое. Маладыя паэты — гэта наш заўтрашні дзень, таму мы і запрашаем таленавітых дзяўчат і юнакоў. Адзінае, што хачу сказаць пра згаданы вамі "Бум-бам-літ". Трэба ўлічваць нашы беларускія традыцыі, характар народа. Я падзяляю імкненне эксперыментаваць, шукаць новыя формы, ісці ў нагу з модай (можа, гэтага і не хапае нашай літаратуры). Але калі пераступаюцца межы прыстойнасці, — гэта не дадае аўтарытэту нашым сустрэчам. Трэба трохі "рэцэнзаваць" сябе. За спіною ж — помнік Янку Купалу...

**— На жаль, слухацкая аўдыторыя на чытаннях невялікая. Гэта ёсць праява абыякавага стаўлення беларусаў да айчыннай літаратуры?**

— Ні ў якім разе. На людзей няма ніякага арганізацыйнага ціску, яны прыходзяць паводле сваёй волі і патрэбы. Ды і навошта натоўп? Лепш шчырасць вось гэтых дзвюх соцень.

**— Паэтычныя вечарыны мусяць удасканальвацца? Што ў планах?**

— Так, мы плануем уводзіць у чытанні новыя элементы. Калі нас падтрымаюць з грашыма, мяркуецца арганізоўваць літаратурныя конкурсы для дзетак, турніры пачынаючых паэтаў. Збіраемся таксама запрашаць спевакоў, кампазітараў, якія супрацоўнічаюць з паэтамі. Паабяцалі нам падтрымку мастакі: пераможцы нашых конкурсаў і турніраў будуць узнагароджвацца іхнімі работамі. Напярэдадні — нямала новага, цікавага...

**Кірыла ПАЗНЯК**

ПОГЛЯД

# Чарнобыль: нясконачаны ўрок

## Ці помста тым, хто страціў памяць?

Чаму мы так жывём? Чаму мы, беларусы, самыя адсталыя і нямоглыя, толькі льём паэтычныя слёзы над сваім лёсам і амаль нічога не робім практычна дзеля свайго выратавання? Ці мала ўрокаў дала нам гісторыя, далёкая і сучасная! А якія высновы зроблены? Ці навучыліся хоць чаму? Вось і Чарнобыль, гэты сусветны ўрок найноўшай гісторыі, відаць, вучыць больш немцаў, шведаў ці японцаў, а мы зноў ззаду, зноў не можам усвядоміць, што ж з намі адбылося, чаму нас у чарговы раз "падставілі" і як зрабіць, каб гэтага не паўтарылася.

А здарылася сапраўды вялікая бяда, планетарная катастрофа, вынесці галоўны цяжар якой выпала нашаму народу. Магчыма, мы, беларусы, не абраны Богам народ (а калі абраны — то са знакам "мінус") і не здолеем вынесці гэткі крыж, захаваўшы сябе як нацыю. Але будзе грэх не паспрабаваць яшчэ раз, на апошняй мяжы, перамагаючы ўсю неспрыяльнасць і супраціў лёсу.

Чарнобыль і яго наступствы — небывалае і невядомае гора. Думаю, што для беларусаў яно прынясе няшчасцяў і страт больш, чым апошняя вайна. След яго пройдзе праз стагоддзі, праз біялагічную і духоўную памяць многіх пакаленняў. Пік самой катастрофы — інтэлектуальнага і фізічнага заняпаду 10-мільённага народа — будзе гадоў праз 30, калі ля дзяржаўнага стырна мусяць стаць "дзеці Чарнобыля" — тыя, хто нарадзіўся пасля 86-га і здолеў дажыць да 30—40-гадовага ўзросту. А колькі б яшчэ магло нарадзіцца, а колькі б магло дажыць...

Цяжка знайсці словы, каб выказаць той боль, роспач і бяссілле, якія агортваюць пры думках аб Чарнобылі. Прайшло 11 год, але не пакідае пачуццё віны і недагаворанасці, крыўды і падману. Я сам паляшук, і таму мяне добра зразумеюць землякі, якія апынуліся ў выгнанні, страцілі радзіму, здароўе, блізкіх. Зразумелі б і тыя, для каго ўжо няма ні пакут, ні радасці. Але не да помсты заклікаюць душы ахвяр — будучых і былых, — а да праўды, да справядлівасці. Трэба нарэшце сказаць, што гэта было дзяржаўнае злачынства супраць народа, якое ўчыніла савецкая сістэма рукамі сваіх стаўленікаў, і 26 красавіка 1986 года — толькі яго пачатак. Нельга вярнуць памерлых і адкруціць назад стужку часу, але трэба сказаць праўду і назваць усё сваімі імёнамі, бо сёння ажыўшая сістэма зноў цягне нас у чарнобыльскую бездань, зноў "мудрыя" ўказы і дэкрэты зрабілі нармальнымі радыяцыю і ўмовы для жыцця ў зоне, нараджаюць планы новых АЭС. Пра якія ўрокі Чарнобыля можна казаць, калі сёння пануюць тыя ж прынцыпы, тая ж улада, тыя ж людзі, на сумленні якіх ляжыць катастрофа і яе наступствы?! Усё было дарма, трэба пачынаць спачатку.

Прыйшоў нарэшце час стварыць Беларускі Чарнобыльскі мартыралог, а мо і трыбунал (назва можа быць і другой), які б заняўся зборам поўнай інфармацыі аб наступствах аварыі ў нашай краіне, фактаў дзейнасці (ці бяздзейнасці) кіруючых асоб і ведамстваў, прававой, эканамічнай і экалагічна-медыцынскай ацэнкай гэтых дзеянняў. Трэба нарэшце сказаць, што было злачынствам, што марнатраўствам, што злачыннай халатнасцю і г.д. Тут шмат работы не толькі для юрыстаў і праваназнаўцаў, але і для эканамістаў, медыкаў, эколагаў, палітыкаў. Ні для каго не сакрэт, што ў постчарнобыльскі перыяд былі і вялізныя матэрыяльныя страты за кошт непраўданай будоўлі ў забруджаных зонах, і перакачванне сродкаў на нечарнобыльскія мэты ды іншыя эканамічныя злоўжыванні, у якіх вінавата не проста "сістэма", а канкрэтныя асобы.

Пра медыцынскія аспекты катастрофы сказана нямала, але сярод іншых трэба адказаць на пытанне — што належала, ды не было зроблена для абароны насельніцтва (асабліва ў першыя тыдні і месяцы), якія прычыны гэтага. Таму што рак шчытападобнай залозы — якраз тое, чаго можна было б пазбегнуць і чаго не назіраецца ў іншых краінах, дзе не было "самай свабоднай" сістэмы дзяржаўнай дэзінфармацыі.

Пытанняў шмат, праблем яшчэ больш. Сярод іх і праблема кампенсацый, у тым ліку і праваераемніцы СССР — Расіі перад Беларуссю. Паколькі сённяшнія (як і ўчарашнія) улады не зацікаўлены ў вырашэнні гэтых і іншых праблем Чарнобыля, то слова павінна сказаць грамадскасць, людзі, неабыякавыя да лёсу свайго народа. Прыватная грамадская ініцыятыва мусіць зрабіць тое, чаго ніколі не зробіць дзяржаўнае чынавенства — патурбавацца аб нашай будучыні, аб беларускай перспектыве. Бо жыццё народа, урэшце, даўжэй за існаванне радыеізатопаў, а гісторыя працягваецца, нягледзячы на ўсе прароцтвы, катастрофы і змены рэжымаў.

**Васіль АЎРАМЕНКА**
г. Магілёў

АДГАЛОСКІ

# Адкажа ягамосць Час

## ДА РОЗНАГАЛОССЯЎ СЯРОД САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Праблемы ў беларускай сацыял-дэмакратыі ўзніклі з-за таго, што некаторыя сябры партыі сталі і стаяць да гэтага часу на нацдэмаўскіх пазіцыях. Міхась Чарняўскі, было, стамляўся казаць пра неабходнасць заняцца ў першую чаргу тэмаю сацыяльных гарантый чалавека наёмнай працы. Для вырашэння пытанняў нацыянальна-дэмакратычнага кшталту ёсць БНФ і БНДП пры ім. Калі пры сп. Міхасю Ткачове эсдэкаўская ідэя паступова матэрыялізавалася, то пры сп. Алегу Трусаве грамадоўцы трывала і, здавалася, незваротна ўвайшлі ў нацдэмаўскую каляіну. На з'ездзе, калі вырашалася пытанне старшынёўства ў Грамадзе, некаторыя грамадоўцы-нацдэмы падкрэслівалі якраз ролю сп. Трусава ў беларускім нацыянальным Адраджэнні, чаго сп. Трусаў, дарэчы, сарамліва не аспрэчваў. Але пераважная большасць галасоў была аддадзена сп. Міколу Статкевічу менавіта з увагі на прадстаўленае ім бачанне дзейнасці партыі ў рэчышчы сацыял-дэмакратычнай ідэі пры ўліку беларускай рэчаіснасці і грамадоўскіх традыцый.

Вось з гэтага і пайшло раздваенне БСДГ, хаця часткі яе былі і ёсць нярoўныя. Надаць вагі нацдэмаўскай часткі Грамады наўрад ці можа нават і значнасць асоб, якія падпісаліся за яе "адраджэнне". Што да растраення, то гэта ўжо іншы этап адзінага працэсу па расколе грамадоўскіх шэрагаў. Удары партыя спазнае, вобразна кажучы, і справа, і злева. Але Грамада была, ёсць і будзе.

Чаму ж шаноўныя падпісанты не могуць ці не хочуць мацаваць тое, што ёсць, — Народную Граmаду? Адказ можа быць да банальнасці просты. Ды таму, што большасць з іх проста ўведзена ў зман тымі, хто няздольны суняць свае амбіцыі і баіцца непахіснасці старшыні БСДП. Мікола Статкевіч не будзе хістацца сам і не дазволіць гэтага рабіць партыі. Не ў яго правілах даваць слова, а потым за абяцанак партфеля ў будучым "урадзе" брутальна яго парушаць, падстаўляючы тым самым свайго брата-дэмакрата і ў цэлым уносячы раскол у дэмакратычны рух.

Але пішацца гэта не з жадання абараніць старшыню беларускіх эсдэкаў. Яму тое без патрэбы, хаця падтрымка ў няпростым час нікому не шкодзіць.

Староннім назіральнікам захады па "адраджэнні" Грамады могуць быць успрыняты, як дзеянні патрыётаў па недапушчэнні дыскрэдытацыі старэйшай на Беларусі палітычнай партыі. Ведама ж, якія асобы паўсталі на яе абарону: Шушкевіч, Быкаў, Гілевіч, Законнікаў, Бураўкін, Брыль!.. Але гэта толькі вонкавы бок справы. Ды й ці ўсе з іх дакладна ведалі, за што падпісваліся?

Паважаны Станіслаў Станіслававіч павінен быў бы прыгадаць, што тыя самыя сацыял-дэмакраты-грамадоўцы, якія прымалі актыўны ўдзел у яго прэзідэнцкай кампаніі, не бегаючы пры гэтым да яго асабіста з пахвальбою, склалі касцяк Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады), утворанай шляхам аб'яднання БСДГ і ПНЗ. Дарэчы, сп. Шушкевічу ў свой час прапанoўвалася ўступіць у Грамаду. Нават, па словах А. Трусава, была на тое яго згода. Але ж у ВС 13 склікання ён самахоць далучыўся да фракцыі "грамадзян". З якой жа гэта прычыны вядомы палітык такі няўстойлівы ў сваіх пераконаннях?

Магчыма, у сацыял-дэмакратычнай фракцыі "Саюз працы" яму не прапанавалі "пасады", адпаведнай яго ўспрыманню уласнай персоны? Падобных да яго слынных дзеячаў там і без таго хапала. Адзін толькі Пётр Краўчанка мог бы сваім імем захінуць колькі лідэраў! Дзе, праўда, зараз паважаны Пётр Кузьміч, якому грамадоўцы для пачатку прапанавалі паднясць на новыя вышыні дзейнасць "Фонду братоў Луцкевічаў"? Дзейнасць гэта дасягнула ўзроўню, як той казаў, "ніжэй каленяў", а экс-міністр замежных спраў, кажуць, выяўляе сябе ўжо ў беларускім "яблоке". Перад гэтым ён, праўда, крыху спулкаваўся з А. Трусавым, які зараз вярнуўся да шчыльных кантактаў з С. Шушкевічам. Непастаянства, як вядома, упрыгожвае жанчыну. Так і хочацца запытацца: што ж робіцца з нашымі палітычнымі мужамі?

Магчыма, Станіслаў Станіслававіч, стаўшы дэпутатам ВС 13-га склікання, збаяўся цяжкасцяў, якія былі непазбежнымі пры вывядзенні разнамаснай фракцыі эсдэкаў на шлях сацыял-дэмакратыі з наданнем ёй таксама і беларускай нацыянальнай адметнасці? Зрэшты, у кожнага з палітыкаў была і ёсць магчымасць выявіць сябе на ніве сацыял-дэмакратыі. Але для гэтага трэба, зацугляўшы свае амбіцыі, найперш заняцца мазольнай арганізацыйнай работай. Трэба падпарадкаваць сябе думцы, што не Беларусь існуе дзеля ўласнай персоны, а сам пакліканы на цягавітую працу дзеля Беларусі. Не калоць трэба і без таго разрозненае беларускае грамадства, а яднаць намаганні на пабудову незалежнай дзяржавы, якую нехта з-за браку часу, адпушчанага Богам, магчыма, і не пабачыць. Ёсць і такая суровая жыццёвая рэальнасць. Пры такім збегу абставін і ўзнікае непераадольнае жаданне, вобразна кажучы, "трапіць пад тарантас", ды каб пра гэта абавязкова напісалі ў газетах. А тут яшчэ і прэзідэнцкія выбары некалі могуць адбыцца. Вось і мітусіцца той-сёй з палітыкаў, ствараючы ўласны падмурак, каб адхапіць у выбарчай кампаніі пару-тройку працэнтаў галасоў выбаршчыкаў.

Пры аб'яднанні Грамады і ПНЗ некаторыя грамадоўцы, якім іх аднапартыйцы незадоўга перад тым не даверылі кіруючай пасады, лямантавалі, што яны не жадаюць спулкавацца з партыяй Сечкі ды розных "прэзідэнцкіх кантралёраў". Ім тады было сказана, што аджылае лушпінне адваліцца і ў сацыял-дэмакратычнай партыі застануцца патрыёты Беларусі, прыхільныя да сацыял-дэмакратычнай ідэі. Аб'яднанне было патрэбна менавіта для зліцця здаровых сіл. Дзе зараз і Сечка, і Пашкевіч, і некаторыя іх аднадумцы? Толькі ж партыя і без іх не страціласа, застаючыся партыяй беларускіх патрыётаў з эсдэкаўскімі перакананнямі.

Але работа па далейшым расколе Грамады не спынена. І на гэты раз ёю займаюцца людзі, якія сябе называюць дэмакратамі і патрыётамі Бацькаўшчыны. Ці яны не разумеюць сутнасць сваіх дзеянняў? Трэба думаць, што разумеюць. Тады застаецца меркаванне, што іх штурхае на падобныя дзеянні не проста празмерная ўласная амбітнасць, а гэту заганную рысу характару надзвычай удала і эфектыўна скарыстоўваюць улады. Тады ці варта падобным дзеячам ад палітыкі размахваць нацыянальнымі сцягамі?

З "адраджэннем" ПНЗ з Грамады адцягнута пэўная колькасць яе сяброў. Найперш гэта людзі, нейкім чынам задзейнічаныя ў розных прэзідэнцкіх ці да іх блізкіх структурах. Тым самым выканаўцы, свайго роду, дзяржаўны заказ, аналагічны па змесце і сутнасці стварэнню чыкінскай кампартыі і "патрыятычнай" маладзёжнай арганізацыі. "Адраджэнскі" сверб некаторых грамадоўцаў, якія на гэты раз сваім лідэрам выставілі Станіслава Шушкевіча, таксама адцягне з партыі нейкую яе частку, у першую чаргу найбольш радыкальна настроеных сяброў. І што адметна: менавіта яны на прэзідэнцкіх выбарах не працавалі ў камандзе сп. Шушкевіча, бо былі і ёсць прыхільнікі адпаведных іх духу ідэй Беларускага народнага фронту. Чарговы парадокс беларускай рэчаіснасці? Можа і так. Але галоўным тут ёсць пытанне, каму гэта выгадна?

На яго, верагодней за ўсё, адкажа ягамосць Час. Сёння ж можна з добрай доляй верагоднасці казаць: не будзе на Беларусі толку, пакуль аднадумцы на словах не рэалізуюць свае памкненні праз справы. А для гэтага трэба, што найменей, зацісну́ць горшыя праявы сваёй ганаровай натуры ў кулак і закасаць рукавы дзеля стваральнай працы, часам нябачнай і нягучнай, але так патрэбнай Беларусі!

**Я. МІХАЛЮК**
г. Мінск

ВІНШУЕМ!

# Адзначаны медалём Францішка Скарыны

За шматгадовую плённую працу ў друку медалём Ф. Скарыны ўзнагароджаны загадчык рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі Іосіф ХАЎРАТОВІЧ. Указ аб узнагароджанні падпісаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

# Чарговыя ганаровыя званні

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі вядучаму навуковаму рэдактару рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю выдавецтва "Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі Ефрасінні ФЕШЧАНЦЫ за вялікі ўклад у распрацоўку беларускай навуковай тэхналогіі для энцыклапедычных выданняў прысвоена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь".

За вялікі ўклад у адраджэнне беларускай музычнай культуры, падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў Указам Прэзідэнта рэктар Беларускага інстытута праблем культуры Уладзімір СКАРАХОДАЎ адзначаны ганаровым званнем "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь".

За значны ўклад у развіццё і прапаганду беларускага музычнага мастацтва гэтага ж звання ўдастоены галоўны хормайстар Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча Іван АБРАЗЕВІЧ.

ПОВЯЗЬ

# Гуртуецца творчая моладзь

Натуральна, камусьці не падабаецца, што айчынная моладзь не толькі неабыякава ставіцца да таго, што дзеецца ў краіне, а нават больш за тое — бярэ актыўны ўдзел у разнастайных палітычных акцыях. Дарэчы, менавіта праз гэта шмат хто з маладых і далучаецца да нацыянальнага, да беларушчыны. Апошнім часам творчыя памкненні моладзі сталі рэалізоўвацца ў шматлікіх літаратурна-мастацкіх суполках. Маштабы можна параўноўваць хіба з перыядам дзейнасці "Маладняка" і "Узвышша" ў 20-я гады.

Выразна ілюструе згаданы працэс стварэнне яшчэ аднаго маладзёжнага аб'яднання падобнага кшталту. Так, у хуткім часе ў Мінску з'явіцца таварыства творчай моладзі "Рунь", асноўнымі напрамкамі дзейнасці якога дэкларуюцца выяўленне і падтрымка, у тым ліку і фінансавая, маладых талентаў, арганізацыя творчых вечарын, выстаў і канцэртаў. Ініцыятарамі стварэння суполкі выступілі некалькі дастаткова вядомых у маладзёжным незалежным руху асоб. "Рунь" збіраецца падтрымліваць БСДП "Народная Грамада".

Сёння ў таварыства творчай моладзі ўваходзяць блізка дваццаці чалавек, якія займаюцца першай значнай справай — рыхтуюць да выдання літаратурны зборнік. У ім будуць змешчаны творы маладых аўтараў. Зараз ідзе папярэдняе рэцэнзаванне і адбор матэрыялаў, прычым па дапамогу мяркуецца звярнуцца да вядомых беларускіх літаратараў. Такім чынам, можна спадзявацца, што змест зборніка будзе прыстойным.

**К.П.**

# Надзейны партнёр

## СТВОРАНЫ МАЛАДЗЁЖНЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЦЭНТР

**Ідэя каардынацыі дзейнасці розных маладзёжных арганізацый дэмакратычнага кірунку нарадзілася даволі даўно. Яшчэ ў 1994-ым прыкладаліся намаганні стварыць надарганізацыйныя структуры ў дэмакратычным маладзёжным руху, аднак той-сёй з прадстаўнікоў арганізацый палічыў гэта спробай чыйгосьці чарговага кіраўніцтва. Сёлета ідэя каардынацыі і дапамогі ўсё ж ажыццявілася, але на іншай аснове. Створаны маладзёжны інфармацыйны цэнтр (МІЦ), дзейнасць якога скіравана найперш на лідэраў і актывістаў розных маладзёжных грамадскіх арганізацый. Такая мадэль цэнтраў даўно вядомая ў заходніх краінах. Там асноўная сістэма каардынацыі дзейнасці няўрадавых маладзёжных арганізацый — сістэма рэгіянальных і нацыянальных рад арганізацый. Аналагічная сістэма складаецца цяпер і ў Беларусі. Зарэгістравана Нацыянальная рада маладзёжных арганізацый Беларусі, дзейнічае рэгіянальная гарадзенская рада. Аднак сістэма такіх рад недастатковая, бо на іхніх пасяджэннях і ладжаных імі семінарах атрымаць якуюкольвечы канкрэтную сур'ёзную падтрымку даволі цяжка.**

**Што да інфармацыйнага цэнтра, то асноўнай яго задачай якраз і ёсць падтрымка грамадскіх структур. Да прыкладу, у Славакіі існуюць ажно 3 такія цэнтры. У Мінску маладзёжны інфармацыйны цэнтр агульнанацыянальнага маштабу заснавалі людзі, якія маюць як мінімум двух-, трохгадовы досвед грамадскай дзейнасці. Мы часта гаворым пра агульную грамадскую пасіўнасць моладзі ў Мінску, тым часам сітуацыя ў беларускай правінцыі незраўнана горшая. У бальшыні раённых цэнтраў краіны наогул няма ніякай маладзёжнай арганізацыі. Паявіўся там дзяржаўны патрыятычны саюз, у рэгіёнах пайшло актыўнае запісванне туды маладых людзей. Як мяркуе кіраўнік МІЦа Алесь Міхалевіч, незалежна ад таго, ці будзе БПСМ дзейным на месцах, прастора для чыннасці іншых арганізацый там вельмі вялікая. Патрэбна каардынацыйная праца, і цэнтр бярэ гэтую місію на сябе. Апрача таго, пачынаючы з восені, будзе рэалізоўвацца праграма навучальных семінараў для лакальных маладзёжных арганізацый. Таксама ўвосень пачнуцца семінары па карыстанні "Інтэрнетам" і семінары па самакіраванні ў навучальных установах. Увогуле, адна з асноўных мэт стваральнікаў цэнтра — развіццё паўнацэннага студэнцкага самакіравання. Варта адзначыць і праграму пашырэння інфармацыі пра замежныя стыпендыі для маладых беларускіх навукоўцаў. У рамках гэтай праграмы падрыхтавана і прадстаўленне інфармацыі пра рознатэматычныя канферэнцыі і семінары, якія ладзяць замежныя адукацыйныя ўстановы.**

**Адзін з асноўных кірункаў працы цэнтра — дапамога ў рэалізацыі незалежных выдавецкіх праектаў. Паводле слоў кіраўніка праграмы "Выдавецкая ініцыятыва" Зміцера Вайцяховіча, цэнтр ужо сёння спрабуе дапамагаць маладым незалежным выдаўцам пераадолець планку аматарскага ўзроўню і стварыць аснову для далейшага прафесійнага развіцця новага выдання. У блізкім часе пачне выходзіць часопіс МІЦа, які якраз і разлічаны на прафесійную падрыхтоўку выдаўцоў. Стваральнікі спадзяюцца, што рэакцыя на гэты часопісны праект дасць магчымасць скаардынаваць дзейнасць цэнтра ў цэлым. Вялікую цікавасць паміж іншых праектаў "Выдавецкай ініцыятывы" выклікае падрыхтоўка бібліятэкі беларускіх шрыфтоў.**

**Звяртаем вашую ўвагу на тое, што МІЦ дапамагае юрыдычнымі кансультацыямі пры напісанні статутаў і падрыхтоўцы дакументаў для падачы ва Упраўленне юстыцыі, каб арганізацыі маглі бесперашкодна зарэгістравацца. Апрача таго, вам могуць дапамагчы ў завязванні кантактаў з патэнцыйнымі замежнымі партнёрамі і нават пракансультаваць пра напісанне заявак на атрыманне грантаў.**

**Падкрэсліваем, дзейнасць цэнтра скіравана найперш на падтрымку актыўных недзяржаўных маладзёжных арганізацый.**

**Па мінскіх тэлефонах** ***232-69-67 і 210-16-37*** **вы можаце скантактавацца з агульнабеларускім МІЦам.**

**Ю. Б.**

***Душан Даскачыл нарадзіўся ў 1943 годзе ў Славакіі. Пасля заканчэння МДІМА ў 1968 годзе паступіў на работу ў МЗС ЧССР. Вясной 1971 года па палітычных матывах звольнены. Да мая 1990 года працаваў у бюро падарожжаў "Чэдак".***

***Пасля палітычнай рэабілітацыі ў 1990 годзе вярнуўся на работу ў МЗС ЧССР, дзе працаваў ва Упраўленні краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (СССР, СНД).***

***У студзені 1992 года быў накіраваны на работу ў Пасольства ЧСФСР у Маскве.***

***З кастрычніка 1994 года — Часовы Павераны ў справах Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.***

# Душан ДАСКАЧЫЛ: "Мне прыемна быць сярод беларусаў..."

**— Якое ўражанне выклікае ў вас наша краіна?**

— У Рэспубліцы Беларусь працую ўжо трэці год і павінен сказаць, што задаволены тым, як лёс распарадзіўся. Мне прыемна быць сярод беларусаў не толькі таму, што Чэшская Рэспубліка ў іх узаемна выклікае вялікую цікавасць. Тут не сустрэнеш нацыяналізму, а наадварот, — цікавасць да новага, жаданне жыць па-новаму.

**— Якія сёння асноўныя тэндэнцыі беларуска-чэшскіх адносін? У якіх галінах супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі развіваецца найбольш эфектыўна?**

— У нашых узаемаадносінах не назіраюцца супярэчнасці, і лічу, што іх далейшаму развіццю павінны садзейнічаць актыўныя дзеянні нашых краін у сферы еўрапейскай праблематыкі, у пытаннях падтрымкі і абароны інвестыцый і ў пытаннях прадухілення ўзаемнага падаткаабкладання. Гэта яшчэ больш адкрые магчымасці пашыравага супрацоўніцтва ў галіне тавараабмену, стварэння сумесных прадпрыемстваў і капіталаўкладанняў.

Для росту долі беларускага экспарту пажадана нарошчванне ўдзелу беларускіх фірм у спецыялізаваных выставах у Чэшскай Рэспубліцы.

З мэтай развіцця ўзаемных эканамічных адносін была створана ў Празе гандлёва-прамысловая палата па супрацоўніцтве з краінамі СНД. Прасунулася таксама ратыфікацыя пагадненняў паміж Чэшскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь аб інвестыцыях і прадухіленні падвойнага падаткаабкладання.

**— Якія палітычныя і эканамічныя праблемы з'яўляюцца найбольш актуальнымі для Чэшскай Рэспублікі?**

— Усе мы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе выйшлі з аднаго цягніка і павінны вырашаць у прынцыпе адны і тыя ж задачы — датычыцца гэта эканомікі альбо палітыкі. Ва ўнутранай сферы — гэта ўмацаванне даверу дзяржавы і яе органаў у насельніцтва. Дзяржава не можа метадамі і формамі мінулага звяртацца да насельніцтва, і тут яе поле дзеянняў як у галіне сацыяльнай абароны, так і ў галіне прадастаўлення эканамічных і палітычных свабод. У галіне эканамічнай актуальным застаецца захаванне законнасці пры рэалізацыі працэсу прыватызацыі, пры выкананні падаткавай дысцыпліны, пры выкананні ўзятых на сябе фінансавых абавязацельстваў. Не менш важнай галіной застаецца дасягненне збалансаванага развіцця знешняга гандлю і плацёжнага балансу. Як бачыце, усё гэта праблемы, знаёмыя і беларускай эканоміцы.

**— Эканоміка Беларусі знаходзіцца ў стане глыбокага эканамічнага крызісу. Чэхія зусім нядаўна знаходзілася ў аналагічнай сітуацыі. Як яе ўдалося пераадолець?**

— Нядаўнія эканамічныя цяжкасці, з якімі сутыкнулася наша краіна, не насілі крызісны характар, нягледзячы на зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Гэта былі сістэмныя цяжкасці, у аснове якіх ляжала праблематыка змянення адносін уласнасці, унутранай перабудовы і макраэканамічных змен. Працэс рынкавай трансфармацыі праходзіў зусім не стыхійна, а па "нотах", напісаных дзяржавай, праходзіў поўнамаштабна і без скачкоў. Асноўная перавага, якой мы дамагліся, была ў стварэнні транспарэнтных правілаў для прадпрымальніцтва і даверу да дзяржавы.

Незалежныя даследаванні паказваюць, што і пры ўздыме вытворчасці мы яшчэ не дасягнулі ўзроўню 1989 года. Акрамя таго, наш вопыт даказвае, што пройдзены толькі "першапачатковы" этап рынкавай трансфармацыі. Перад намі цяжкі працэс завяршэння стварэння вышэйшых арганізацыйных форм у вытворчай, банкаўскай і фінансавай сферах, умацаванне свабодна канвертуемай нацыянальнай валюты. Важнае значэнне на гэтым этапе набывае правільнае вызначэнне суадносін паміж дзяржавай і свабодным рынкам.

**— Якія формы ўласнасці існуюць сёння ў Чэхіі? Якая з іх дамінуе? Якую ролю іграе дзяржаўная ўласнасць у развіцці эканомікі краіны?**

— Канстытуцыйна замацавана поўнае права прыватнай уласнасці і на практыцы рэалізуецца раўнапраўе ўсіх форм уласнасці. Пераважнай стала прыватная форма ўласнасці, якая сустракаецца ад дробнага вытворчага ці камерыйнага прадпрымальніцтва да буйной прамысловай вытворчасці, транспарту, фінансаў і г.д. Роля дзяржуласнасці ў эканоміцы не з'яўляецца вызначальнай, як не з'яўляецца вызначальнай і роля дзяржавы пры вызначэнні аб'ёмаў вытворчасці.

**— Наколькі ў Чэхіі рэалізавана ідэя пабудовы грамадзянскага грамадства? Што з чэшскага вопыту пабудовы грамадзянскага грамадства можна ажыццявіць ва ўмовах станаўлення суверэннай беларускай дзяржавы?**

— Грамадзянскае грамадства як праяўленне ўлады дэмакратыі для нас не столькі мэта, колькі інструмент стварэння па-новаму арганізаванага грамадства. У гэтым сэнсе мы на самым пачатку гэтага шляху. Дзяржава прадаставіла свабоду эканамічных дзеянняў гаспадарчым суб'ектам. Палітычныя свабоды рэалізаваны шляхам перадачы ўлады палітычным партыям, якія атрымалі перавагу на ўсеагульных парламенцкіх выбарах. Гэта важныя дасягненні, але перад намі яшчэ вырашэнне праблематыкі аховы здароўя, павелічэнне падтрымкі адукацыі і культуры, стварэнне больш глыбокай прафіляванай сістэмы самакіравання.

**— Правы грамадзян на атрыманне інфармацыі з'яўляецца адной з галоўных умоў дэмакратыі. У чым механізм яго рэалізацыі ў Чэхіі?**

— Тое, што адбылося ў гэтай галіне, раўназначна перавароту. Быў ажыццёўлены пераход ад дзяржаўнай кіруемай сістэмы інфармацыі да сістэмы незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў поўным аб'ёме. Спачатку ўсе яны былі пастаўлены дзяржавай у аднолькавыя ўмовы. Выключэнне складаюць толькі газеты і часопісы, якія выдаюцца нацыянальнымі меншасцямі (немцамі, палякамі, цыганамі), — яны атрымліваюць фінансавую падтрымку ад дзяржавы. Цікава, што сярод заснавальнікаў газет і часопісаў няма не толькі дзяржавы, але і буйных палітычных партый, што, вядома, не перашкаджае выказвацца ў газетах ім блізкія думкі. Трэба сказаць, што газеты і часопісы значна змянілі сваё аблічча і змест, сталі яшчэ бліжэй да сваіх чытачоў, толькі ў гэтым гарантыя іх жыццяздольнасці.

**Гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ**





# Прымаўка састарэла

У Балгарыі адбыліся перамены, якія хутчэй за ўсё канчаткова зарыентавалі краіну на Захад. Зразумеўшы, што падтрымка былых камуністаў прывяла эканоміку да краху, а працоўных — да галечы, народ шляхам масавых акцый прымусіў вышэйшае кіраўніцтва пайсці на перамовы з дэмакратычнай апазіцыяй і пагадзіцца на датэрміновыя выбары ў парламент. У выніку ўпэўнена перамагла партыя Саюз дэмакратычных сіл, якая і сфармавала новы ўрад на чале з яе лідэрам Іванам Коставым.

Улічваючы тое, што і прэзідэнт Балгарыі Пётр Стаянаў з'яўляецца дэмакратам па перакананнях, няцяжка вызначыць, што зніклі апошнія спадзяванні тых, хто марыў, па словах вядомага балгарскага пісьменніка і публіцыста Захарыя Стаянава, ператварыць краіну ў нешта накшталт "задунайскай губерніі" вялікага ўсходняга суседа. Сімвалічна, адзначаюць назіральнікі, што і свой першы афіцыйны візіт за мяжу новы кіраўнік урада нанёс у бельгійскую сталіцу, тады як раней гэта безумоўна была б Масква. Цяпер Балгарыя ўзяла цвёрды накірунак у Еўрапейскі Саюз. Так, кажуць лідэры гэтай балканскай краіны, нам неабходныя газ, нафта і іншая стратэгічная сыравіна, але лепей набываць іх па рынкавай цане, чымся зноў улазіць у стасункі, характэрныя для часоў "развітога сацыялізму", калі Балгарыя па волі Тодара Жыўкава і ягоных камуністычных хаўру сікаў ледзьве не стала 16 рэспублікай СССР. "Як і большасць маіх суграмадзян, — заявіў прэзідэнт Балгарыі Пётр Стаянаў, — я люблю Расію, рускі народ, рускую культуру, але Балгарыю я люблю ўсё ж болей і таму не маю намеру паступацца яе законнымі інтарэсамі".

Расійскія наглядальнікі адзначаюць, што дарэмна ўсё яшчэ ў ходу зняважальная прымаўка-выраз "курица — не птица, Болгария — не заграница". Час падобных вызначэнняў няўхільна заканчваецца, і гэта разумеюць у расійскім Міністэрстве замежных спраў. Ранейшую "дружбу" славянскіх народаў ды "брацтва па зброі" пара мяняць на надзейнае партнёрства і міжнароднае супрацоўніцтва.

# З мовай Казахстан вызначыўся

Да гэтай падзеі Казахстан ішоў цэлых 11 год, калі лічыць першае адкрытае выступленне казахскай моладзі ў абароны сваёй культуры і мовы. Гэта быў снежань 1986 года, і цэнтральная плошча Алма-Аты насіла імя Леаніда Брэжнева. Абвясціўшы незалежнасць, краіна пачала на ўзроўні органаў улады і кіравання пераходзіць на мову карэннага насельніцтва — казахскую.

Нядаўна тут апублікаваны закон аб мовах, прыняты парламентам і падпісаны прэзідэнтам Назарбаевым. Дзяржаўнай мовай адназначна абвяшчаецца казахская. Яна з гэтага часу становіцца мовай дзяржаўнага кіравання, заканадаўства, судовай сферы, справаводства, дзейнічае ва ўсіх сферах грамадскіх адносін на ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Авалоданне дзяржаўнай мовай у законе названа абавязкам кожнага грамадзяніна Казахстана.

"У дзяржаўных арганізацыях і органах мясцовага самакіравання побач з казахскай афіцыйна ўжываецца руская мова", — адзначана таксама ў законе. Прадугледжана і функцыянаванне моў іншых народаў, якія жывуць на тэрыторыі Казахстана. Дэкларуецца права грамадзян на карыстанне роднай мовай і на свабодны выбар мовы зносін, выхавання, навучання і творчасці. У той жа час у закон закладзена норма, якая асабліва не падабаецца тым, хто спадзяваўся спосабам ігнаравання захаваць існуючую цяпер практыку: прадугледжана стварэнне пераліку прафесій, спецыяльнасцей і пасад, для якіх добрае веданне дзяржаўнай мовы ў адпаведнасці з кваліфікацыйнымі патрабаваннямі з'яўляецца абавязковым.

Не забыты ў законе і сродкі масавай інфармацыі. Памер перадач па тэлерадыёканалах, "незалежна ад форм уласнасці, на дзяржаўнай мове па часе не павінен быць меншым сумарнага аб'ёму на іншых мовах". А гэта значыць, што і тут прыкметны прарытэт будзе ў казахскай мовы. Так што ў школах не спатрэбіцца больш нікога з бацькоў пераконваць, што, жывучы ў Казахстане, трэба дзеткам хоць трохі ведаць мову карэннага народа краіны.

**Падрыхтаваў У. А.**

ДУША

# Рассып праменні свае хвалы...

БЕЛАРУШЧЫНА і царкоўнаславяншчына. Іх мінулае і сучаснае, узаемадачыненні і ўзаемаўплывы... Цікавая тэма! Таму і не дзіва, што на старонках “ЛіМа” яна знаходзіць свае адгалоскі (N 23, Іван Чарота, “Каб не прапаў скарб”).

Паводле Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (том 5, с. 465), царкоўнаславянская мова (царкоўнаславяншчына) — гэта “літаратурная мова, пашыраная ў большасці славянскіх народаў у XI—XVII стагоддзях. **Утварылася яна на аснове першай літаратурна-пісьмовай мовы славян — старaславянскай — у выніку насычэння апошняй элементамі жывых славянскіх моў**” (тут і далей выдзелена мною. — **З. Ц.**). Адсюль “вылучаюцца зводы (рэдакцыі) царкоўнаславянскай мовы: сярэднебалгарскі, сербскі, чэшскі, **рускі, беларускі** і інш.”.



*Фота А. Клешчука*

Пра існаванне беларускага варыянта царкоўнаславянскай мовы, адрознага сваімі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі рысамі, гаварылі такія вядомыя мовазнаўцы XIX — пачатку XX стагоддзя, як А. Вастокаў, П. Уладзіміраў, А. Сабалеўскі, Я. Карскі, Я. Воўк-Левановіч і многія іншыя. На жаль, не згадаў пра беларускую царкоўнаславяншчыну ў сваім артыкуле з глыбокасімвалічнаю назваю “Каб не прапаў скарб” Іван Чарота.

А між тым, беларуская царкоўнаславяншчына існавала ў актыўным рэлігійным ужытку на тэрыторыі Беларусі ў XV — XVII стагоддзях.

Гэта **царкоўнаславянскай мовай беларускай рэдакцыі** ў 1489 годзе Паповіч Бярозка з Наваградка перапісваў знакаміты зборнік слоў, павучанняў і жыцій — “Чэцця”.

Гэта **царкоўнаславянскай мовай беларускай рэдакцыі** выдаваў свае кнігі ў XVI стагоддзі славуты беларускі першадрукар Францішак Скарына!

Вядомы царкоўны і грамадскі дзеяч Заходняй Беларусі Вячаслаў Багдановіч пісаў пра тыя часы ў сваім даследаванні “Праваслаўная царква на Беларусі” (“Беларускі сцяг”, 1922, N 1): “Ад Вітаўта (1430) і да пачатку XVII стагоддзя Беларусь змагалася пад сцягам праваслаўнай царквы за свае нацыянальныя правы... Перыяд ад 1430 і да 1619 году (да апошняй даты мы вернемся пазней. — **З. Ц.**) можна назваць перыядам збліжэння царквы і народа. Час збліжэння царквы з нацыяй даў росквіт беларускага рэнесансу ў мастацтве і асабліва літаратуры, а таксама росквіт рэлігійна-нацыянальнай свядомасці. Літаратура... чэрпала з багатай крыніцы народнай мовы свой слоўнік і формы, кіруючыся “да лепшага выразумення люду паспалітага”.

Так, у XV — пачатку XVII стагоддзяў беларуская царкоўнаславяншчына выконвала пачэсную ролю, несучы не сляпую, а збольшага ўсвядомленую веру ў сэрцы людзей, несучы веру поруч з мовай старабеларускай — літаратурна-пісьмовай мовай нашай сярэднявечнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Вялікага Княства) у XIV — пачатку XVIII стагоддзях.

Фактычна беларуская царкоўнаславяншчына ў сферы рэлігіі паступова і заканамерна саступала месца мове старабеларускай. І калі ў Масковіі рэлігійнае жыццё ва ўсіх яго праяўленнях **абслугоўвалася царкоўнаславянскай мовай маскоўскай рэдакцыі**, то ў тагачаснай Беларусі роля царкоўнаславянскай мовы была істотнай толькі ў праваслаўным набажэнстве і ў адпаведным літургічным кнігавыдавецтве. Літаратура, заснаваная на павучальным тлумачэнні Біблії, у Вялікім Княстве актыўна выдавалася па-старабеларуску.

Гэтаму спрыяла і пашырэнне ў нашай тагачаснай дзяржаве ідэй Рэфармацыі, прыхільнікі якой свядома імкнуліся раепаўсюджваць рэлігійную літаратуру на нацыянальных мовах.

Але вернемся да беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы.

Чаму ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў яна фактычна не атрымала далейшага развіцця (не была кадыфікавана), а пазней і ўвогуле была вымушана саступіць месца царкоўнаславяншчыне маскоўскага тыпу?

Адна з прычын ужо называлася: роля царкоўнаславянскай мовы ў тагачаснай Беларусі была непараўнана меншай за ролю, якую адыгрывала царкоўнаславяншчына ў Масковіі.

Другой прычынай, бясспрэчна, з’яўляецца ўзмацненне ў XVI—XVII стагоддзях польска-маскоўскай экспансіі на тэрыторыю Вялікага Княства. У выніку Беларусь таго часу сталася не толькі арэнай зацятага змагання каталіцызму і праваслаўя, што ўжо само па сабе штучна дзяліла беларускі народ, але і арэнай крывавых войнаў з Масковіяй (згадайма толькі маскоўскага цара Івана Жахлівага, які плюндраваў Беларусь на працягу 1558—1583 гадоў — падчас Лівонскай вайны).

Дык вось, экспансіянісцкая палітыка нашых суседзяў Польшчы і Масковіі прывяла да таго, што ўжо ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў грамадства Вялікага Княства было расколата па рэлігійна-палітычных прыкметах. Вялікакняжацкі патрыятызм быў абяскроўлены: частка насельніцтва пачала гарнуццца да пальшчызны (гэтаму паспрыяла і палітычная унія з Польшчаю — стварэнне Рэчы Паспалітай у 1569 годзе), а частка пачала бачыць ва ўсходнім суседзе абаронцу беларускага праваслаўя. Пры гэтым за сродак процістаяння пальшчызне і каталіцызму была абрана царкоўнаславянская мова, якая хуткім часам набыла маскоўскія рысы (не будзем забываць, што за маскоўскай царкоўнаславяншчынай стаяла ўся дзяржаўная машына “галоўнага абаронцы праваслаўя” — Масковіі).

Дык вось, падчас ужо згаданай Лівонскай вайны, развязанай маскоўскім царом Іванам Жахлівым, у Вялікае Княства ў 1566 годзе ўцякаюць расійскія першадрукары Пётра Мсціславец і Іван Федаровіч (Фёдараў) — беларусы па паходжанні. З сабой яны прывозяць кнігі, хораша выдадзеныя на маскоўскай царкоўнаславяншчыне. Праз два гады друкары працягваюць сваю выдавецкую працу на той жа царкоўнаславянскай мове маскоўскага тыпу, але ўжо на тэрыторыі Вялікага Княства. Адразу варта зазначыць, што кніжная прадукцыя “вялікакняжацкіх” друкарняў Івана Федаровіча і Пятра Мсціслаўца была ў істотнай ступені арыентавана на маскоўскі спажывецкі рынак. Між тым уплыў гэтых кніг быў вельмі магутны і на царкоўнаславянскую пісьмовасць у Вялікім Княстве. Як зазначаецца ў энцыклапедыі “Беларуская мова” (Мн., 1994, с. 601), “з’яўленне на Беларусі кніг на царкоўнаславянскай мове маскоўскага тыпу рускіх першадрукароў І. Фёдарава і П. Мсціслаўца” адыграла важную ролю ў тым, што “беларускія моўныя рысы ў помніках на царкоўнаславянскай мове пачалі прыкметна спадаць у апошняй трэці XVI ст. Друкарні Беларусі таго часу ў большасці выпадкаў перадрукоўвалі кнігі, выдадзеныя ў Маскве. Друкаваныя кнігі канца XVI ст. і пазнейшага часу служылі ўзорам для рукапіснай рэлігійнай літаратуры на царкоўнаславянскай мове. Усё гэта прывяло да значнага паслаблення і выцяснення тых граматычных і лексічных беларусізмаў, якія ў папярэдні перыяд траплялі ў царкоўнаславянскае пісьменства на Беларусі”.

Як бачым, пераарыентацыя ў канцы XVI — XVII стагоддзях беларускага кнігадрукавання “на рэлігійныя кнігі, выдаваныя ў Маскве” садзейнічала занядбанню скарынаўскіх моўных традыцый і мела ракавыя наступствы **для беларускай (!) царкоўнаславяншчыны.** Менавіта ад таго часу царкоўнаславянская мова маскоўскай рэдакцыі сталася эфектыўнай зброяй духоўнага заняволення праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў. Не забудзьма, што ў Маскоўскай дзяржаве “кірыліцкае кнігадрукаванне (да паяўлення раскольніцкага кнігадрукавання) уяўляла сабой ідэалагічна цэласны кірунак, на Беларусі... яно не было гэтак уніфікавана, цэнтралізавана і не карысталася дзяржаўнай падтрымкай” (Энцыклапедычны даведнік “Францыск Скарына і яго час”. Мн., 1988, с. 364). Аслабленне пазіцый беларускай царкоўнаславяншчыны, абумоўленае складаным гістарычным перыядам, прывяло да таго, што ў 1619 годзе рэлігійным дзеячам Вялікага Княства Мялеціем Сматрыцкім у знакамітай “Граматыцы” быў кадыфікаваны варыянт царкоўнаславянскай мовы, моцна набліжаны да маскоўскага (з невялікай колькасцю мясцовых моўных элементаў). Менавіта пагэтаму 1619 год беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч Вячаслаў Багдановіч азначыў як канец перыяду збліжэння праваслаўнай царквы і беларускага народа: “разбрат царквы з народнай беларускай мовай дорага абышоўся як беларускаму народу, так і самой праваслаўнай царкве! Літаратурная творчасць спынілася, пачалі закрывацца... беларускія друкарні.

У 1621 годзе зачынілася наследніца традыцый Ф. Скарыны Мамонічаўская друкарня ў Вільні.

У 1627 годзе віленская Св. Троіцкая друкарня, праслаўленая палемічнымі беларускімі друкамі, пачынае выдаваць кнігі па-польску. За гэтымі друкарнямі пазакрываліся іншыя — адны раней, другія — пазней”. Якім чынам “закрываліся” беларускія друкарні “пазней”, сведчыць гісторыя.

У 1654 годзе Маскоўская дзяржава пад ідэалагічным забеспячэннем “абароны” адзінаверцаў распачала з Рэччу Паспалітай, у якую з 1569 года ўваходзіла Вялікае Княства, чарговую вайну... За 13 год вайны ад гвалту, голаду і пamораў загінулі 52 працэнты насельніцтва Беларусі... “Былі разрабаваны палацы, храмы, манастыры, **вывезены ўсе друкарні...** Вынікам гэтай вайны было і тое, што антымаскоўскія настроі стымулявалі рост паланізацыі” (100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Мн., 1993. с. 73).

У такіх умовах ужо не тое што “не вялася гаворка” аб беларускай царкоўнаславяншчыне, але нават старабеларуская мова — дзяржаўная ў Вялікім Княстве — аказалася пад пагрозай існавання...

У 1696 годзе пастановай Варшаўскай генеральнай канферэнцыі старабеларуская мова замяняецца ў афіцыйных дакументах Вялікага Княства на польскую. У шырокім ужытку лацініца выцясняе кірыліцу...

У 1772, 1793, 1795 гадах Рэч Паспалітая падзелена паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Беларусь апынаецца пад Расійскай імперыяй...

Няцяжка здагадацца, што далейшае развіццё царкоўнаславяншчыны ва ўсходніх славян не было звязана ані з беларускім, ані з украінскім вектарамі. Як лаканічна піша Вялікая савецкая энцыклапедыя (том 28, Мн., 1978. С. 539): “У XVIII стагоддзі цэнтралізацыя і ўнармаванне царкоўнаславянскай мовы адбываліся на аснове царкоўнаславянскай мовы, ужыванай у Маскве”. Застаецца толькі дадаць, што нормы той “цэнтралізаванай на маскоўскім грунце” царкоўнаславянскай мовы застаюцца нязменнымі дагэтуль.

Менавіта такой царкоўнаславянскай мовай і вядзецца набажэнства ў беларускіх праваслаўных храмах сённяшнім часам. Беларуская мова да літургіі не дапускаецца. Якім чынам? Адказ у артыкуле Івана Чароты “Каб не прапаў скарб”. Сучасная царкоўнаславяншчына (фактычна яе расійская рэдакцыя) абвяшчаецца мовай найбольш прыдатнай для літургіі ў беларускіх праваслаўных храмах. Пры гэтым робяцца спасылкі на яе выключную “сакральнасць”.

Па-першае, не лішнім будзе нагадаць, што ў свой час толькі тры мовы лічыліся сакральнымі, вартымі Бібліі і малітваў: арамейская (старажытнагабрэйская), старажытнагрэчаская і лаціна. Тым не менш, “свяшчэннасць” арамейскай мовы не азначае, што сёння ёю неабходна весці літургію ў храмах Беларусі.

Па-другое, “заклапочанасць” сакральнасцю можна было б успрымаць усур’ёз, калі б беларуская мова шырока выкарыстоўвалася ў праваслаўных храмах нашай краіны хаця б па-за літургіяй... Але ж і ў пропаведзях, і ў катэхізацыі праваслаўныя іерархі Беларускага экзархата Маскоўскага патрыярхата Рускай праваслаўнай царквы карыстаюцца не беларускай і, нават, не царкоўнаславянскай мовай. **Руская мова** ўладна гучыць у беларускіх цэрквах. І тут ужо трэба весці гаворку не пра спадчыну Святых Кірылы і Мяфодзія...

І, нарэшце, па-трэцяе: сакральнасць тае ці іншае мовы вызначаецца не “чыноўнікамі ад царквы”, а самімі вернікамі, тымі, хто ўзносіць свае малітвы да Госпада. І кожны вернік мусіць сэрцам рабіць свой выбар. Прычым гаворка вядзецца пра выбар далёка не фармальны... Бо вусцішна становіцца за беластоцкіх мужыкоў, ушанаваных Іванам Чаротам носьбітамі “народнай мудрасці” толькі за тое, што яны адмовілі роднай мове ў праве на літургію. Маўляў, гэтаю моваю “на жонку сваруся, з суседам ганюся”...

Рэлігійна-этычны аспект такой “мудрасці” сумніўны, бо і царкоўнаславянская мова не дапамагла **тым** беластоцкім мужыкам засвоіць біблійную ісціну: “Палюбі бліжняга свайго, як сябе самога”. “Меўшы вушы”, яны “не пачулі”... А, можа, менавіта Беларуская мова данесла б **да іх Сэрцаў** Слова Божае?..

Зрэшты, і на царкоўнаславянскай мове расійскай рэдакцыі можна (!) весці набажэнства па-беларуску, адаптаваўшы царкоўнаславяншчыну да правілаў беларускай арфаэпіі (на гэта звяртаў увагу яшчэ беларускі мовазнаўца Ян Станкевіч у сваёй працы “Беларуская вымова царкоўнаславянскага пісьма”). Вымаўляецца ж царкоўнаславяншчына па-расійску! А па логіцы, зыходзячы з графічных сродкаў перадачы царкоўнаславянскай мовы, вымаўленне павінна быць “старaславянскім”, з дакладным (як тысячу гадоў таму ) агучваннем юсаў і ераў. Але ж зрабіць гэта немагчыма! Мы проста **не ведаем дакладна**, як тысячу гадоў таму чыталіся тыя ж юсы і еры... Вось і агучваецца сёння царкоўнаславяншчына на Беларусі чужымі — расійскімі моўнымі сродкамі.

Балюча за праваслаўе на Беларусі. Не жадаючы дапускаць беларускую мову ў беларускія ж (!) храмы, кіраўніцтва Беларускага экзархата Маскоўскага патрыярхата Рускай праваслаўнай царквы “адсякае” ад сябе Саму Духоўнасць, Традыцыі Гэтай Зямлі.

Напэўна, не разумеюць праваслаўныя іерархі, што пасля трох стагоддзяў вынішчэння (ад часу ганебнага выгнання ў 1696 г. старабеларушчыны з афіцыйных дакументаў Вялікага Княства) **беларуская мова захавалася і жыве на вуснах і ў сэрцах вернікаў** толькі **дзякуючы Вялікай Любові**. Навошта ж “адсякаць” ад сябе Любоў?!

Ці не таму, нягледзячы на рост вонкавых праяўленняў рэлігійнасці сярод насельніцтва Беларусі, мы не можам казаць аб сур’ёзным дабратворным уплыве праваслаўя на грамадства. Бо не дужа шануюцца ў гэтым грамадстве хрысціянскія каштоўнасці...

Але ўсё з часам мяняецца. Духоўнасць вернецца ў сэрцы людзей і сцвердзіцца простая ісціна: “праваслаўе на Беларусі павінна быць беларускім”. Бо ёсць у нас, беларусаў, Боская “залацінка”, якая не дае нам забыць пра Скарб Свайго Духу. Скарб, адной з праяў якога ёсць наша беларуская царкоўнаславяншчына. **Але найбольшай каштоўнасцю — найвышэйшай праявай Нашага Скарба Духу ёсць праз усе нягоды пранесеная і захаваная ў Любові Беларуская мова. І ніхто, і нішто не можа перашкодзіць нам звяртацца гэтай мовай да Бога:**

***Магутны Божа, Уладар сусветаў,***
***Вялікіх сонцаў і сэрц малых:***
***Над Беларуссяй, ціхай і ветлай,***
***Рассып праменні свае хвалы.***

**Зміцер ЦЕХАНОВІЧ**

*г. Мінск*

# *У гусіцкай Празе*



ПОЧИНАЕТЬСЯ Ѱ А
ЛТЫРЬ ИЛИ ПЕ
СНИ СТГО ПРОРКА БО
ЖИЯ ДАВЫДА ЦАРЯ
ЕРУСАЛИМЬСКА
О ХРИСТЕ

**6 жніўня 1517 года ў пражскай друкарні Севярына выйшаў "Псалтыр" — першая кніга Францішка Скарыны. З багатым дарам вярнуўся палачанін на Бацькаўшчыну, наладзіў выдавецкую справу ў Вільні, але мусіў стаць выгнанцам і знайшоў свой апошні прытулак на той зямлі, дзе здзейсніў подзвіг Першаптаха Адраджэння.**

**Амаль праз 500 гадоў пасля біблейных зажынкаў Ф. Скарына зноў вярнуўся на Градчаны — гэтым разам помнікам з бронзы (скульптар Эдуард Астаф'еў, архітэктар Юрый Казакоў). А на адным з будынкаў Клеменцінума (каля былога кляштара якраз і быў той сад, дзе**



**Скарына працаваў каралеўскім батанікам) устаноўлена памятная мемарыяльная дошка работы Алеся Дранца. Рэалізацыя гэтага ўвекавечання доўжылася сем гадоў, і многія асобы, арганізацыі, установы дачыніліся да мемарыялізацыі. Але першае слова падзякі варта адрасаваць прафесару Карлава універсітэта Вацлаву Жыдліцкаму, які са сваімі калегамі заапекаваўся над палачанінам, былым студэнтам Пражскага універсітэта.**

**А 5 верасня гэтага года Славянская бібліятэка пры Нацыянальнай бібліятэцы Чэшскай Рэспублікі, Славянскі інстытут Акадэміі навук у супрацы з пражскай асветнай суполкай "Скарына" правядуць навуковую канферэнцыю, да якой зараз рыхтуецца выстава "480 гадоў беларускага кнігадруку". Нашы сябры з гусіцкай Прагі лічаць, што згаданы юбілей не толькі беларускі, але таксама пражскі і чэшскі. Акрамя таго, варта адначасна ацаніць Скарынаву дзейнасць і з гледзішча еўрапейскага гістарычнага кантэксту. Даўні жнівень Скарыны дае добры ўмалот.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

**На здымках: "Псалтыр" друкаваў Францішак, Скарынін сын з Полацка; "Францішак Скарына" работы Пётры Міpановіча (21.9.1902, в. Стрэмкі Дрысенскага павета Віцебскай губ. — 20.12.1990, Нью-Йорк). Партрэт сфатаграфаваны ў доме Ганны і Вітаўта Рамукоў у Чыкага.**

***Новы твор Віктара Казько, безумоўна, не застанецца незаўважаным.***

***У цэнтры яго — лёс Майстра, "белага лебедзя", які "падмануўся, уляпшчыўся ў брудны, загаджаны асфальт Маскоўкі—Варшаўкі, бел-чырвона-белы застаўся ляжаць на бел-чырвона-белым снезе на абочыне вялікага гасцінца. І ўжо ніколі не падымецца з той абочыны. Не падымецца, але паведае аб гэтым свету, свайму ж роднаму люду..." Гэта не толькі лёс Майстра, гэта яшчэ і лёс усёй творчай інтэлігенцыі Беларусі.***

***Аб чым жа хацеў "паведаць свету" аўтар сваім новым творам? Пра гэта — наша з ім гутарка...***

# Віктар КАЗЬКО:

# "Гэта наша біяграфія..."

ГУТАРКА З ПІСЬМЕННІКАМ З НАГОДЫ ПУБЛІКАЦЫІ ЯГОНАЙ АПОВЕСЦІ "ДА СУСТРЭЧЫ..."

**— Віктар Апанасавіч, аповесць называецца "Да сустрэчы...". Дзе ж і з кім сустрэнецца галоўны герой? І ці будзе "другое прышэсце" Майстра і "светлых дзён для Беларусі"?**

— Другое прышэсце — гэта прышэсце іншага мастацтва ўжо новага тысячагоддзя. Мы раслі на традыцыях сацрэалізму. Як казаў адзін мой знаёмы: "Сацрэалізм, гэта спачатку — праўда, праўда, праўда, а потым — хлусня, хлусня, хлусня!" Мы шчыра пісалі хлусню, верылі ў яе. Новаму мастацтву прыйдзецца адмаўляцца ад гэтага... А наконт "другога прышэсця" Майстра — у мяне часам узнікае крамольная думка: хутка мы ўсе сустрэнемся там...

**— Чаму вы прысвяцілі аповесць памяці Віктара Турава і наколькі можна гаварыць пра біяграфічнасць твора?**

— З Туравым мы сябравалі недзе каля чвэрці стагоддзя. Не адмаўляю, што ў аповесць уключаны факты з яго жыцця і творчасці. Усе мы разумелі і разумеем, што ён першы рэжысёр у краіне, і вельмі прыемна, што менавіта яго фільм "Праз могілкі" рашэннем ЮНЕСКА занесены ў лік 100 лепшых карцін "усіх часоў і народаў". Але дзяржаве ён стаў непатрэбны... А да ўсяго не далі магчымасці паехаць у Парыж, дзе збіраліся ўсе прызнаныя рэжысёры. Ён перажыў складаную аперацыю, але акрыяў, падняўся і яшчэ гады тытанічна выбіваў сродкі для сваёй вучэбнай студыі "Юнацтва", але адчуў, што прабівацца вельмі цяжка... Ён ужо ведаў, што смяротна хворы, а тут — юбілей, 60-годдзе. І ён прымусіў сябе падняцца. Гэта быў жэст, калі ўся наша культура спявала сабе хаўтуры ў выглядзе юбілею. Бо сёння мы ўсе, як і ўся культура і як большасць інтэлігенцыі, знаходзімся ў стане распаду, на краі магілы... Таму гэта — не біяграфія Турава. Гэта — са мною пагадзіліся ўсе тыя, хто чытаў аповесць і тэлефанаваў мне: Гілевіч, Бураўкін, Кудравец, Законнікаў — наша біяграфія... Гэта сённяшні стан нашай творчай інтэлігенцыі.



**— Віктар Апанасавіч, скажыце, як пісаўся твор?**

— Ведаеце, уся проза патрабуе свабоды, волі, прасторы, прасторы — у часе, думках, настроі... У мяне ў задумцы быў раман, называўся ён "Калі прачнецца (абудзіцца) той, хто спіць..." Было задумана нешта фантасмагарычнае. А калі сеў за стол і напісаў 5—10 старонак, дык адчуў, што дыхання на гэты раман няма. Вырашыў: каб набраць хуткасці — зраблю апавяданне і назаву "Хаўтуры па культуры". Але ўсё ж такі атрымалася аповесць. Пісалася яна і не марудна, і не хутка, яна яшчэ ўсё пішацца... Яшчэ мяне

КНІГАРНЯ

# "Хай дзень ідзе ў праменнях ранніх!.."

Светлы травень. Мы ізноў у Слоніме. Віншуем Івана Дарафеевіча з 85-годдзем. А ён усім нам дорыць свой "Травень". Кніжка выйшла якраз напярэдадні юбілею.

Па ўсёй вокладцы, афарбаванай у зялёна-жоўтыя вясення колеры, раскіданы малюнкі-сімвалы: цудоўныя белыя ландышы, што прабіліся праз салдацкую каску, каб расквітнець, напомніць пра вясну; гэта і скалечаны зруб, і сагнутая былінка, і крыжы. Усё гэта прайшло праз жыццё паэта, увайшло ў яго вершы, стала яго паэтычнай біяграфіяй.

Адкрываецца зборнік вершам "Травень". "Месяц травень — і я ў доме..." Так, ён, паэт Анатоль Іверс, сёння ў родным доме —у сваёй сціплай, але такой дагледжанай, утульнай хаце ў Слоніме, у родных Чамярах, дзе шчыра вітаюць юбіляра-земляка і галасістыя "Чамярыцы", і даўнія знаёмыя, сваякі. Ён — у сваёй Беларусі, у нашым агульным доме.

Уся ягоная біяграфія, асноўныя моманты яе тут, у гэтым вершы. Твор — сцяжына ў мінуле, дзе было так багата ўсяго. А найболей — ліха. Бо ў ягоным лёсе яскрава адлюстраваўся лёс Беларусі ўвогуле, лепшых яе сыноў, што заўсёды былі пад пільным вокам уладароў-чужынцаў: "І паклёпы, і даносы Пры панах, бальшавіках".

*Анатоль Іверс. "Травень". Вершы. Слонім, 1997.*

*Крыжы — загубленыя жыцці родных.* Напрыканцы верша — балючае ўсведамленне: "Толькі я адзін маячу На сямейным дрэве — ліст".

Заўсёдны шчымлівы боль паэта — родная мова. Адно ў гэтым зборніку набярэцца цэлая нізка вершаў на гэтую тэму: "Прадзедава мова", "Родная мова", "Хто ж такі я?", "А вёска кліча" і інш., у якіх скрушны ўспамін, як "ад мовы ўсё "ляччылі", ад жывой, вячыстай", і прызнанне, напоўненае справядлівым гонарам: "Мову родную не кінуў", і поўнае годнасці сцвярджэнне: "Не, наша мова — не трасянка", і змаганне з ворагамі Беларушчыны сваім палымяным словам:

***Таму не дзіва, што злачынец,***
***Каб затуманіць нашу голаў,***
***Ён школу родную зачыніць:***
***Хай люд гібее цёмны, голы.***
***І будзе бэсціць нашу мову, —***
***Чужую пусціць па калгасе...***

Паэтычная гісторыя беларускага краю, пададзеная з добрай доляй гумару, праз які аднак жа прабіваецца боль, крыўда з-за спрадвечнага чакання беларусаў на добрага суседа-брата, чаканне, вядома ж, марнае, што не раз ужо было даказана ў мінулым:

***Ішоў Пілсудскі — абяцаў***
***Свабоду беларусам.***
***А як рассеўся, нібы цар,***
***Нат не крануў і вусам.***

І дарэмнае спадзяванне на "святло з усходу". Але найвялікшая прыкрасць ад таго, што гэты люд усё яшчэ чакае, спадзяецца не на сябе, не на сваю сілу, сілу сапраўдных гаспадароў гэтага краю: "Чакаюць людзі: ну калі Мінецца лёс сабачы?"

Глыбока хвалюе паэта наша сёння. Клопат свой з-за становішча на Беларусі перадае праз пытанне, што гучыць рытарычна: "Хоць мірны час, дзе ж супакой На нашай роднай Беларусі?"

*Светлыя юбілеі.* Святочныя даты, звязаныя з гісторыяй краю і чалавечым шляхам. Але і ў гэтыя светлыя святы, як і ў час уласнага юбілею, да паэта прыходзіць боль-клопат, што чорным ценем кладзецца на сэрца, азмрочвае святочны настрой: "Нашу мову заглушылі злыдні. Гэта — цень на светлы юбілей".

Розны сэнс уключае ў сябе гэтае слова — юбілей. Пра адзін такі юбілей расказвае паэт у вершы "1946—1996". Паміж датамі — 50 гадоў. Столькі мінула з часу сустрэчы паэта з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч, цёцяй Уладзяй, ад якой атрымаў "з добрых рук дар з аўтографам на кнізе".

Асабліва кранае верш "Мо апошні юбілей?..", прысвечаны Івану Чыгрыну. Гэта зварот да паэта-земляка, у якім

не адпускае. Кожны дзень падкідвае нешта новае, і я адчуваю, што яе не толькі можна, але і трэба дапісваць. Дарэчы, я ўжо зрабіў пераклад на рускую мову.

**— Віктар Апанасавіч, ці можна знайсці асабіста вас у такіх словах з аповесці: "...Ніколі і нічога не прасіць у "сильных мира сего" — самі дадуць"?**

— Прасіць заўсёды сорамна, гэта прыніжэнне...

**— "...Час адбіўся і праявіўся ў ім амаль што поўнай стратай жадання жыць".**

— Гэта агульнае. У мяне ёсць сябар, які аднойчы так і сказаў: "Віця, дапішы — гэта маё жаданне — я не хачу, не жадаю жыць у гэтым часе!" Гэта таксама і тэлефонная размова Быкава з Астаф'евым: "Слава Богу, што нам нядоўга засталося жыць". Мы за атэізмам, за будзённасцю страцілі адчуванне вечнасці, пераймальнасці жыцця...

**— І апошняе выказванне:"Майстра... не раз сам знаходзіўся ў такім стане, калі не хочаш, але мусіш быць падонкам".**

— Менавіта такое адчуванне было ў мяне даволі часта. Але калі раней проста выкручвалі рукі ўсяму творчаму саюзу, хаця мы і маглі ўсклікнуць: "А ўсё ж такі яна верціцца!", дык цяпер узялі за глотку. Цяпер мы мёртва падпарадкаваны новай сістэме, алагічнай, пазбаўленай інтэлекту і чалавечай "порядочности".

**— Што ж такое беларуская культура зараз?**

— Яна ў абсалютным заняпадзе. Хаця гэта праблема не толькі беларуская, гэта стан культуры ўсёй СНД. Часопісы пакутуюць ад адсутнасці прозы, ды і самі яны хутка стануць элітарнымі. Літаратура зараз ідзе больш прыстасаваная, чым нават у часы застою, сацыялізму. Раней дабіваліся званняў, узнагарод, дабрабыту, але была шчырасць. Зараз літаратура ідзе больш з аглядкаю на шматлікія прэміяльныя фонды, конкурсы. Гэта новы сацыяльны заказ, яшчэ больш жахлівы. І гэты жахлівы час трэба перажыць...

**— Віктар Апанасавіч, вы пісалі пра "незаўважныя смерці" П. Панчанкі, М. Танка. "Майстры як жылі, так і паміраюць у адзіноце". Вам не страшна?**

— А што зробіш? У адзіноце памёр П. Панчанка, сябры казалі, што перад смерцю ў яго заставалася грошай на адну цыбуліну. А хаўтуры наладзілі ой якія пышныя! А дзе ж былі тыя грошы раней?.. А з другога боку, пісьменніцкая праца любіць патаемнасць, схаванасць душы...

**— Шмат старонак вашай аповесці прысвечаны "сильным мира сего..." Ці быў ужо нейкі рэзананс?**

— Не, не было. Яны не чытаюць нічога... Хаця мяне папярэджвалі, што рэакцыя будзе неадназначнай. А ад пісьменнікаў шмат добрага чуў.

**— "Лаліта — параджэнне часу, параджэнне яго айчыны, сціплай і заўсёды сарамлівай Беларусі..." "Дзеці страшных гадоў Беларусі..." Дык наколькі ж можна гаварыць пра нашу будучыню?**

— Неяк я прачытаў у "Комсомольской правде" апытанне сярод расійскіх школьнікаў, чаго яны больш за ўсё хочуць. Дык 15—20 працэнтаў дзяцей хацелі б памерці... Мая знаёмая настаўніца зрабіла такое ж апытанне сярод вучняў свайго класа — і гэты працэнт паўтарыўся!.. Адным з пытанняў там было і такое: ласкавыя словы, якія яны чуюць ад сваіх бацькоў. Дык "сука" і "прастытутка" — не самыя горшыя з іх... Аповесць "Да сустрэчы..." — гэта зрэз сённяшняга грамадства. Звярэем мы, звярэе наша грамадства. І паўстае вялікае пытанне: "Ці ёсць у нас гэтая будучыня?" Гэта і прадчуванне немаўлят ад іх бацькоў — прадчуванне апакаліпсісу... Мяне ўразілі словы Кусто на гэты конт: "Не ведаю, ці засталося яшчэ ў чалавека 100 гадоў, мне здаецца, якіх-небудзь 20—30". Што самае страшнае — зараз ідзе пазбаўленне беларусаў не толькі нацыянальнай глебы, роднай мовы, але і ўнутранай праўды...

**— Вы хоць на нешта спадзяецеся?**

— "Пакуль жывеш — спадзяешся". Хаця я цвяроза разумею — гэта нейкая містычная, звярыная надзея... на будучыню. А мы?..Як той жа Тураў: два разы з таго свету не ўстаюць.

Гутарыла Раіса МШАР

---

ВІНШУЕМ!

# Шчодрыя ўсходы на дагледжаным полі

## Адаму МАЛЬДЗІСУ — 65



Адам Іосіфавіч з тых рупліўцаў, што заўсёды плённа працуюць на ніве нацыянальнага адраджэння, нягледзячы на тое, ёсць для гэтага спрыяльныя ўмовы ці няма іх. На жаль, як вядома, найчасцей трэба гаварыць пра апошняе. Ды той, хто па-сапраўднаму дбае пра Бацькаўшчыну, рупіцца аб яе заўтрашнім дні, перад цяжкасцямі не спыняецца і ўжо на пачатку свайго творчага шляху выбірае дзялянку, на аздабленні якой — упэўнены — змож*а прынесці найбольш карысці.*

Зробленае А. Мальдзісам — таму яшчэ адно пацвярджэнне. Ён, сялянскі сын вёскі Расолы Астравецкага раёна, з першымі сваімі артыкуламі і рэцэнзіямі выступіў у друку яшчэ ў 1954 годзе, калі вучыўся на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Але па-сапраўднаму даследаваннем нацыянальнай даўніны заняўся падчас працы адказным сакратаром тагачаснай радашковіцкай раённай газеты "Сцяг Ільіча".

Паступова гэтыя два арыенціры — стасункі беларускай літаратуры і культуры з іншымі літаратурамі і культурамі і адкрыццё малавядомых старонак беларускай гісторыі — сталі ў творчасці Адама Іосіфавіча дамінуючымі накірункамі. Дарэчы, гэта засведчвалі і дзве яго кнігі: "Творчае пабрацімства" (пра беларуска-польскія літаратурныя сувязі), што выйшлі ў 1969 годзе, і зборнік навукова-папулярных нарысаў "Падарожжа ў XIX стагоддзе", пазн*ачаны таксама 1969 годам, характар якога* акрэсліваў такі падзаголовак: "З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры".

Не адмаўляючы значэння першага даследавання, трэба сказаць, што А. Мальдзіс грамадскасці і масаваму чытачу стаў найперш вядомы "Падарожжам ў XIX стагоддзе". У гэтай кнізе ён асабліва ярка заявіў аб сабе, як аб першапраходцы. У гэтым сэнсе характэрна назва аднаго з першых водгукаў на кнігу — "Падарожжа ў нязведанае" Дзіяны Чаркасавай.

Так, гэта і на самой справе быў шлях у нязведанае. І не толькі шлях самога аўтара, які на той час (пасля аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі) працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, але і шлях, які А. Мальдзіс падказваў тым, хто хоча болей даведацца пра жыццё сваіх знакамітых землякоў. Ён выступаў першаадкрывальнікам, расказваючы пра Антона Абрамовіча і Альгерда Абуховіча, Канстанціна і Аляксандра Ельскіх, Еву Фялінскую і Адольфа Янушкевіча, Арцёма Вярыгу-Дарэўскага і Ігната Дамейку... Першаадкрывальнікам у беларускай навуцы, у беларускай літаратуры, на беларускай зямлі. Бо пра ўсіх гэтых выдатных людзей за межамі Беларусі; найперш у Польшчы, добра ведалі. Мы ж, нахай і несвядома, адмаўляліся ад іх, запамятавалі, што яны — наш гонар.

У 1974 годзе выйшла кніга А. Мальдзіса "Таямніцы старажытных сховішчаў", што ўспрымаецца свайго роду працягам папярэдняй (прынамсі, Адам Іосіфавіч далей даследаваў жыццёвы і творчы шлях выдатнага краязнаўцы Аляксандра Ельскага), але гэта і новы, яшчэ больш упэўнены крок у тое ж нязведанае. І новыя адкрыцці — матэрыялаў, імёнаў.

Сёння на дбайна дагледжанай дзялянцы А. Мальдзіса — па-ранейшаму шчодрыя ўсходы, бо ніва, якую апрацоўвае ён, з тых, што даюць па шмат ураджаяў, і збірае іх кожнае новае пакаленне ўдзячных чытачоў. А яны належным чынам ацанілі і ацэняць такія кнігі Адама Іосіфавіча, як "На скрыжаванні славянскіх традыцый" (1980), "Беларусь у люстэрку мемарыяльнай літаратуры XVIII стагоддзя" (1982), "З літаратуразнаўчых вандраванняў" (1987) і іншыя.

Выдатна заявіў аб сабе А. Мальдзіс і як празаік, напісаўшы аповесць на гістарычным матэрыяле "Восень пасярод вясны (1984), і як эсэіст — "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча" (1990). Нельга не згадаць і яго кнігу-нарыс пра зямлю маленства, найбольш любы сэрцу кут на Бацькаўшчыне — "Астравеччына, край дарагі..." (1977).

А да ўсяго добрыя віншы дала праца А. Мальдзіса ў Інстытуце літаратуры. За ўдзел у двухтомным даследаванні "История белорусской дооктябрьской литературы" і "История белорусской советской литературы" ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Адам Іосіфавіч па-ранейшаму працуе плённа. Сёння ён, доктар філалагічных навук, прафесар, узначальвае Нацыянальны культурна-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, з'яўляецца прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Як і працаваў увесь час, працуе на карысць адраджэння Беларусі, у імя яе будучыні.

Язэп ЛІТВІНОВІЧ

---

ізноў жа аповед пра ўвесь жыццёвы шлях паэта. Пытанне "Мо апошні юбілей?" гучыць лейтматывам, надае вершу характар споведзі, прызнання ў тых "грахахправінах", што вярэдзяць душу, што перапляліся ў цяжкае "таўро" і не пакідаюць у спакоі. Гэта і згадка пра супраціў шматлікім акупантам: "Дэфензіву перажыў. Перажыў гестапа", пра тое, што Саветы "леэлі ў вочы, як асва, выгналі за дзверы". Напрыканцы згадвае пра яшчэ адну праўдзіну, згадвае з горкай іроніяй, разумеючы ўсю абсурднасць такіх абвінавачванняў, якія, аднак жа, непасрэдна ўплывалі на лёс чалавека: "І яшчэ "віна" была — беспартыйны, браццця".

Што да прысвячэнняў, то іх багата ў зборніку: "І Васілёк паказваў вочы" — памяці паэта Міхася Васілька, дзе хораша абыгрываецца псеўданім аўтара кніжкі "З сялянскіх ніў", галоўным у жыцці якога была мара пра вольную Беларусь. "Развеяліся хмары" — жонцы Ніне. З'яўленне гэтай мілай, прыгожай жанчыны ў жыцці паэта — як з'яўленне святла пасля "ночы чорнай" няшчасцяў і страт. Гэта і прысвячэнні Валянціну Таўлаю, і Ігнату Дварчаніну, і Пятру Дабрыяну, і доктару Галіне Майсеенкавай.

Як і ў ранейшых кнігах, у "Травені" багата вершаў, героямі якіх — лес, дрэвы. Сюды, у "вечную малельню", прыносіць паэт сваё сэрца, тут, "між дубоў векавых", знаходзіць адхланне, набіраецца сілы.

Нечаканасцю для мяне было сустрэць у кнізе Анатоля Іверса верш "Зорка", эпіграфам да якога ўзята страфа з адной даваеннай песні:

***Радасць свеціць мне у сэрцы***
***Зоркай з неба, з выш,***
***Каб ў нядолі, ў паняверцы***
***Мог нясці свой крыж.***

Мелодыя гэтай песні запала ў душу паэта з далёкіх трыццатых гадоў, калі секта метадыстаў раз'язджала па беларускіх вёсках, каб данесці сэнс свайго вучэння людзям, каб далучыць да метадызму новых прыхільнікаў. Паэта ўсхвалявала перш за ўсё тое, што песня гучала па-беларуску. Гэта было вельмі рэдкай з'явай, мо таму і да сягоння "Мелодыя жыве, трывожыць Душу лірычнасцю напеўнай". Трывожыць, бо ў душах людскіх нараджалася вера ў чалавека, як найвялікшую самакаштоўнасць, у веліч яго духоўных сілаў:

***А ведалі, што наша зорка***
***Паможа крыж звадіць адвечны.***
***Да радасці з нядолі горкай***
***Мы паляцім па Шляху Млечным.***
***І чалавек, як цуд дзівосны,***
***Святло зялёнае запаліць***
***Пад сінім небам, там, дзе вёсны***
***Яшчэ ніколі не ступалі.***

Прыхільнікам метадызму быў Гальяш Леўчык, слынны паэт нашаніўскай пары. Анатоль Іверс робіць здагадку: ці не Леўчыку належыць беларускі пераклад песень метадыстаў? Адзіная прыжыццёвая кніжка паэта выйшла, як вядома, у 1912-ым годзе, калі нарадзіўся Анатоль Іверс. Пра гэтае супадзенне — у вершы "Чыжык беларускі".

Часам паэтычны радок Анатоля Іверса, звычайна такі мяккі, шчыры, просты, пачынае гучаць узнёсла, велічна. Калі ў сваім роздуме паэт уздымаецца над часам, над лёсам:

***Ізноў стаю на сутыкненні***
***Гадоў, а можа, і эпох.***
***Лаўлю адвечныя праменні,***
***Якіх ніхто не перамог.***

Кніга Анатоля Іверса выйшла дзякуючы мецэнату — Слонімскай узбуйненай друкарні. Удзячнасць яе дырэктару У. Філіпаву выказвае паэт у вершы "Падзяка", якім і заканчваецца зборнік.

Дык пра што жягоны клопат сёння, пра што неспакой аднаго са старэйшых нашых паэтаў, які пераступіў мяжу свайго 85-годдзя? Адказ — у вершах, пажаданнях: "Каб ведалі, што мы — народ", "Каб Беларусь наша была Краінай вольнай, незалежнай", "Хай дзень ідзе ў праменнях ранніх!" Няхай светлыя пажаданні паэта спраўдзяцца.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

---

# Лёс беларуса-пакутніка

Так і не пабачыў свет рукапіс першай паэтычнай кнігі Сяргея Астрэйкі "Смарагды кроз": у 1933 годзе яе аўтар быў арыштаваны і асуджаны да пяці гадоў высылкі ў горад Ірбіт Свярдлоўскай вобласці (Расія). Працаваў бухгалтарам матэрыяльнага аддзела падшыпнікавага завода. Дарэчы, у Ірбіце на той час знаходзіўся і сябар С. Астрэйкі пісьменнік Лукаш Калюга. С. Астрэйка так і не змог адбыць пакаранне. У 1937 годзе яго арыштавалі паўторна і гэтым разам прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Расстралялі 14 верасня 1937 года. Было Сяргею ўсяго дваццаць пяць гадоў.

А нарадзіўся С. Астрэйка ў вёсцы Каласаўшчына цяперашняга Капыльскага раёна. Скончыў у 1930 годзе Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, быў рэдактарам у Беларускім навукова-даследчым інстытуце прамысловасці, навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, дзе працаваў у слоўнікавай камісіі.

Першыя вершы С. Астрэйка апублікаваў у 1928 годзе ў газеце "Чырвоная змена". Друкаваўся таксама ў часопісах "Полымя" і "Чырвоная Беларусь".

У 1990 годзе была вернута з небыцця яго паэма "Смарагды кроз". Дзякуючы І. Багдановіч і А. Шарахоўскай, яна была апублікавана ў першым выпуску гісторыка-літаратурнага зборніка "Шляхам гадоў" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Некаторыя ж вершы і паэма "Бенгалія" С. Астрэйкі загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Іх па просьбе сына пасля арышту забрала маці, потым яны трапілі да яго сястры. Але сястра і яе муж загінулі. Баючыся за свой лёс і лёс блізкіх людзей, сястрына свякроў дастала Сяргеевы *рукапісы з куфэрка і спаліла іх.*

Такі яшчэ адзін лёс беларуса-пакутніка.

А.М.

## Паэзія ёсць паэзія

**Фама Ляшонак — паэт, які жыве ў Глыбокім, — заявіў аб сабе ў 1995 годзе, калі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет яго першая кніга "Запознены дар". І на самай справе паэтычны дар Ф. Ляшонка запазніўся, бо аўтар гэтых шчырых, пранікнёных і прачула-лірычных вершаў не такі і малады. Але адкрыццё з'яўляецца адкрыццём назалежна ад таго, калі яно адбываецца. І вось — чарговая кніга Ф. Ляшонка "Сустрэча", гэтым разам — у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". У ёй паэт прадстаўлены не толькі вершамі, а і паэмай "Голас даўніны", у якой па-свойму асэнсоўвае дзень сённяшні ў яго повязі з мінулым.**

**Н.К.**

## "Мастацтва", N 7

**Т. Катовіч ("...Толькі гэтым і жывы") прасочвае жыццёвы і творчы шлях народнага артыста СССР Ф. Шмакава, якому споўнілася 80 гадоў. Г. Шур прапануе выказацца пра сучасны дакументальны кінематограф Ю. Хашчавацкаму ("Кінематограф не з нас пачаўся і не на нас скончыцца") і В. Аслюку ("Ці лёгка быць маладым?"). Пра кампазітара А. Літвіноўскага расказвае С. Берасцень ("Той, які не ведае сакрэту").Эвалюцыя опернага жанру ў Беларусі зацікавіла В. Скорабагатава — "Любімае дзіця" асвечанага грамадства?". Пра лёс мастачкі І. Магучай згадкі А. Пруcкага "Шэсце з анёлам". Тут жа — "Гарадскі пейзаж Вікторыі Загнетавай" Н. Антончык. Г. Каржанеўская ("Пра белае і чорнае") адгукнулася на тое, як у Гомелі Тэатр музычных асацыяцый "прачытаў" яе п'есу "Чарнабог". На IX Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі, што праходзіў у Віцебску, можна "пабываць дзякуючы Ю. Чурко ("Акумулюючы духоўную энергію") і Ю. Барысевічу ("Слова і цела"). В. Нікіфаровіч ("Калі і састарэлі ў зямлі карані дрэва...") і А. Гірыч ("Мастак родам з дзяцінства") дапамагаюць лепш спасцігнуць сэнс творчасці М. Шагала. Змешчаны працяг даследавання У. Конана "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры", другі артыкул В. Лабачэўскай "Польскія адкрыцці", артыкулы Я. Ленсу "Жывой рэчы чараўніцтва" (вытокі сімволікі аб'ектаў рэчавага свету беларускага народа), А. Лакоткі "Вокааб'ектыў даўніх майстроў" (архітэктура Беларусі ў выяўленчых крыніцах XIII—пачатку XX стагоддзя) і іншыя матэрыялы.**

**А.А.**

## "Спадчына", N 3

**Каб менела "Белых плям" у нацыянальнай гісторыі, культуры, мастацтве, па-ранейшаму прыкладае нямала намаганняў рэдакцыя часопіса "Спадчына". Чарговы, трэці нумар, як і папярэднія, складаецца менавіта з такіх матэрыялаў, сярод якіх не апошняе месца займаюць перадрукі з крыніц, што сённяшняму чытачу малавядомы і недаступны. У нумары можна пазнаёміцца з артыкуламі А. Цвікевіча "Усе дарогі вядуць у Беларусь", М. Гарэцкага "Думкі і развагі з прычыны свята Незалежнасці", В. Гадлеўскага "Тры шляхі", Н. Недасека "1917—1947. Да трыццатых угодкаў найвызначэйшых падзеяў нашага нацыянальнага руху", Ю. Віцьбіча "Гомельскае паўстанне (Старакапытаўскі мяцеж)", У. Глыбіннага "З гісторыі беларускага тэатра", В. Тумаша "Справы паходжання Сымона Буднага", Власта "Слуцкія паясы" і іншымі. Змешчана паэма Л. Родзевіча "Беларусь" і артыкул А. Ліса пра яго — "Паміж літаратурай і палітыкай: драма аднаго рамантыка", а паэма Л. Родзькі "Залессе" падаецца ў перакладзе В. Калніна (з пасляслоўя можна даведацца пра гэтага выдатнага нацыянальнага дзеяча і яго акружэнне). Сярод іншых матэрыялаў — "Падмуркі паліцэйскага сацыялізму" Я. Анішчанкі, "Нарысы з гісторыі масонства ў Літве" С. Дабранскага...**

**А.Н.**

ПАЭЗІЯ

Уладзімір МАРУК



# ТРЫВОЖНЫ СПАКОЙ

## На ўзгорку

*Дзве хаткі на ўзгорку,*
*як птушкі на голым кусце,*
*Дзе сцежка*
*жарству абняла і траву нарадзіла,*
*Штоноч мандрагора*
*са стогнам ля вокнаў расце,*
*Са студні туман выплывае,*
*як думнасць з кадзіла.*
*Дзве хаткі на ўзгорку*
*жаўрук-бесхацінец гукне,*
*Надоўга запомніць*
*свой голас бяскрылы не зможа,*
*І памяць*
*бязважнай смалою*
*збяжыць па сцяне*
*І пахам жывым*
*пусты напалохае ложак.*
*Дзве хаткі на ўзгорку.*
*Між іх толькі два праўды —*
*У дзікім тумане*
*спрадвечнае лучнасці нервы.*
*І хто не прыходзіць —*
*ніколі не дойдзе сюды*
*У час пракаветны,*
*як светлая мудрасць Мінервы.*

## Рызыка

*Абяцаю толькі славу,*
*Што схавана ў крэўных спратах,*
*Адпускаю на забаву*
*Сярод бедных і багатых.*

*Адлучаю ад настрою,*
*Што прывучаны да згоды,*
*Прывучаю быць стралою*
*Выпадковае прыгоды.*

*Караную на нястачу*
*Не апошняй воляй злою...*
*Адракуся, калі ўбачу*
*Што вярнулася былою.*

## Фальварак

*Блукалі цені па фальварку,*
*Па дапатопным ліпняку.*
*А неба мерны звон жняяркі*
*Дало перакрычаць круку.*

*І часу, нібы ашуканцу,*
*Ад сораму не ўзняць вачэй*
*На пах любві і памеранцу,*
*На рух аголеных плячэй.*

*На ўсё,*
*што льецца ўглыб і ўшыркі*
*І на душы мільгне няўзнак*
*Бліщчастай засцежкай лакіркі,*
*Што з весніц ступіць на бальшак.*

*І на апошнюю фурманку,*
*Што ў белы свет залескаціць...*
*Шукаю цень фальварчанкі,*
*Але дарэмна.*
*Свет маўчыць.*

*Адно душа складае псалмы*
*І выпраўляе на бальшак,*
*Дзе ночы цень —*
*пад звон астральны*
*Вымае з прахам партабак.*

## Адзінота

*На строме ў будане*
*шукаю адзіноты.*
*Лясная цішыня*
*пакладзена на ноты.*
*І цэліцца з дупла,*
*як з мёртвага акопа,*
*Знерваваны пагляд апошняга*
*цыклопа.*
*А дзяцел не міне*
*падкінуць мне тыраду*
*Пра пэўную карысць*
*ляснога целаскладу.*
*Пад стромай*
*ручая нязвыклае сапрана*
*Для беднае душы —*
*як шторм для капітана.*
*І позняе расы*
*апошніх колькі кропель*
*Узнімуць на мяне*
*свой некласічны профіль.*

*Калі б не карані,*
*пабеглі б прэч ад пляшкі*
*Бярозкі за спіной —*
*што схімніцы-манашкі,*
*Бы я тут — госць,*
*а там — прыслужваю ў тэатры*
*Той гадзіне,*
*што яд*
*падносіць Клеапатры.*
*Няўжо ўсяму вакол*
*пераказалі фаўны,*
*Што я, бы лёс і час,*
*народжаны бясслаўны.*
*І колькі не жывеш —*
*ды нават з ласкі Божай*
*Імгненнае адняць*
*у вечнага не зможаш.*

## У начным лесе

*Грыб ужо вылезе*
*з гэтага хцівага моху,*
*Будзе язычыць*
*да рання над ім веташок.*
*Я не ўчакаю,*
*хоць можна ўчакацца спалоху,*
*Ўцьмяна-змяiных*
*пустой лесніччоўкі вачох.*
*Ціш ачужэе.*
*А грыб на мяне азірнецца,*
*Як па кустэчы*
*я рушу далей ад тугі.*
*З ціхай пагардай*
*за мною грыбніца прачнецца*
*І развярэдзіць душу*
*дзікім пахам смугі.*
*Белую-чорную*
*выбера лісце акрасу,*
*Каб недагодна было*
*дакранацца рукой,*
*А на шчаку,*
*нібы горкую кроплю альянсу,*
*Вечнасць ускоціць*
*свой самы трывожны спакой.*

●

*Дзе прыпыняюся — гэта яшчэ не*
*супынак.*
*Лісце крывёю апошніх хвілін*
*шалахціць.*
*Ці здагадаецца хтосьці: свабода — не*
*вырак,*
*Што дазваляе сябе на няволю*
*хрысціць.*

*Смешкі ў вачах.*
*Але ж тут — крымінальная радасць,*
*Што й сэрцаскоп не здалее пазнаць і*
*карацьь...*
*Дзе прызвычаюся — ліст адцураецца*
*падаць,*
*Быццам каштоўнасць*
*на безліч нявартых карат.*

Алесь ЛІСІЦКІ

# "Мой век зямны..."

●

*Убарць, хвалямі плёскай,*
*закалыхвай чаўны!*
*Перад роднаю вёскай*
*маю трохі віны.*
*Сохне бацькава лодка*
*на гародзе з вясны.*
*Сам не сцягне — далёка,*
*і далёка — сыны.*
*Самы меншы, прыеду —*
*зманіць летам сяло.*
*— Сцягнем мо да абеду?*
*— Пашукаю вясло.*
*— Як Васіль?*
*— Не прыедзе.*
*— Піша зрэдку Іван?*
*— Стаў надоечы дзедам!*
*— Як унука назваў?*
*Маці тупае з градаў —*
*выбірала гуркі.*
*Сын прыехаў... Як рады*
*той падзеі бацькі?!*
*Убарць, хвалямі плёскай,*
*закалыхвай чаўны!*
*Ці ж адно перад вёскай*
*маю процьму віны?*

●

*Высланы барвай алеі.*
*Згусла ў азёрах вада,*
*дзе красавалі лілеі.*
*Пуста ў вясковых садах.*
*Выйшаў я ўвечары з хаты.*
*Сцежка далей павяла.*
*Асірацелі прысады*
*ноччу паблізу сяла.*

*Дзіўна бярозы бялелі*
*тут яшчэ ўчора здалёк.*
*Высланы барвай алеі.*
*Свеціцца ў лужынах лёд.*

●

*Ах восень, што ж ты нарабіла?*
*Без птушак буду сумаваць.*
*Гарыць ля сцежкі арабіна,*
*баюся гронку хоць сарваць.*

*Я нават лёгка апякуся*
*аб гэтай чырвані пажар.*
*Ах восень, фарбамі святкуйся!*
*Свяціць нядоўга ім,*
*на жаль...*

●

*Мой век закончыцца зямны,*
*калі я выснію даастатку*
*усе свае зямныя сны.*
*Жыццё трымаецца парадку,*

*якi заведзены даўно*
*на гэтым свеце духам Божым.*
*Хай будзе так заўжды яно —*
*не трэба дух святы трывожыць.*

*Мой век закончыцца зямны —*
*жыцця такая непазбежнасць.*
*Няхай жа ў росквіце вясны*
*апошні крок зраблю*
*ў бязмежнасць...*

Павел МІСЬКО

## Ідзі!

*Нясу свой лёс, нібы хатуль,*
*І несціму яго датуль,*
*Пакуль перастаўляцьму ногі.*
*Калі ж не будзе сілы ў многіх*
*І закрычаць яны: "О, богі!",*
*Вазьму іх боль і ўсе трывогі*
*І папаўзу, хоць без дарогі,*
*Далей, уперад — да знямогі,*
*Куды імкнуліся мы ў снах,*
*Дзе ў душах вечная вясна,*
*Куды адбор занадта строгі.*

## Іскры ў попеле

*Нашто мяне агітаваць?*
*Я ўжо даўно сагітаваны.*
*Нашто чужое пераймаць?*
*Я за сваё (і даматканы!),*

*Што захаваў, пранёс народ*
*Праз сівізну тысячагоддзяў.*
*Не ўсё ў людзей сышло на звод,*
*Шчэ многа цепліцца ў народзе!*

*Здаецца, попел стыў і чэз,*
*Але дзьмухні — і прысак зыркі*
*Душу балюча апячэ*
*І іскры паляцяць ушыркі.*

*Успалымнеецца пажар,*
*Захопіць не адзін абшар,*
*"Рахманы" беларус-бунтар*
*Адкажа ўдарам на ўдар!*

ПРОЗА

# АПОВЕДЫ-БЫЛІ

Алег ФОМЧАНКА



## СУСТРЭЧА СА СМЯРОТНІКАМ

У жыцці, асабліва нашым, шмат з чым звыкаешся: з чарнобыльскім болем, з велізарнай смяротнасцю, з рынкавымі брыдотамі і жабрацтвам людзей сумленнай працы, з самазадаволенай сытасцю "новых беларусаў", мафіёзнай прадажнасцю чыноўнікаў-вертыкальшчыкаў і разгулам крыміналу...

Але тое, што чалавек сам зводзіць рахунак з уласным жыццём, розум і сэрца прыняць не можа. Аднак і тут статыстыка сведчыць: крывая росту няўхільна паўзе ўверх.

І сёння бачу сімпатычны дзявочы твар на павялічанай фотакартцы ў чорнай акантоўцы. Убачыў яе ў вестыбюлі афіцыйнага будынка. Сціплы букецік, развітальныя словы.

— Што здарылася? — ціха запытаўся.

Вахцёрка шапнула:

— Павесілася.

Праз колькі дзён даведаўся аб такой жа смерці чалавека, пра якога некалі пісаў нарыс...

Перад тым мы доўга не бачыліся. Вельмі доўга. І вось ён раптам пазваніў, напомніў пра сябе. Дамовіліся аб сустрэчы.

Яўген Пятровіч мяне проста ўразіў. Напачатку я і ўвагі не звярнуў на гэтага "бомжа", але ён сам крануў мяне за руку, назваўся. Я не мог прызнаць у ім Яўгена Пятровіча: зарослы, нямыты Рабінзон у бруднай вопратцы, у нейкіх атопках на нагах...

— Нічога не думайце і не палохайцеся, у мяне аніякіх ні просьбаў, ні скаргаў, — сказаў ён. — Успомніў, як вы прыходзілі, збіралі пра нас матэрыял, казалі — факты і факцікі, як напісалі...

Ён раптам чмыхнуў, быццам усміхнуўся, махнуў рукой:

— Смешна... Што было і што стала... А наогул, пра мяне адзін раз толькі і пісалі... Вы...

Мы моўчкі ішлі па вуліцы. Я прыгадаў, як збіраў тады, — мусіць, гадоў дзесяць—дванаццаць таму, — матэрыял для нарыса. Аднак па волі гэтага дзівака, а ён, безумоўна, быў з роду дзівакоў, якія ўпрыгожваюць жыццё, — ледзь-ледзь наскроб на замалёўку, каб хоць як-небудзь выканаць заданне рэдакцыі. Быў ён чалавекам незвычайнай сціпласці? Ды, бадай, не. Проста — меў такі склад характару: поўная адлучанасць ад усяго, што не тычылася галоўнага — любімай справы. Праз гэта нават не завёў сям'і — усё не мог, не меў часу сабрацца...

Можа, быў ганарысты ці хвалько? Таксама не. Памятаю, былі мы неяк на ВДНГ, і я ўбачыў там ягоныя прыборы, нейкія прыстасаванні, вельмі важныя і патрэбныя для прадпрыемстваў, нават для навукі, аб чым сведчылі надпісы на таблічках. А ён адмахнуўся: нічога там асаблівага, учарашні дзень, ёсць новыя. І паспяшаўся прэч, падштурхоўваючы і мяне...

На заводзе ён быў лепшым канструктарам. Меў узнагароды, міжнародныя прэміі і дыпломы, нямала патэнтаў на вынаходствы. Без абароны яму прысвоілі доктарскую вучоную ступень. Меў ён і немалыя грошы, але яны не затрымліваліся ў яго: раздаваў у розныя дабрачынныя фонды і касы, шчодра даваў у доўг, а яму мала хто вяртаў. Ён заўсёды быў прыстойна, з густам, апрануты. Што ж здарылася?

І, быццам бы адказваючы на мае думкі, Яўген Пятровіч, неяк па-дзіцячы ўсхліпнуўшы, сказаў:

— А, ведаеце, я зараз не працую. Завод прастойваў, дый наогул, праца мая стала непатрэбнай — вось і звольніўся...

І голас задрыжэў: у ягоным жыцці было толькі адно — завод, праца, любімая справа.

Каля магазіна "Яхант" мы спыніліся.

— Праходзіла тут некалі мая родная вуліца Старажоўская, — сказаў з сумам Яўген Пятровіч. — А цяпер вось — Кісялёва. Старажоўку ў іншае месца перанеслі. А чаму?.. Нават у дробязях — суцэльнае глупства. А ў "Яханце" калісьці быў "Прадуктовы". Па хлеб пасля вайны з ночы чаргу займалі... Аднак верылі ў лепшае...

Неўзабаве мы развіталіся. На душы застаўся нейкі горкі цяжар. Я так і не зразумеў: чаму ён праз столькі гадоў успомніў пра мяне, адшукаў? Тым больш, што ні аб чым не прасіў, ні на што не скардзіўся. І я не адважыўся прапанаваць дапамогу, памятаючы ягоную датклівасць...

А дні праз два пазваніла незнаёмая жанчына, назвалася суседкай Яўгена Пятровіча і сказала:

— Не стала яго. Сам на сябе рукі налажыў... Знайшла ваш тэлефон у яго запісной кніжцы. Вось і званю... Бо — нікога больш...

— Калі пахаванне?

— Пахавалі ўжо... Быў і няма...

Я не ведаў, што і сказаць. А ў трубцы гучаў жаночы голас:

— Двухпакаёўку яго пад выглядам сваяка прыбраў адзін камерсант. Ён і пахаваў. А так — за якія фігі? З адзення, іншых якіх рэчаў у Пятровіча — нічога-нічога. Нават бібліятэку сваю праеў. Анічога не засталося. Хочаце — можаце прыехаць, пераканаецеся...

Яна скончыла гаварыць. А я ўсё стаяў з трубкай у руцэ. З яе, быццам сігнал трывогі, даносіліся кароткія гудкі.

"Як жа я не адчуў, не зразумеў, не адвёў бяду?.. — стукала, стукала ў галаве. — Чаму ён успомніў пра мяне?.. Яму трэба было з кімсьці сустрэцца, паспавядацца... А ў яго — нікога, нікога. Вось і ўспомніў пра мяне..."

Адчуваў сябе разгубленым і нават вінаватым у чымсьці. Чаму сёння столькі людзей канчаюць жыццё самагубствам? Хіба не ведаюць, што спрадвеку гэта самы вялікі, самы цяжкі грэх?

Мабыць, у кожнага ёсць свая мяжа-рыса, якую няма сілы пераступіць, за якой ужо само жыццё выносіць свой канчатковы прыгавор...

## КІСА ВЕРАБ'ЯНІНАЎ

Сустрэў яго перад спускам у метро, на прывакзальным "пятачку" — ці не самым бойкім месцы ў горадзе.

Час быў вечаровы. Спяшаліся пасажыры, сноўдалі ўсюдыісныя гандляры півам і гарэлкай, цыгарэтамі і шампанскім; прагульваліся, калышучы сцёгнамі, размаляваныя прыгажуні, нахабнымі ўсмешкамі рэагуючы на брудныя мужчынскія заўвагі, мацюканне; павольна праходзілі ўдвох, утрох і болей "ахоўнікі парадку"; безупынку і кволадрыготкімі рукамі хрысціліся жабракі... Наўкола бруд, пад нагамі бітае шкло, кавалкі паперы. Сапраўднае дно!

Менавіта тут я і сустрэў яго, хаця і пабляклага, добра пацёртага жыццём, але ўсё яшчэ самавітага, у некалі вельмі дыхтоўным, з дарагой тканіны гарнітуры. Гляджу, прыпамінаю, і ён таксама глядзіць на мяне, неўпрыкметку неяк убірае галаву ў плечы. З шырокага пінжачнага рукава выглядае бутэлька з "жыгулёўскім". Ён пранізлівым позіркам утаропіўся ў мяне, але, мусіць, так і не пазнае. У мінулым не зважаў на такіх, як я, што знаходзіліся ніжэй ягонай службова-наменклатурнай прыступкі. Ён уважліва глядзіць, але, перачакаўшы, нарэшце адварочваецца. Калі ўжо застаецца ў мяне за спіной: чую:

— Піва, рабяткі, піва... Піва, рабяткі... Налятай...

Голас гучыць няўпэўнена і прыглушана а, можа, і прысаромлена:

— Пі-іва, ра-абяткіі...

Безумоўна — гэта ён. Былы "цэковец". Не з першых тузоў, аднак і не з апошніх. Адзін з нядаўніх вяршыцеляў чалавечых лёсаў. Цяжкі ў мяне тады быў час — канфліктны. Усё хацеў даказаць праўду, бо тады верыў у яе. Падтрымлівала мяне, беспрацоўнага, ахоўваючы закон, рэспубліканская пракуратура, а вось у ЦК, яго бонзаў і "мяльчэйшай рыбкі" існавала іншая думка — там падтрымлівалі самадура-чыноўніка ад творчасці, свайго стаўленніка, які ўзначальваў,а дакладней "дабіваў да ручкі" некалі цікавы і вядомы, адзіны ў сваім родзе ў рэспубліцы часопіс. Вось цэкоўскія жрацы-праведнікі і стараліся захаваць прыстойную міну (асабліва галоўны ідэолаг, якога за вочы зняважліва звалі "Саўкам") пры дрэннай і бруднай гульні. Быў сярод іх і гэты — зараз піўны негацыянт...

Не, я не зларадзнічаў, сутыкнуўшыся з ім. Проста было агідна на душы — нібы наступіў на дзярмо. Тачыла думка, што яго пагнала на гэты "пятачок" вось так падзарабляць? Няўжо пякучая патрэба, цяжкое матэрыяльнае становішча? Прыгадаўся герой Ільфа і Пятрова — былы прадвадзіцель дваранства Іпаліт Мацвеевіч Вераб'янінаў, якога небезвядомы Астап Бэндэр міла празваў Кіса. Тут быў іншы лёс, хоць наш герой і апусціўся да продажу бутэлек з півам — падпольнага продажу, з-пад крыса, з рукава. Ну што тут зробіш?.. Нашы наменклатуршчыкі — вопытныя падпольшчыкі, навыкі надзейныя атрымалі ў спадчыну. Так, быў тут іншы лёс, бо... Вядома ж, сучаснаму Кісу паклалі добрае забеспячэнне, даволі значнае ў параўнанні з іншымі пенсіянерамі-працаўнікамі: у яго ж меліся асаблівыя заслугі перад прыбітым народам, радзімай.

Дык у чым справа? Шмат якія яго калегі, закамуфліраваўшы з дапамогай дэмакратычных румян, займелі, а дакладней — здабылі трывалае, сытнае месца ў сучасных дзяржструктурах; некаторыя нажыліся, дзякуючы брудным аперацыям з крэдытамі; нямала і такіх, хто праз падстаўных асоб ці сваякоў адкрылі прыватныя фірмы, гандлёвыя пункты і крамы, нават універсамы. А гэты... Ці то забыўшыся на спрыт, ці то не маючы камерцыйнай кемлівасці, ці то па якой іншай прычыне наш былы бонза зарабляе вось гэткім мізэрным бізнесам. Няхай і прыбытковым, але — прыніжаючым чалавечую годнасць. Праўда, адно "але"... Каб мець чалавечую годнасць, трэба быць самому чалавекам.

А ці быў ён, гэты Кіса, чалавекам?

Мабыць, так і павісла б у паветры гэтае сакраментальнае пытанне, калі б не адзін выпадак. Калі б не сустрэў яго, былога загадчыка сектара ЦК, ля гэтага велічнага будынка, праўда, ужо без бюстаў Леніна-Ульянава і Карла Маркса ля цэнтральнага ўвахода.

Напачатку я яго і не пазнаў. Падкаціў ён на шыкоўным лімузіне. Раздабрэлы, з гладка-ўкормленым, амаль удвая шырэйшым тварам, у модным, як некалі, гарнітуры, з бліскучай скураной папкай пад пахай. Божухна, няўжо гэта нядаўні Кіса?..

А ён ужо прайшоў міма, а потым раптоўна азірнуўся, запытальна вымавіў:

— Нешта хочаце сказаць? Мы знаёмы з вамі?..

Я моўчкі паціснуў плячамі. Адчуваў нутром, што ён хітрыць, што ведаў і ведае мяне. Нават тады — на прывакзальным "пятачку".

—Ці не на прэзентацыі ў "Юбілейнай" сустракаліся? — у голасе чулася насмешка.

Я пранізліва зірнуў яму ў вочы, і гнеўна, нібы стрэліў, выдыхнуў:

— Не, ля чыгуначнага вакзала, на "пятачку", дзе гандлююць з рукава півам.

Ён павярнуўся і ледзь не падскокам знік за моцнымі дубовымі дзвярамі.

Для яго — і яму падобных — нічога не змянілася. А калі і змянілася, дык у лепшы бок.

## ШТАНЫ ДЛЯ ВЕТЭРАНА

Іншы раз аб якім-небудзь кур'ёзным выпадку кажуць: і смех, і грэх. У нашай жа не зусім звычайнай, а, можа, і звычайнай, гісторыі не да смеху. Ну а наконт грэху — дык наўрад ці хто-небудзь яго возьме на сябе. І тым не менш, што было — тое было. А здарылася гэта ў мінскім ГУМе, у секцыі гатовага адзення.

Сівавалосы, знясілены чалавек, удзельнік вайны і інвалід, прыйшоў купляць штаны. Як ён сам падкрэсліў, самыя звычайныя штаны. Старыя, што былі на ім, знасіліся дашчэнту, на іх ужо не было ад лапін жывога месца. Зараз шмат хто так даношваецца. І наш герой — не выключэнне.

Дзякуй Богу, штаны ў продажу былі, нават "у шырокім асартыменце". І пад колер пінжака, так што гарнітурная пара не парушалася, а наадварот, абнаўлялася.

Ветэран шчасліва, па-дзіцячы ўсміхаўся, цешыўся блізкай пакупкай, прыгаворваў:

— Без штаноў — як без рук... Пінжак во, цалюткі, ён больш у шафе вісіць, а штаны кожны дзень эксплуатуюцца...

Маладыя прадаўшчыцы, хіхікаючы, прыхільна глядзелі на гаваркога пакупніка. Мусіць, болей сустракалася пахмурных і маўклівых, нервовых і патрабавальных. А тут — такі заслужаны (аб чым сведчылі ордэны і медалі на пінжаку) і такі добразычлівы.

Хутка знайшлася вольная прымерачная кабіна. Калі ён выйшаў у новых штанах, гледзячы запытальна, — ну як, маўляў?.. — то з усіх бакоў пасыпаліся словы адабрэння. Ах, ах, лепшых і не знойдзеш, сядзяць, як улітыя, і здымаць не трэба — у іх адразу можа ісці. Абавязкова ў іх, і толькі ў іх!

Дарэчы, было гэта напярэдадні свята Перамогі, ветэран ішоў, мабыць, на нейкую сустрэчу.

Акрылены, ён накіраваўся да касы пад добрымі паглядамі прадаўцоў і пакупнікоў. Аднак праз некалькі хвілін вярнуўся з грашамі ў кулаку. Выгляд у яго быў варты жалю, найперш — разгублены. Маршчыністы, са слядамі сініх парахавых крапінак твар выяўляў пачуцці крыўды і болю, гневу і збянтэжанасці, сораму і суму...

Усе неўразумела паглядалі: што здарылася? Нічога не здарылася. Проста: не хапіла грошай у ветэрана: штаны каштавалі амаль палову ягонай пенсіі. Можа, гэта былі асаблівыя штаны? Ды не — самыя звычайныя, напаўшарсцяныя-напаўкартовыя. І фасон — шырспажывецкі. А цана — як на заказ.

Людзі, што былі навокал, пераглянуліся.

— Скінемся?.. — сказаў хтосьці. — Што мы — не людзі?

— Заўжды ў славян існаваў закон, — падтрымаў інтэлігентнага выгляду мужчына, — выручаць у цяжкую хвіліну сабе падобных.

— Хто колькі можа, — усміхнулася прасцецкага вобліку кабеціна.

Праз якія дзве-тры хвіліны недастаючая сума грошай была сабрана.

— Што вы, што вы, — прыгаворваў узрушаны і збянтэжаны ветэран, не трэба, неяк ужо абыдуся.

— Ну, чаго там, бацька, не здымаць жа абнову... Насі сабе на здароўе — з запалам сказаў вясёлы маладзён. — Хто ж бацька, выручыць, калі не мы, га?

— Я аддам... Абавязкова. З пенсіі... Абавязкова...

— Канечне, аддасі. З пен-сіі... Яна ж у цябе, бацька, большая, чым аклад у вертыкальшчыка або даход бізнесменшчыка, — не ўтаймоўваўся весялун. — Не хвалюйся. Насі штаны, дарагі, і не хвалюйся...

Прызнацца, даўно я не бачыў чаго-небудзь падобнага, ужо ці не страціў веру ў людскую дабрыню і спагаду, і — расчуліўся.

І падумалася: павінны, абавязкова павінны прыйсці іншы час, лепшы, святлейшы, калі людзі зноў адчуюць сябе людзьмі, адказнымі за лёсы іншых людзей...

## Лепшы дуэт



**Не зусім звычайны быў гэты балетны спектакль "Шахеразада" на музыку М. Рымскага-Корсакава ў тэатры музычнай камедыі. Галоўныя партыі — Сіндбада і Царэўны выканалі Канстанцін Кузняцоў ды Юлія Дзятко, якія толькі што вярнуліся з Масквы, пасля паспяховага выступлення на восьмым Міжнародным конкурсе артыстаў балета. Канстанцін стаў лаўрэатам, заняў другое месца, Юлія на чацвёртым месцы, атрымала званне дыпламанта. Акрамя таго, гэта цудоўная сямейная пара заваявала званне "Лепшы дуэт конкурсу".**

**Чатыры гады таму яны скончылі Беларускае дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча і адразу прыйшлі ў балетную трупу тэатра музычнай камедыі. Станцавалі тут вядучыя партыі амаль ва ўсім рэпертуары.**

**Балетмайстар-рэпетытар народная артыстка Расіі Марыяна Подкіна адзначае ў маладых артыстах незвычайную працаздольнасць, сур'ёзнасць, любоў да сваёй прафесіі, што і дапамагло ім паспяхова выступіць на вельмі адказным конкурсе. Дарэчы, галоўны балетмайстар тэатра Ніна Дзячэнка і балетмайстар-рэпетытар Марыяна Подкіна, якія таксама былі адзначаны аўтарытэтным журы, рыхтавалі Юлію і Канстанціна да конкурсу. У складзе журы пад старшынствам прафесара Юрыя Грыгаровіча былі такія славутасці, як Галіна Уланава, Наталля Макарава, Валянцін Елізар'еў, іншыя сусветнавядомыя артысты, балетмайстры.**

**— Маскоўскі конкурс працягваўся дзесяць дзён, — расказвае Канстанцін Кузняцоў. — З трох тураў, на мой погляд, самы складаны быў другі. Ад яго ж вынікаў залежаў лёс канкурсанта — ці пройдзе ён у фінал. І трэба было выканаць два нумары. Мы, напрыклад, танцавалі па-дэ-дэ з балета Людвіга Мінкуса "Дон Кіхот" і пастаўлены Нінай Дзячэнкай сучасны нумар на музыку Пабла Сарасатэ "Цыганскія напевы".**

**З удзельнікаў маскоўскага конкурсу нас асабліва ўразіў уладальнік Гран-пры Андрэй Баталаў з Санкт-Пецярбурга, а таксама шаснаццацігадовая румынка Аліна Кажукара, якая заняла другое месца. Дарэчы, на працягу васьмі маскоўскіх конкурсаў толькі тройчы раз была прысуджана прэмія Гран-пры. Папярэднія атрымалі Надзея Паўлава, Ірэк Мухамедаў. Што датычыць маскоўскіх гледачоў, дык нам здалося, што яны ў асноўным перажываюць толькі за сваіх.**

**У родным калектыве Юлію Дзятко і Канстанціна Кузняцова віншавалі сябры, калегі. Да іх віншаванняў далучаемся і мы.**

**Вера КРОЗ**

**Фота Віт. АМІНАВА**

## Неўміручая камедыя

**Кандрата Крапівы "Брама неўміручасці" дала назву чарговай кнізе ў "Школьнай бібліятэцы", выпушчанай Таварыствам з абмежаванай адказнасцю "Аракул". Акрамя гэтага твора, у ёй прадстаўлены і іншыя, што дазволяць вучням атрымаць даволі поўнае ўяўленне аб сучаснай беларускай драматургіі — "Судны дзень Скарыны" Міколы Арочкі, "Купала" Аляксея Дударава, "Маці ўрагану" Уладзіміра Караткевіча, "Хадзілі мы паходамі" Івана Чыгрынава.**

МУЗЫКА

***Не мелі людзі клопату — прыдбалі сабе поле. Пеўчае. Ці, як адзін мой калега кажа, — спеўнае. Гэтак і называе фестываль: "Спеўнае поле". Маўляў, гучыць больш прыгожа і да сутнасці бліжэй. "Зрэшты, што значыць слова?" — магу я выгукнуць следам за класікам ды яголым героем. І дадаць: "Асабліва там, дзе рэй вядзе музыка..."***

# Групавы партрэт у люстэрку Нарачы

### ПРА РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ "ПЕЎЧАЕ ПОЛЕ"

Музыка завабіла нас, паяднала, павяла за сабою — на тое самае поле, у апеты паэтамі край. А вось дабраліся мы туды ў акалічнасцях, вартых не лірычнага паэтавага пяра, а вострага клінка сатырыка. Гэта быў дзень, калі ў Мінску ладзіліся вялікія, на дзяржаўным узроўні, урачыстасці, і горад з раніцы жыў незвычайным, рэгламентаваным жыццём, і транспартныя праблемы зрабіліся яшчэ больш адчувальнымі, і, намагаючыся злавіць сэнс абвестак у метро, цяжка было не паддацца панічнаму настрою па-святочнаму апранутага натоўпу, устрывожанага перспектывай бавіць час на падземных станцыях...

Гарапашная купка чыннікаў аргкамітэта, журы, журналістаў змарнавала сотні паўтары хвілін ды неведама колькі нервовых клетак у пошуках службовага аўтобуса, у пошуках адно аднаго, у пошуках дарогі з вулічнага лабірынта, на кожным павароце якога гучала суровае "ніз-зя!!!"

І ўсё б нічога, ды толькі ніхто з чаканых фотарэпарцёраў да месца сустрэчы так і не дайшоў... Шкада, вядома, бо на музычных фестывалях заўсёды ёсць і што паслухаць, і што паздымаць. А тут — і мясціны чараўнейшыя, і надвор'е паказала, нарэшце, сапраўдны ліпеньскі нораў, палкі ды вясёлы, сонечны.

●

Нас там было каля 600 чалавек: паўтара дзесятка пеўчых калектываў, аргкамітэт, конкурснае журы, прэса, радыё... Мядзельшчына, як гасцінная гаспадыня, шчыра прыняла ўсіх — і гэта ў разгар летняй вясковай працы ды ў разгар курортнага сезона!

Не мелі людзі клопату — прыдбалі сабе яшчэ й "Пеўчае поле"?

Але ж яно тут даўно!

Сорак пяць гадоў таму нарадзілася ў Нарачанскім краі прыгожая традыцыя: у летнія перадкупальскія дні ладзіць песеннае свята. Самадзейныя спевакі ды музыкі, збіраючыся ля помніка тутэйшым партызанам, апявалі хараство жыцця, свой край, ушаноўвалі ягоных вызваліцеляў. Пры канцы 60-х на маляўнічым узгорку па-над Нарачу пабудавалі новы помнік, і шырокія прыступкі, што вядуць да мемарыяльнай стэлы, зрабіліся традыцыйным месцам правядзення святочных рытуалаў і харавых канцэртаў.

Летась да правядзення песеннага свята далучылася Міністэрства культуры, з'явілася назва — "Пеўчае поле", і вось ужо другі год запар традыцыйная для Мядзельшчыны імпрэза ладзілася як Рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва.

Зразумела, што даўняя мясцовая традыцыя і фестываль дзяржаўнага ўзроўню — не адно і тое ж. Зразумела, што казачнае багацце наваколльнай прыроды і змястоўнасць жыцця чалавечага на яе фоне і ва ўлонні — не адно і тое ж. Зразумела, што душэўная гармонія, народжаная ад святой нарачанскай вады і духмянага подыху хвояў, і суладдзе ў фестывальным арганізме — не адно і тое ж...

Таму і самі гаспадары ды апекуны "Пеўчага поля", маючы зусім побач узорны прыклад пастаўскага свята "Звіняць цымбалы і гармонік", досыць крытычна ацэньваюць цяперашні ўзровень арганізацыйна-творчай культуры харавога фестывалю ў яго новым статусе, шукаюць перспектыўныя формы працы, удасканальваюць досвед.

І прынцыповым набыткам сёлетняй праграмы стаўся падзел конкурсных выступленняў на дзве жанравыя групы: асобна праслухоўвала журы хоры ды ансамблі народнага напрамку, асобна — калектывы акадэмічнага кшталту. Гэта ўпарадкавала крытэрыі "судзейства", дазволіла вызначыць выканаўцаў-лідэраў у розных намінацыях.

●

Прыглядзецца да будучых канкурсантаў можна было ў той самы першы дзень, калі мы, пакінуўшы святочную сталіцу, праз пару гадзін апынуліся на ўтульнай плошчы Мядзела. Урачыстае адкрыццё сабрала ўсіх ці амаль усіх, чыімі клопатамі, з чыім удзелам адбываўся фестываль.

Тут і яго дырэктар, загадчык раённага аддзела культуры А. Шаранговіч; і намеснікі старшыні аргкамітэта — начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Т. Стружэцкі, начальнік Упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама А. Акушэвіч, намеснік старшыні Мядзельскага райвыканкама І. Шаранговіч; і мастацкі кіраўнік свята, дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (дарэчы, сёлетні лаўрэат прэміі прафсаюзаў) С. Іванова; і вядучы спецыяліст міністэрства А. Скарына; і галоўны дырыжор харавых імпрэзаў, ён жа — старшыня журы, знаны маэстра М. Дрынеўскі; і вядучая канцэртных праграм, народная артыстка Беларусі (і, між іншым, ураджэнка тамтэйшых мясцін) М. Захарэвіч...



Тут і галоўныя чыннікі "Пеўчага поля" — прадстаўнікі ўсіх абласцей, нашай сталіцы, госці. Іх урачыстае шэсце прадоўжылася тэатралізаванай цырымоніяй адкрыцця на той самай плошчы, зусім побач з маляўнічым возерам Мястра.

Пад захопленыя воклічы смуглявых русалак, пад жартоўны каментар гаспадара-Нептуна, пад "воплескі" досыць бесцырымонных і крыклівых шэракрылых чаек, змяняючы адно аднаго, спявалі сталічная "Крыніца", мастоўская "Ярыца", Полацкі камерны хор, салігорскі "Каларыт", Народны мужчынскі хор Палаца культуры Мінскага аўтазавода, расійская "Московия", народны хор Цэнтра культуры з Мсціслава... І які гэта быў адмысловы спеўны ўзор! "Занімай, Беларусь маладая мая..." падхоплівалася магутным "Многая лета!", пачуўшы, як "Под дугой колокольчик поет", вуха ўжо лавіла шчырае прызнанне: "Зорачка мая!"

Камертонам свята, на які, пэўна ж, мусілі арыентавацца свой творчы ўзровень артысты-аматары, успрымалася дынамічнае выступленне знанага Дзяржаўнага хору імя Г. Цітовіча, у мастацтве якога дзівосным чынам спалучаецца высокі акадэмізм і глыбіня беларускіх народных спеўных традыцый.

А потым — потым быў нечакана вясёлы рытуал знаёмства з конкурсным журы. Кожнага "суддзю" — а гэта аўтарытэтныя знаўцы харавой справы, дзеячы культуры, педагогі М. Дрынеўскі, В. Аўраменка, І. Абразевіч, С. Іванова, М. Була, Я. Рэўтовіч, А. Пякуцька, — дасціпны і суровы Нептун выклікаў да ладнай бочачкі, з якой трэ было... Не, не квас ды не піва піць! А выцягнуць, вобмацкам, аберуч палавіўшы, — жывую азёрную рыбіну! Думаеце, лёгка?

Вось такі быў першы дзень на "Пеўчым полі", які завяршыўся вечаровай феерыяй на возеры Нарач.

Белабокі карабель, які прыняў нас на борт, нікуды не плыў. Але ўсё вакол яго здавалася такім зменлівым, нібыта падарожны краявід! У празрыстай вадзе цямнелі спінкі рахманых печкуроў; на гарызонце разгортваўся, нібы стракатае крыльца вялізнага матыля, самотны ветразь; штохвілінна і возера, і неба над ім, і хмурынкі на захадзе расквечваліся новымі адценнямі з нерукатворнай палітры. Віраваў стракаты натоўп: людзі чакалі музыкі ды відовішчаў.

Спачатку заспявалі самадзейныя калектывы. Выступілі артысты Акадэмічнага народнага хору. Пазней іх змяніла шумная стыхія дыскатэкі, на хвалях якой "крутым" капітанам пачуваў сябе вядучы — А. Капуста.

І феерверк быў! Уяўляеце, як гэта эфектна: вяртлявыя зіхоткія змейкі ўзлятаюць проста з вады, круцяцца над цёмным возерам, а высока над галавой рассыпаюць свае агністыя пялёсткі казачныя сухвецці...

●

З дзевятага паверха зірнуць на цуд-возера, глытнуць гаючага чабарова-бярозава-хвойнага паветра — і хутчэй уніз. Там, у кінаканцэртнай зале турысцкай гасцініцы "Нарач", пачыналася ранішняе праслухоўванне народных ансамбляў ды хораў.

Курортнікі, вядома ж, не маглі не заўважыць, што ў "зоне адпачынку" дзеецца нешта нязвыклае: сям-там з-за шчыльнага кустоўя даносіліся зычныя шматгалосныя спевы, пераборы гармоніка; па гасцінічным холе блукалі дзяўчаты й дзецюкі ў кідкіх беларускіх строях; мураваныя сцены гулі ад шчодрага крэшчэнда. І афіша ля сталоўкі абвяшчала фестывальную праграму. Але...

Але (і гэта можна зразумець!) няшмат знайшлося ахвотнікаў ахвяраваць гарачы ясны дзянёк на тое, каб паслухаць канкурсантаў. І ўсё ж — іх слухалі, падтрымлівалі апладысментамі. Нават запісвалі на магнітную стужку — з дапамогай усюдыіснай "студыі на колах", машыны Дзяржтэлерадыё. А журы тым часам вызначала, наколькі чыста гучаць акапэльныя песні, наколькі ў суладдзі народныя выканаўцы з інструментальным акампанементам, наколькі зграбныя самадзейныя артысты ў падтанцоўках, наколькі артыстычныя на сцэне.

Праз некалькі гадзін шаноўнае журы мусіла пераключыць свой слых і досвед на мастацтва іншага жанру: у мясцовым касцёле пачыналася праслухоўванне калектываў акадэмічнага напрамку.

На парозе храма ўдзельнікаў "Пеўчага поля" сустрэў усмешлівы, прыветлы айцец Аркадзь. У храме ўжо чакала зацікаўленая публіка, якая парадавала сваім уменнем слухаць, успрымаць і прымаць так званую сур'ёзную і складаную музыку. І вельмі, на маю думку, важна, што Марыя Захарэвіч, вядучая абедзвюх конкурсных праграм, коратка знаёміла публіку з асаблівасцямі творчасці кожнага калектыву-ўдзельніка.

Не ведаю, ці вызначылася ўжо на той час у сваіх аб'ектыўна-суб'ектыўных прыхільнасцях журы, а мне падалося, што ў стракатым фестывальным шматгалоссі выразна і ўзнёслы прагучаў голас лідэра — Полацкага камернага хору пад кіраўніцтвам самаадданага майстра Людмілы Жукавай.

●

Следам за гэтым хорам выправіліся мы з калегамі на вечаровы канцэрт у вёску Канстанцінава. (Конкурсны дзень завяршаўся выязнымі выступленнямі ўсіх удзель-

нікаў: "народнікі" гасцявалі ў гаспадарках Мядзельскага раёна, "акадэмісты" спявалі ў касцёлах. Дарэчы, у тым самым нарачанскім касцёле, у колішняй вёсцы Кабыльнік, дзе адбываўся конкурс, канцэрт даў Дзяржаўны акадэмічны народны хор пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага).

У Канстанцінаве тамтэйшы ксёндз перапрасіў загадзя, што народу на канцэрце можа быць менш, чым саміх выканаўцаў. Але натхнёныя палачане настройвалі сябе на свята, бо ім выпаў рэдкасны шанц — выступіць перад па-свойму блізкім для іх чалавекам. Чалавек гэты — Аляксандр Літвіноўскі, досыць знаны кампазітар, чые творы даўно і з захапленнем выконвае Полацкі камерны хор. Спадар Літвіноўскі таксама прыехаў на "Пеўчае поле" — і гэта сталася прыемным сюрпрызам для гарачых прыхільнікаў ягонага таленту. Тым болей, што палачане падрыхтавалі прэм'еру яго новага твора — "Ах, мой Езу" на тэкст з малітоўніка кс. А. Станкевіча.



Урэшце, адбыўся ці не бенефіс кампазітара. У касцёле, насуперак сумневу, быў аншлаг. Вялікую, нават, можна сказаць, груваcткую, дапоўненую музыказнаўчым каментарыем, праграму вяскоўцы слухалі й прымалі рыхтык падрыхтаваная сталічная публіка. Гучала музыка паляка Твардоўскага і летувіса Мішкінаса, гучала руская класіка — Часнакоў і Чайкоўскі, "савецкія" Фалік і Гаўрылін... Але "цвікамі" праграмы былі ў той вечар, зразумела ж, творы беларускага кампазітара, які сціпла сядзеў сярод прыхаджан, сваіх слухачоў, на касцельнай лаве. Полацкі камерны хор пад кіраўніцтвам Л. Жукавай годна прадставіў фрагменты з Імшы А. Літвіноўскага, вядомыя дагэтуль у інтэрпрэтацыі мужчынскага калектыву "Унія". Своеасаблівая прэм'ера! І яшчэ раз давялося аўтару выйсці на паклон перад гэтай адмысловай залай, бо адбылося першае выкананне хору "Ах, мой Езу". (Між іншым, ужо назаўтра, у гала-канцэрце, палачане спявалі фрагменты з ягонай кантаты "Зборная суботка").

Выканаўцаў павіталі кветкамі — і спевам дзетак з касцельнага хору. А павесялелы ксёндз доўга дзякаваў, абяцаў маліцца за ўсіх нас і запрашаў прыязджаць яшчэ.

●

Спякотна было ўжо раніцай. І не дзіўна, што шматлікі люд, які сабраўся на галоўную імпрэзу "Пеўчага поля", мкнуў або ў цянёк, або да вады: Нарач жа — цераз дарогу ад партызанскага помніка. Балазе, гэта не ў тлумным горадзе: і натоўп, і чарада легкавікоў ды аўтобусаў, і хлопцы ў экіпіроўцы ахоўнікаў парадку не рабілі тут гнятлівага ўражання.

Сабраліся жыхары Мядзельскага раёна, афіцыйныя асобы; прыехаў старшыня аргкамітэта фестывалю, намеснік міністра культуры В. Гедройц. Пачалася традыцыйная цырымонія, што адбываецца тут кожны год: шэсце ветэранаў мінулай вайны, ускладанне гірляндаў ды букетаў да мемарыяла... Затым — фестывальны гала-канцэрт з удзелам ужо досыць знаёмых артыстаў з народа, прадстаўляла якіх вядомая народная наша артыстка і галасы якіх зліліся ўрэшце ў зводным хоры.

Вось дзе спевам вольна! Музыка паяднала ўсіх, каму пашчасціла патрапіць у той дзень не толькі ў цэнтр, а і ў ваколіцы свята: спеўнае поле здавалася бязмежным. Варта было крыху пакружляць па нарачанскім беразе, каб пераканацца: і дэкламацыю, і мелодыю, і слова ў песні чутно было паўсюль: на кірмашы рамёстваў, сярод гандлёвых шапікаў, ля самай вады.

Ну, а як жа вынікі конкурсу? Іх абвясцілі пры канцы ўрачыстасцяў.

Радасна было пачуць, што Полацкі камерны хор, калектыў аматараў-энтузіястаў, які пад кіраўніцтвам Л. Жукавай выйшаў у свой час пераможцам Міжнароднага фестывалю хрысціянскай музыкі "Магутны Божа", атрымаў Гран-пры і на "Пеўчым полі". Гэта не толькі грашовая прэмія, а і накіраванне ад Міністэрства культуры на харавы конкурс у Паўночны Уэльс летам наступнага года.

Першае месца сярод акадэмічных калектываў заняла народная харавая капэла Гомельскага абласнога дома творчасці ўпраўлення адукацыі (кіраўнік Уладзімір Курылін). Сярод народных — сталічны хор "Жыцень" ДК аб'яднання "Інтэграл" (кіраўнік Леанід Волчак). Сярод вакальных ансамбляў — "Каларыт" ПК "Беларуськалій" з Салігорска (кіраўнік Таццяна Якуніна).

У ліку іншых лаўрэатаў — народная харавая капэла ПК "БелАЗа" з Жодзіна пад кіраўніцтвам Э. Шчырага, мужчынскі хор ПК Мінскага аўтазавода пад кіраўніцтвам А. Літоўкі, Маладзёжны хор Брэсцкага музычнага каледжа імя Р. Шырмы, дзе спяваюць зусім юныя дзяўчаткі (кіраўнік М. Трафімук), столінская "Крыніца" (кіраўнік А. Аўсянік), "Спадчына" Шаркоўшчынскага РДК (кіраўнік П. Сафончык), жыткавіцкая "Жытніца" (кіраўнік Т. Еўлаш), "Ярыца" Мастоўскага РДК (кіраўнік Г. Мішурына)... Словам, прэміямі, дыпломамі, памятнымі падарункамі журы, як і водзіцца на святах народнай творчасці, парупілася заахвоціць усіх.

●

Яшчэ лятаў мяч над валейбольнай пляцоўкай; яшчэ спявалі, прылёгшы ў цяньку, кранальныя сівенькія вясковыя ветэраны; яшчэ прыцэньвалася да салодкіх ласункаў дзятва... А мінчукі збіраліся ў дарогу. Думалася-гаварылася пра тое, што і арганізацыйны, і творчы ўзровень фестывалю расце. Што фестываль гэты мае вялікі глыбінны патэнцыял, бо свята песні спакроўлена з беларускай душою. Што "Пеўчае поле" пры належнай падтрымцы з боку ўрада можа зрабіцца сімвалам беларускай культуры, дый самой краіны. Бо нарадзілася яно ў цудоўных мясцінах, якія сімвалізуюць Беларусь.

Так, Нарач — сімвал Беларусі. Песня — сімвал беларускай душы. Як жа не быць ім разам?

Калі глядзець у перспектыву з аптымізмам, дык за вырашэнне арганізацыйна-творчых праблем брацца варта ўжо сёння. А праблемы і ў тым, як у разгар сезона адпачынкаў прыстойна прымаць-размяшчаць гасцей "Пеўчага поля", сярод якіх з часам, трэба думаць, будуць і прадстаўнікі цывілізаванага замежжа. І ў тым, як арганізаваць публіку на канцэртах. І ў тым, як падрыхтаваць канкурсантаў. І ў тым, як захаваць экалагічны баланс на чарадзейна-прывабных нарачанскіх берагах, дзе мусіць быць і куток запаведны, і асяродак для культурнага адпачынку, і выспа для самавыяўлення творчых талентаў...

Напэўна, пра гэта ды пра іншае ўжо задумваюцца тыя, хто адчуў загадкавую вабнасць беларускага "Пеўчага поля" і зразумеў, што, як і кожнае жывое поле, яно вымагае добрага догляду. Многіх добрых рук і добрых сэрцаў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*А вось здымкі давялося скарыстаць леташнія, хаця падобныя фотасюжэты маглі атрымацца і гэтым разам.*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

ТЭАТР

# "Прабівацца трэба, але не локцямі..."

***Ганна Пянкевіч толькі летась скончыла акцёрскі факультэт Беларускай акадэміі мастацтваў, але ўжо плённа і з задавальненнем працуе ў вядомых тэатрах. Маладую актрысу можна пабачыць у спектаклях "Амфітрыён" (у ролі Алкмены) і "Браты Маор" (у ролі Амаліі) Дзяржаўнага рускага акадэмічнага тэатра.***

***З дыпломнай працай — "Амерыканкай" па п'есе Мікалая Каляды — Ганна выступала па-за конкурсам на фестывалі монаспектакляў "Я". Звярнула на сябе ўвагу яе Рэя ў "Ромуле Вялікім" Купалаўскага тэатра. Але яшчэ ў час вучобы, расказвае Ганна, працаваць давялося шмат.***

— Наш курс пад кіраўніцтвам Андрэя Фёдаравіча Андросіка мусіў увайсці ў трупу былога Альтэрнатыўнага тэатра. таму ўжо з першых дзён мы ігралі графінь-унучак у спектаклі "Гора ад розуму", удзельнічалі ў розных канцэртах, працавалі на вечарынах, што ладзіў "Клас-Клуб" — дамагаліся права сесці на галёрцы і пабачыць любімых акцёраў. Асабліва тады ўразілі С. Юрскі з "Крэсламі" Э. Ёнэскі і А. Філіпенка, які чытаў гогалеўскія "Мёртвыя душы". А на сцэне акадэміі былі зроблены дзве пастаноўкі: "Як важна быць сур'ёзным" А. Уайльда і "Цудоўныя суседзі для пікніка" Т. Уільямса. Апошні з іх успрымаецца неадназначна, але, на мой погляд, гэта вельмі добры спектакль. У ім мы працавалі амаль на голай сцэне: восем белых крэслаў, тры столікі, магнітафон і дробны рэквізіт (усё-ткі п'еса бытавая). Ёсць задумка ўзнавіць гэты спектакль, але цяпер страшна нешта казаць...

**— Цяжка было прабіваць сабе дарогу?**

— Я жыла і школу канчала ў Маладзечне, але паступаць паехала ў Санкт-Пецярбург, дзе жыве мой бацька. У тэатральны інстытут спазнілася з дакументамі; адбор у тэатр-студыю Неміроўскага "Субота", на жаль, не прайшла. Сказала сабе: "Гэта яшчэ не значыць, што я нявдара!" І паступіла ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Прабівацца трэба не локцямі, а працай. Бо нічога, ніякія намаганні ў пясок не ідуць. У "тэатралцы" быў паказаны добры капуснік, хтосьці прыкмеціў, камусьці параіў. Але шмат залежыць і ад выпадку: захварэла актрыса — мяне ўвялі на ролю. Я надзвычай люблю ўводзіцца — гэта такая мабілізацыя, калі "чуйна чуеш, зорка бачыш", калі ўвесь-увесь у партнёры. Людзі іграюць спектакль 5-6 гадоў, а ты павінен адпавядаць таму ўзроўню, які ў ім ужо "найграны".

**— Вашы бацькі нейкім чынам былі звязаны з тэатрам?**

— Не, да тэатра яны ўвогуле дачынення не мелі. Але мне здаецца, што бацька (былы вайсковец) — нерэалізаваны акцёр. Можа, з гэтай прычыны яму не шанцуе ў жыцці. Але яму сапраўды шмат дадзена Богам — ён мае шыкоўны голас, грае на некалькіх музычных інструментах, акрамя таго, ён цудоўны спартсмен, механік.

**— Хто з педагогаў ці акцёраў пакінуў у вас самыя яркія ўспаміны?**

— Я вельмі люблю Дзіну Іванаўну Іванову, педагога па вакале. Калі з ёй кантактуеш, яна "загараецца", становіцца васемнаццацігадовай. У яе столькі энергіі, якую яна, не шкадуючы, выдаткуе на іншых. Але на першых занятках мы не разумелі адна адну. У мяне ніколі не было праблем з голасам, я нармальна спявала, маю добры слых. Але мне пачалі тлумачыць, як трэба, як правільна; як выбягала з камяком у горле і плакала. Тады падыходзіў Генадзь Фамін і казаў: "Аня, на ўсё патрэбен час, скарыся, ідзі памірыся з Дзінай Іванаўнай". Я ішла, мірылася. Яна супакойвала: "Анечка, усё добра, гэта вучэбны працэс". Праз дзень усё паўтаралася. Мы шмат спявалі на курсе, бралі класіку, рамансы. Ды і цяпер, я хаджу да Дзіны Іванаўны распявацца.

Цікава было на занятках па МРВ (музычна-рытмічным выхаванні), якія вялі Аляксандра Сандлерс — выдатны акампаніятар, і Генадзь Фамін — цудоўны пластык, які вельмі дакладна адчувае аб'ект. Спачатку здаецца, што МРВ —нешта даволі дзіўнае. Напрыклад, сядзім на падлозе, кажам "Марына харошая", гладзім сябе па галаве і пляскаем у далоні. І гэтак усе 12 чалавек па чарзе. Гэта карысна, але з боку — маразм нейкі. Мне гэты прадмет дапамог пластычна разняволіцца. Увогуле, не было педагогаў, якія не падабаліся. Кожны: Андросік, Рудаў, Шагідзевіч, Курган — даваў нешта сваё, дзяліўся часткай сябе.

А сярод акцёраў?.. Нядаўна паглядзела апошні канцэрт Лайзы Мінэлі. Яна можа ўсё: пераўвасабляцца, спяваць, танцаваць. Яна кажа: "Я хачу быць пырскамі шампанскага". І робіцца імі... Таксама Л. Гурчанка — яе можна ўспрымаць па-рознаму, але гэта актрыса навышэйшага пілатажу. Для мяне сапраўдны майстар — той, хто можа аднолькава пераканаўча сыграць і героя, і бамжа.

**— Ведаю, што вам давялося браць удзел у Яхантаўскім конкурсе ў Санкт-Пецярбурзе...**

— Якраз перад выпускам, у 96-ым годзе, мы з аднакурсніцай за свае грошы паехалі на гэты конкурс. Нам нават далі бясплатнае жыллё (хоць акадэмія павінна была аплаціць пражыванне ў гасцініцы). Для нас гэта вельмі важная падзея: так хацелася прывезці дыплом, ужо не кажучы пра грашовыя прэміі за першыя месцы ці прапановы працаваць у сталічных тэатрах. У асноўным, у конкурсе прымалі ўдзел маладыя акцёры з Масквы і Піцера, былі прадстаўнікі Яраслаўля і нават Уладзівастока. Я не рыхтавалася да першага месца, бо разумела, што знаходжуся па-за пэўнымі рамкамі. Там чытаюць Чэхава, Даўлатава, Тэфі, Аверчанку, Набокава, Бродскага. І раптам — Мікалай Каляда, малады драматург, з чыёй п'есай "Амерыканка" я выступала. У дадатак час чытання быў абмежаваны, і мой 35-хвілінны монаспектакль давялося скараціць да 13 хвілін. Таму атрымаць прыз ад журы за акцёрскае абаянне было нечаканай прыемнасцю.

**— Упершыню шырокі глядач пазнаёміўся з вамі ў спектаклі "Ромул Вялікі" Купалаўскага тэатра, дзе вы выконвалі ролю Рэі?**

— Роля Рэі — мая першая роля. Актрыса Юлія Высокая адбывала ў Галівуд (іграць павінна была яна), тэрмінова трэба было яе замяніць. Мяне адшукалі, В. Раеўскаму я спадабалася, і мы адразу пачалі рэпеціраваць. Асабліва цікава было працаваць з Аўгустам Мілаванавым. Гэта цудоўны чалавек вялікай дабрыні, душэўнай цеплыні і адметнага таленту. Мая ж роля — невялікая, але важная. Раеўскі сказаў: "Яна будзе для цябе паказам. Сыграеш — тады вырашым, браць цябе альбо не". У гэты час я паказалася ў Рускім тэатры і мяне... прынялі. А калі сыграла ў "Ромуле Вялікім", паклікалі ў Купалаўскі, але я ўжо іграла ў Рускім. Паралельна працягвала ў Малым тэатры. Прычым там усе ўводы былі раптоўнымі. Аднойчы пасля монаспектакля прыехала дадому стомленая, лягла адпачываць, і тут званок: актрыса з'ехала на здымкі, а раніцай — 3 дзіцячыя спектаклі... За ноч Яўген Жураўкін увёў мяне ў казку "Выкрадальнікі вясёлкі". Вядома, раніцай я на сваю партнёрку Святлану Нікіфараву глядзела ва ўсе вочы; адыгралі амаль 30 навагодніх казак "Чаравічак для Папялушкі". А перад самай прэм'ерай "Дрэйфуса" Ж.-К. Грумберга адна з актрыс зламала нагу, і хоць для падстрахоўкі нас было ажно трое, але ў самым першым спектаклі давялося іграць мне. А цяпер, вы бачылі, мы з аднакурснікам Валянцінам Серадой рэпеціруем "Яўрэйскія паказкі", якія літаральна гэтымі днямі едуць на фестываль у Рыгу.

**— Вы не стамляецеся ад такіх хуткіх тэмпаў?**

— Гэта шчасце, калі ў цябе столькі работы!

**З Ганнай ПЯНКЕВІЧ**
**гутарыла Юлія ПАЛАЧАНІНА**

## У галіне крытыкі і літаратуразнаўства

АНТОНУ СЕМЯНОВІЧУ — 80

**Багатая біяграфія Антона Аляксандравіча і на падзеі, і на творы. Родам ён з вёскі Шабунеўшчына цяперашняга Дзяржынскага раёна. Працаваў слесарам на заводзе, у 1938—1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1945 годзе. А ў гады вайны, з кастрычніка 1943 года, А. Семяновіч з'яўляўся сувязным партызанскага атрада імя Фурманава. У пасляваенныя гады настаўнічаў, вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва. Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, дацэнтам кафедры рускай і замежных літаратур, а з 1971 года — загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Мае навуковую ступень доктара філалагічных навук, прафесар.**

**У галіне крытыкі і літаратуразнаўства А. Семяновіч выступае з 1949 года. Аўтар манаграфій "Проза Якуба Коласа (дакастрычніцкі перыяд)", "Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд)", "Беларуская савецкая драматургія", "Ад вытокаў да сталасці" і іншых. Напісаў брашуры "Кандрат Крапіва" і "Змітрок Бядуля". А. Семяновіч з'яўляецца аўтарам вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ "Гісторыя беларускай драматургіі. XIX — пачатак XX ст", "Гісторыя беларускай савецкай драматургіі", а таксама сааўтарам падручнікаў, у тым ліку і для сярэдняй школы.**

**Віншуем Антона Аляксандравіча са слаўным юбілеем! Зычым яму здароўя, поспехаў!**

## Напісаць паспеў шмат

**Нядоўгім быў век Эдуарда Самуйлёнка. Ён памёр 12 лютага 1939 года, маючы за плячыма ўсяго трыццаць адзін год. А напісаць паспеў шмат. У 1928 годзе дэбютаваў вершам на старонках газеты "Чырвоная Полаччына". Праз год у ёй жа апублікаваў і сваё першае апавяданне "Апошні заказ". У Э. Самуйлёнка выйшлі аповесць "Тэорыя Каленбрун" (1934), зборнікі апавяданняў "Пункт апоры" (1935), "Дачка эскадрона" (1937), раман "Будучыня" (1938). Акрамя таго, ён аўтар п'ес "Сяржант Дроб", што стала інсцэніроўкай аповесці "Тэорыя Каленбрун", і — "Пагібель воўка". Творы пісьменніка неадназразова перавыдаваліся, у 1952 годзе — у двух тамах. Безумоўна, з вышыні сённяшняга дня не ўсё ў іх раўназначна, але ў таленце Э. Самуйлёнку не адмовіш. А ўспомніць яго сёння ёсць нагода — 5 жніўня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Эдуарда Людвігавіча.**

## На зломе часу

**Споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Чарнышэвіча (памёр 18 студзеня 1967 года). Сялянскі сын з вёскі Кулакі цяперашняга Салігорскага раёна, Аркадзь Дзмітрыевіч у 1930 годзе, калі бацьку раскулачылі і выслалі на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, апынуўся ў Качоўскім раёне Комі-Пярмяцкай акругі, дзе ў пасёлку Янчэр працаваў на лесанарыхтоўках, а потым загадваў мясцовай крамай, настаўнічаў. У 1940 годзе А. Чарнышэвіч завочна скончыў Кудымгарскае педагагічнае вучылішча. На радзіму змог вярнуцца толькі ў 1950 годзе. Быў прызначаны загадчыкам Насовіцкай, а потым Свірскай пачатковай школ Мядзельскага раёна. З 1954 года жыў у Радашкавічах, пазней пераехаў у Мінск.**

**Талент яго фармаваўся і сталеў на зломе часу. Першае апавяданне А. Чарнышэвіч апублікаваў у 1927 годзе ў часопісе "Чырвоны сейбіт", калі быў яшчэ вучнем Старобінскай сямігодкі. Сталай літаратурнай працай займаўся з 1940 года, змясціўшы ў часопісе "Полымя" падборку апавяданняў. Найбольшую вядомасць А. Чарнышэвічу прынеслі раманы "Світанак" і "Засценак Малінаўка" (апошні ў дзвюх кнігах), у якіх праўдзіва адлюстравана жыццё беларускай вёскі ў дарэвалюцыйныя і пасляруэвалюцыйныя гады. Шмат выступаў А. Чарнышэвіч і ў галіне "малой прозы", выдаўшы зборнікі апавяданняў "Суседзі" (1956), "Марцін Когут" (1958), "Праз зімы і вёсны" (1960), "Новы дом" (1967).**

ПАМЯЦЬ

# Дзядзька Міхась Міцкевічавага роду



Міхась Міцкевіч (1897—1991), малодшы брат Якуба Коласа, чалавек фактычна нашаніўскай загартоўкі, пакінуў па сабе след літаратара, настаўніка, рэдактара, мовазнаўца і перакладчыка. Актыўны ў нацыянальнай беларускай працы, ён пражыў доўгае жыццё на двух берагах: 47 гадоў на Бацькаўшчыне і роўна столькі ж — на чужыне. Міхася Міцкевіча з нагоды стагоддзя з дня ягонага нараджэння ўспаміналі на вечарыне ў Літаратурным музеі Якуба Коласа.

У сваёй "Гісторыі беларускае літаратуры" Максім Гарэцкі пісаў пра Антося Галіну (такі літаратурны псеўданім Міхася Міцкевіча), што гэта "вельмі спадзейны малады белетрыст і паважаны публіцыст". Але сёння аб празаіку і публіцысту Міхасю Міцкевічу ведаюць у Беларусі, бадай, толькі паасобныя літаратуразнаўцы. Таму прыемнаю навіной з вуснаў доктара Адама Мальдзіса прагучала, што сёлета Скарынаўскі цэнтр мерыцца нарэшце сабраць і выдаць у серыі "Творцы беларускага замежжа" літаратурную спадчыну Міхася Міцкевіча.

Увогуле, сваё пакліканне гэты чалавек бачыў у беларускім асветніцтве і, канкрэтней, у настаўніцкай працы. Ён браў удзел у падрыхтоўцы I Усебеларускага кангрэса і быў адным з яго ўдзельнікаў. У 1918-ым Міхась скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, пазней нейкі час выкладаў беларускую мову ў мінскай беларускай гімназіі. Паводле ўспамінаў Міхасёвага пляменніка Сымона Белага, моцны ўплыў на дзядзьку меў Язэп Лёсік. Спаміж іншага, у 20-ыя гады ў сваёй заходнебеларускай Мікалаеўшчыне Міхась Міцкевіч арганізаваў тэатральную групу. Пераканаў антыбальшавік, глыбокі вернік, ён так і не надумаў адгукнуцца на Коласавы запрашэнні перабрацца на жыхарства і працу ў савецкі Мінск.

Пры канцы 39-га, пасля беларускага ўз'яднання, Колас нарэшце прыехаў у родныя мясціны. Але нармальна пакантактаваць з братам не ўдалося. Разам з Коласам неадступна быў нейкі незнаёмы чалавек, які не палічыў нат патрэбным сказаць, хто ён і чаго прыехаў. Проста сцярог Коласа. Пры такіх абставінах, як згадваў у 70-ыя гады на эміграцыі Міхась Міцкевіч, не магло быць шчырых гутарак. Паводле легенды, якую апавёў на вечарыне Адам Мальдзіс, браты ўсё ж, прынамсі, на імгненне былі шчырыя адзін да аднаго. Фурманка везла іх у суседнюю вёску, раптам спынілася, лейцы ўпалі на снег: Міхась і Колас злезлі долу і блізу не пад канём сутыкнуліся. Міхась задаў адно пытанне: "Пад капытом?" Колас адказаў: "Пад капытом".

У часе нямецкай акупацыі Міхась Міцкевіч старэецца на ніве беларускага школьніцтва, працуе інспектарам школ, ратуе настаўнікаў. У лісце да аднаго са сваякоў 1 ліпеня 1944-га ён пісаў: "Абставіны скланіся так, што я пастараюся выехаць; сякія-такія палітычныя ўчынкі зрабілі, што я і многія мае супрацоўнікі шмат кім уважаюцца як ворагі народа. Тое, што многія вёскі, у тым ліку й Мікалаеўшчына, абаронены ад спалення, нікім не возьмецца ў рахубу. Праўда, не ўся работа падабалася і мне, і не ўсё было зроблена з ахвотаю". Ёсць версія: ён паехаў з Беларусі, бо не хацеў, каб цень паў на Коласа. Ніхто не аспрэчвае, што Колас меў вялізны аўтарытэт, але ці змог бы старэйшы ахаваць малодшага ад бальшавіцкай расправы? Пасля 40-га браты больш не бачыліся. Колас да смерці так, бадай, і не даведаўся, дзе знаходзіцца Міхась.

А той да 50-га года жыў у Заходняй Нямеччыне, працаваў інспектарам пачатковых беларускіх школ, выдаў для іх каля дзесятка чытанак. Пазней — на эміграцыі ў Злучаных Штатах. У 50-ыя рэдагаваў газету "Беларус", а з 1970 да 1981 — часопіс "Голас царквы". Усе дзесяцігоддзі на чужыне шчыра і самааддана працаваў для дабра Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Перакладаў літургічныя тэксты. Ягоны пераклад на беларускую мову Евангелля прыстасаваны для богаслужбовага ўжытку (выданне забяспечанае зноскамі, які ўрывак на якое свята).

"Гэта быў паволны, грунтоўны чалавек", — успомніў на вечарыне дзядзьку Міхася адзін з найактыўнейшых дзеячаў беларускага замежжа Янка Запруднік. Ён не цураўся ніякае працы. Быў традыцыяналістам, асабліва ў мове (не прызнаваў дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану з суфіксамі -уч (-юч), -ач (яч), высцерагаўся стылістычных англіцызмаў). Эміграцыя трымаецца на тых людзях, якія ахвяруюць сваім у імя агульнага, і дзядзька Міхась у гэтым сэнсе адзін з тых падзвіжнікаў, дзякуючы якім беларуская справа на чужыне не занепадала.

"Пра радзіму то я не забываюся, і асабліва выгляд роднага кута амаль заўсёды ўзнікае перад вачыма", — так Міхась Міцкевіч спавядаўся на эміграцыі. Да апошніх дзён ён вельмі шкадаваў, што яму так і не давялося сустрэцца з Коласам. Чарговая ілюстрацыя сімвалічнай для Беларусі сітуацыі: граніца разарвала людзей аднаго роду і, больш за тое, аднаго духу.

**Ю. Б.**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

# Хто яны, самадзейныя артысты?

Надзённыя праблемы, вобраз сучасніка, жыццё чалавека сярод людзей прыцягваюць асаблівую ўвагу аматарскіх тэатраў. Бо тэатр, калі ён хоча разам з гледачамі думаць, разважаць аб жыцці чалавека, краіны, народа, не можа не ўслухоўвацца ў рытм сённяшняга дня.

Што трэба зрабіць, каб у народнага тэатра быў заўтрашні дзень? Я не бяруся даваць рэцэптаў, а запрашаю да роздуму ўсіх кіраўнікоў драматычных гурткоў і людзей, адказных за іх работу.

Вядома, што народных тэатраў у Брэсцкай вобласці шмат і творчы ўзровень у іх вельмі розны. Размова пойдзе аб тым, хто яны, гэтыя людзі, здольныя захапіць гледачоў сваім жывым, непасрэдным мастацтвам.

Мая суразмоўніца — дырэктар Вялікакруговіцкага СДК Ганцавіцкага раёна, яна ж рэжысёр народнага тэатра **Ванда Іванаўна ЧАБАТАРЭНКА**.

— 22 гады я працую ў Вялікакруговіцкім сельскім Доме культуры. Каб людзям на вёсцы жылося весялей, цікавей, стварыла драматычны гурток. Прымала ў калектыў усіх жадаючых і без экзаменаў, не рабіла строгіх прагляданў, бо гэта палохае людзей. І мне ўдалося ў такой невялічкай вёсцы стварыць калектыў, які дзейнічае па сённяшні дзень, а нядаўна атрымаў ганаровае званне "народны". Калектыў шмат ездзіць па вёсках раёна і па-за яго межамі. Ён прымаў удзел у занальным фестывалі "Тэатральнае Палессе", на якім атрымаў добрую адзнаку. Я з вялікай радасцю назаву імёны людзей, якім шчыра ўдзячна.

Спачатку ў драматычным гуртку ўдзельнічала 8 чалавек. Гэта Надзея Аскера — працаўніца фермы у в. Агарэвічы, Уладзімір Пакумейка (зараз ён жыве ў Ганцавічах), Тамара і Віктар Занысі (яна выхавацелька ў дзіцячым садку, ён працаўнік калгаса), Мікалай Паўлавец — ветфельчар на хуткай дапамозе (зараз працуе ў Пінску), Ніна Чабатарэнка — работніца сельскага Савета, Галіна Жданюк — загадчыца клуба ў в. Малыя Круговічы (яна ўдзельнічае ў калектыве па сённяшні дзень).

Усе гэтыя людзі бясконца закаханы ў сцэнічнае мастацтва. Безумоўна, ішлі гады, мяняліся акцёры ў сувязі з пераездам на іншае месца жыхарства, мяняўся рэпертуар. Спачатку мы стараліся браць мініяцюры, сатырычныя ўрыўкі беларускіх аўтараў, потым перайшлі да пастановкі поўных спектакляў, розных па жанры і настрої. Сярод іх "Ветрагоны" У. Галубка, "Паўлінка" і "Прымакі" Я. Купалы, "Напярэдадні" М. Арахоўскага і іншыя.

Гурток удзельнічаў ва ўсіх культурна-масавых мерапрыемствах сельсавета і раёна. Мае артысты — майстры на ўсе рукі: самі сабе шыюць касцюмы і вырабляюць дэкарацыі.

Я як кіраўнік папаўняла свае веды, шмат чытала літаратуры, закончыла завочна рэжысёрскі факультэт Мінскага інстытута культуры. Я адчувала, што аднаго культасветвучылішча для працы з тэатральным калектывам мала.

За апошнія гады значна ўзрос узровень калектыву, цяпер у ім 12 чалавек. Гэта стабільны, моцны, цікавы акцёрскі калектыў. Вядучыя акцёры: Аляксандр Шостак — ветурач калгаса, Леанід Блінкоўскі — мастацкі кіраўнік ЦСДК, Марыя Грынёва — выкладчыца матэматыкі СШ. Такім артыстам, лічу, пазайздросціў бы і прафесійны тэатр.

Вялікі дзякуй акцёрам Таццяне і Пятру Гузаеўскім, Раісе Ярашэвіч, Алесю Мусе, Уладзіміру Зайцу, Алесю Сукачу, Сяргею Аўдзейчыку і Галіне Дайлід. Сярод іх мясцовая інтэлігенцыя і працаўнікі калгаса ва ўзросце ад 20-ці да 40 гадоў. Многія маюць сем'і і прыходзяць разам з дзецьмі на рэпетыцыі, маюць гаспадарку. Яны ўсё ўмеюць: і сеяць, і даіць кароў, і касіць сена, і ўбіраць збожжа. І ўсюды паспяваюць. Сам старшыня нашага калгаса аматар тэатра. Хто не быў у нашай вёсцы і не верыць, што жывуць у ёй таленавітыя людзі і іх героі — пан Быкоўскі і Паўлінка, Трахім і Мацейка і нават Цярэшка Калабок, дык прыязджайце, калі ласка, да нас!

Мастацтва — так лічаць удзельнікі гэтага калектыву — гэта любоў і нянавісць, радасць і пакуты, рух, святло, гук. І пакуль існуе праблема пакаленняў, пакуль ідзе змаганне паміж праўдай і няпраўдай, людзі будуць імкнуцца са сцэны выказаць свае меркаванні аб тым, што хвалюе ўсіх нас.

Тэатры — як людзі. У кожнага свой лёс, свой жыццёвы шлях. Шлях гэтага самадзейнага калектыву цесна звязаны з лёсам артыстаў і залежыць ад іх здольнасцей і энтузіязму. Калі ёсць такія людзі — шчырыя, таленавітыя і закаханыя ў тэатр, — тады і жыве тэатр насычана, ярка, цікава.

Народныя тэатры Брэстчыны ў апошнія гады паказалі сваю жыццяздольнасць, трымаюць добрую творчую форму і адыгрываюць значную ролю ў духоўным развіцці людзей.

**Вольга ЗІНОВІЧ**

# Думаць вершы...

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

## З ЛІТАРАТУРНА-СЕНТЫМЕНТАЛЬНАГА ПАДАРОЖЖА

### СНАПОК

У кнігарні да мяне падышоў высокі русявы хлопец і папрасіў падпісаць кніжку. Калі я спытаўся, каму падпісваць, ён уважліва паглядзеў мне ў вочы і пацікавіўся, ці пазнаю яго.

Я дарэмна напружваў памяць.

— Тады падпішыце Снапку, — загадкава ўсміхнуўся хлопец.

— Снапку?

— Так, Снапку! Пасля вашага ўрока мяне ў класе толькі так і называлі.

Снапок... Снапок... Успомніў, я ўсё ўспомніў! Гэта было падчас маёй педагагічнай практыкі ў адной з мінскіх школ. Я даваў урок літаратуры ў пятым класе. На тым уроку я выклікаў да дошкі аднаго сарамяжлівага вучня, яго, здаецца, звалі Стасік, і папрасіў прачытаць і растлумачыць верш Якуба Коласа. Хлопчык вельмі хваляваўся і замест слова **слупок** вымавіў **снапок**. Клас дружна зарагатаў, а хлопчык заплакаў. Каб хоць неяк яго супакоіць і падбадзёрыць, я сказаў, што Стасік зрабіў геніяльную памылку, бо снапок гучыць лепш, як слупок.

Вучні перасталі смяяцца і з недаверам пазіралі на мяне. Уявіце, працягваў я, што вершаваны радок — гэта каласок, які выспеў у душы паэта, а за гэтым радком-каласком выспеў яшчэ адзін, а за ім яшчэ і яшчэ... І паэт, як руплівая жняя, сабраў іх усе разам у страфу альбо ў слупок, а яшчэ лепей сказаў Стасік — у снапок. Некалькі такіх слупкоў-снапкоў і складаюць верш. І каб пераканаць іх канчаткова, я прачытаў класічныя радкі Аркадзя Куляшова:

*Ёсць адказнасць перад строгім вершам,*
*Перад яго пачаткам і канцом —*
*Каб баразну, радком пачаўшы першым,*
*У сноп звязаць шаснаццатым радком.*

— Успомнілі? — парушыў маўчанне хлопец.

— Вядома ж, успомніў! А вы на мяне, часам, не крыўдуеце? — я вінавата паглядзеў на колішняга сарамяжлівага Стасіка, які вырас у прыгожага і інтэлігентнага маладога чалавека.

— О, што вы, — прыязна заўсміхаўся мой былы вучань, — можа, якраз пасля той геніяльнай памылкі я і палюбіў паэзію...

Мы моцна паціснулі адзін аднаму рукі. А кніжку я падпісаў так, як ён і прасіў: Снапку, які любіць паэзію.

### Я НЕ СПРАЧАЎСЯ

Яна прыгожая і добра гэта ведае. Ёй падабаецца падабацца. А мне ў сваю чаргу падабаецца назіраць, як у яе гэта тонка і грацыёзна атрымліваецца. Часам я жартую, што прыгажосць, як і талент, належыць народу.

Яна не крыўдуе. Бо я аддаю ўсяго толькі належнае. І яна гэта прымае, як і належыць сапраўднай жанчыне — з задавальненнем, а не без таннага какецтва.

Можа, акурат вось гэтую натуральнасць я й цаню ў ёй больш за ўсё, як, дарэчы, і яе амаль бездакорны густ. Нават не густ, а хутчэй інтуіцыю, у тым ліку і літаратурную. І таму часам чытаю ёй, адной з нямногіх, сваё, новае...

Неяк я спытаўся ў яе, ці не спрабавала яна сама калі-небудзь пісаць вершы. На маё пытанне яго здзіўлена ўскінула доўгія вейкі:

— Я думаю, ты не будзеш спрачацца, калі я скажу, што жанчына сама па сабе ўжо ёсць верш...

Я не спрачаўся.

### ЁН І ЯНА

Вярнуўся з Акопаў і рука сама пацягнулася да томіка Купалы. Захацелася перачытаць створанае ім там, у Акопах — святым месцы нашай зямлі, дзе маладому Янку Купалу дыктаваў сам Бог.

За тры леты ў Акопах ім напісана больш як семдзесят твораў. Адтуль родам мае любімыя паэмы "Яна і Я", "Магіла льва", "Бандароўна".

Усе гэтыя тры рэчы народжаны летам 1913 года. Высакародны геній Купалы выявіўся ўжо ў тым, што ў назве паэмы "Яна і Я" паэт на першае месца ставіць Яе. Для Купалы, як і для Пушкіна, існаваў культ Яе, рыцарскі культ пакланення жанчыне. У Пушкіна Яна — Мадонна, у Купалы — "Мая Багіня". Тут Купала дваранін у самым высокім значэнні гэтага слова.

У тое зорнае для яго творчасці лета Купала жыў Ёю. Ён называе Яе "Мая", Яна паўстае то ў вобразе Наталкі, то ў вобразе Бандароўны.

Я перачытваю гэтыя паэмы пад шэпт цёплага летняга ліўня і стараюся ўявіць лета 1913 года ў Акопах. У рамане-эсэ "Як агонь, як вада" Алег Лойка піша, што тое лета таксама было дажджлівае. І, магчыма, ён пісаў свае радкі таксама пад шэпт ліўня і перад яго вачыма стаяла Яна.

...Ужо каторы дзень не сціхае дождж, а маё сэрца перапоўнена сонечнай музыкай Купалы і ўдзячнасцю Ёй — Паліне Вікенцьеўне Мядзёлцы, хоць яна і не ашчаслівіла паэта сваім каханнем. Але ж ён сам сказаў:

*На беларускую дзяўчыну,*
*Калі тут праўду ёй аддаць,*
*Ніхто ійшчэ каменем не кінуў*
*І не паважыцца кідаць.*

Не паважыўся і я...

Ды і хто ведае, ці былі б у нашай літаратуры гэтыя тры шэдэўры, калі б Паўлінка адказала ўзаемнасцю. Можа, гэта акурат той выпадак, пра які ў народзе кажуць, што Бог усё дае да лепшага...

А ў Акопах Купалу дыктаваў сам Бог.

### "АД СЯРГЕЯ ЯСЕНІНА ЗАБЯЛЕЎ Я БЯРОЗАМІ"

Гэтую гісторыю я збіраўся расказаць Віктару Стрыжаку. Не паспеў. Нам абодвум, як, відаць, і ўсім у маладосці, здавалася, што ў нас у запасе цэлая вечнасць.

Пасля пераезду з Веткі ў Мінск ён разам з жонкай Валяй завітаў да мяне ў Дом літаратара. На пытанне, на якой вуліцы яны жывуць, ён адказаў таксама пытаннем:

— А як ты думаеш, дзе можа жыць Стрыжак?

— Як кажа Анатоль Кудравец, Мінск, вабшчэткі, вялікі горад.

І не дачакаўшыся майго адказу, з уласцівай яму катэгарычнасцю выдаў:

— Ну, вядома ж, на Ясеніна!

— А хіба ёсць такая вуліца? — здзівіўся я.

— А ты нават і не чуў? — са шкадаваннем паглядзеў на мяне Стрыжак і горда расправіў сваю магутную грудзіну: — Спецыяльна да майго прыезду назвалі. А інакшай мы б і не пераязджалі. Праўда, Валя?

— Праўда, — шчасліва ўсміхнулася Валя.



Сяргея Ясеніна ён любіў да самазабыцця. На любові да ягонай паэзіі мы, бадай, і сышліся ў студэнцкія гады. На той час у яго было два куміры: Ясенін і Барадулін. Аднаго разу па дарозе на лекцыі ён зацягнуў мяне ў свой любімы "Ясень" — быў некалі на плошчы Свабоды такі піўбар — і там за куфлем свежага жыгулёўскага прачытаў толькі што напісаны верш "Падбярозавік":

*Сэрца сумам засеяна,*
*Хмельнай радасці роздумам,*
*Ад Сяргея Ясеніна*
*Забялеў я бярозамі.*

Вось і кажы пасля гэтага, што няма лёсу: Ясенін, "Ясень", Ясеніна...

За некалькі дзён да ягонай нечаканай смерці я сустрэў Віктара каля лазні на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Ён сказаў, што ідзе "на піва", і прапанаваў пайсці разам. Мы пайшлі, але там была вялікая чарга, а стаяць доўга ні мне, ні яму не выпадала. Пакурылі, паўспаміналі мінулае, дзівячыся, што яно ў нас так хутка і непрыкметна з'явілася. Прыгадалі і наш слаўны "Ясень". Я працытаваў ягоныя радкі пра Ясеніна, прачытаныя некалі ў "Ясені", ён прыязна заўсміхаўся і сказаў, што яшчэ ў Ветцы чытаў маё лімаўскае інтэрв'ю з вядомым ясеніназнаўцам Юрыем Прокушавым. Я ў некалькіх словах расказаў пра сумесную паездку з Юрыем Львовічам і ягонай жонкай спявачкай Верай Георгіеўнай па Беларусі, пра свае сустрэчы з ім у Маскве і Кактэбелі, абяцаў даць прокушаўскія кнігі і паказаць адзін ліст, які яго, гарачага прыхільніка ясенінскай паэзіі, не можа не зацікавіць...

Гэта была мая апошняя сустрэча з жывым Стрыжаком. Кажу жывым, бо мёртвага Віктара мы з Валодзем Маруком і Толікам Зэкавым забіралі з моргу і па просьбе Валі прывезлі на вуліцу Ясеніна, каб назаўтра павезці ў апошнюю дарогу ў яго родную Заспу, дзе ён ляжыць побач з дзедам і бацькам над самым Дняпром, пад апетымі ім бярозамі.

Вось ужо два гады ў дзень ягонай смерці мы ездзім да Валі на вуліцу Ясеніна. У Віктаравым пакоі ўсё засталося як і пры ім: бел-чырвона-белы сцяг, на стале адзіная прыжыццёвая кніга, часопісы з яго вершамі, рукапісы, цыгарэты. Я ведаў, што ён добра малюе і ў войску нейкі час быў чарцёжнікам, але ніколі не думаў, што гэты дар у яго такі яркі.

З уласцівым яму гумарам Віктар распісаў ванны пакой пад Рэнуара. І, натуральна, не без "ню". Як і ў сваёй надзвычай шчырай паэзіі, Стрыжак і тут не захацеў пазбегнуць плоцевага пачатку — ён ніколі не быў ханжой і заўсёды быў як на далоні:

***Няхай я крыху кволы,***
***Але вы гляньце, гляньце!***
***Я перад вамі голы,***
***Як бачыце — без глянцу.***

Ёсць у кватэры на вуліцы Ясеніна і партрэт вялікага лірыка, выкананы Віктарам па дрэве. Гледзячы на гэтую работу, я кожны раз шкадую, што не паспеў пазнаёміць яго з абяцаным лістом Прокушава. Справа ў тым, што падчас працы ў адным з архіваў Юрый Львовіч натрапіў на ліст беларускіх паэтаў у абарону Сяргея Ясеніна. У 1955 годзе ён апублікаваў яго ў альманаху "Литературная Рязань", і, здаецца, уключыў у адну са сваіх кніжак.

У 1926 годзе ў газеце "Комсомольская правда" быў надрукаваны артыкул Л. Сасноўскага "Развенчайте хулиганство", у якім аўтар называе Ясеніна "знаменьем хулиганства", а яго паэзію не больш — не менш як "лирикой взбесившихся кобелей". Гэты артыкул прачыталі тагачасныя маладыя беларускія паэты, студэнты Белдзяржтэхнікума Пятро Глебка, Янка Бобрык, Янка Тумiловіч, Сяргей Дарожны, Валерый Маракоў і Максім Лужанін. Вядома, такія адносіны да Ясеніна не маглі не абурыць іх і яны, маладыя і гарачыя, узрушана напісалі ліст-пратэст і адправілі ў рэдакцыю "Комсомольской правды". На вялікі жаль, ён не быў надрукаваны, але гісторыя захавала дарагі для ўсіх нас дакумент. Вось невялікая вытрымка з яго:

"Можа быць, Ясенін нават вельмі горача адносіўся да сваёй Русі, але інакш ён не змог бы быць нацыянальным паэтам.

Ён унёс новае, ён сапраўдны мастак, толькі трэба добрай крытыцы падрыхтаваць, як належыць, чытача да вывучэння Ясеніна... Далёкія нацыянальнасці СССР выкажуцца пра Ясеніна таму, што ён вялікі паэт і мастак, і тым самым змыюць цень, кінуты неабачлівым артыкулам тав. Сасноўскага".

Думаецца, што гэты ліст сагрэў бы і напоўніў гонарам неспакойную душу паэта з вуліцы Ясеніна: маўляў, не такія мы ўжо абачлівыя і памяркоўныя.

### ВОСЬ ТАБЕ І НАТ!

Адзін малады паэт папрасіў мяне прачытаць рукапіс зборніка. Вершы мне спадабаліся. Вяртаючы рукапіс, я ненавязліва заўважыў, што задужа часта ён ужывае кароткую форму слова **нават — нат**. Усё нат ды нат, усё нат ды і нат...

— А што, нельга? — густа пачырванеў паэт.

— Можна, але не пажадана.

Праз колькі дзён пасля нашай гаворкі я выпадкова сустрэў паэта на стромістым беразе Ісачы.

Побач з ім была мілая і абаяльная дзяўчына.

— Пазнаёмся, Наташа.

— А-а, дык вось адкуль нат! - пажартаваў я.

— А што, усё-такі нельга? — зноў пачырванеў паэт.

— Можна. І чым часцей — тым лепш.

### Я НЕ ЖАБРАК

Не ведаю, як каму, а мне заўсёды шкада развітвацца з уласнымі вершамі. Можа, таму і не спяшаюся аддаваць іх у друк. Пакуль яны са мною, мне — не пуста, я не жабрак. А аддасі — яны ўжо нібыта і не твае. Міжволі ўзнікае адчуванне нейкай пустаты, якая Бог ведае калі яшчэ запоўніцца ды ці запоўніцца ўвогуле, бо залежыць гэта не толькі ад мяне... Нездарма ж у Анны Ахматавай некалі вырвалася, "О, если б знали Вы с какого сора растут стихи!" "Сор" у мяне ёсць і будзе, але ўсё жывое расце доўга і пакутліва. Усё жывое кволае. І не ўсё, што прарасце, выжыве.

Фота А. Клешчука

## У гонар скульптара



У будынку мастацкай школы N I у Віцебску адкрыта мемарыяльная дошка, якая ўвекавечыла памяць народнага мастака Рэспублікі Беларусь Заіра Азгура.

*На здымку: выступае сын скульптара Заір Азгур.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Любімы горад і валошкі

**"Скрыпач з зялёным тварам грае на даху дома, блакітная карова і зялёная авечка імчаць у прасторы"... — пісала адна французская газета пра выставу мастака. Прастора — стыхія яго сусвету. Блакітная.**

**"Толькі не пытайце мяне, чаму я малюю блакітным і зялёным альбо чаму ў каровы ў жываце бачна цялё. Няхай Маркс, калі ён уваскрэсне, вам растлумачыць", — прызначаныя Луначарскаму, словы яго выклікаюць лёгкую ўсмешку. Ён марыў "ператварыць пустыя хаты ў музеі, а простых людзей — у творцаў". У той час, "калі Віцебск быў Парыжам".**

**Дакументальны фільм У. Бокуна, прысвечаны Марку Шагалу, сабраў гледачоў у невялічка-інтымнай зале кінатэатра "Змена". Фільм мае назву "Калі Віцебск быў Парыжам". Шагал жа быў апантаны марай аб горадзе мастацтва, якім хацеў бачыць свой — любы, родны. Запрашаў творцаў, падымаў мастацкую школу, песціў надзею аб галерэі і збіраў для яе палотны. Фільм пра Віцебск, якім ён павінен быў стаць і якім не стаў, пра мастакоў, якіх Шагал цаніў і сярод якіх яму не хапіла месца, пра мінулае і дзень сённяшні. У фільме — яго вочы і кветкі, цэркаўкі і платы — "паэтычны свет, падобны на сон".**

***Моя душа навек с тобою,***
***Пока живу, пока дышу, —***

**прысвечаныя сваёй малой радзіме словы яго выклікаюць камяк у горле. Словы, што абраны эпіграфам да фільма нумар два (па паслядоўнасці паказу) на ліпеньскім праглядзе ў "Змене": "Засталася душа яго тут" Ю. Гарулёва. Стужкі падобныя, бо дакументальныя (Марк Шагал адзін). Ну, а розніцца тым, чым можа розніцца майстэрства двух творцаў.**

**Яўрэйскія могілкі і прытулак Ю. Пэна — настаўніка Шагала, забыты і збур'янелы (а калісьці на пахаванне прыйшоў увесь горад); пакой Шагала і ўспаміны мастака аб тым, як сустрэў ЯЕ вочы і зразумеў, што гэта — жонка; двое закаханых у паветры, ізноў скрыпач і дахі; фотаздымкі і позірк яго вачэй, твары нашчадкаў, вершы... Зноў могілкі, ля ўваходу на якія таксама гадзіннік. Фільм пра тое, як мастак калісьці не вярнуўся і што ён нарэшце тут.**

**Дарэчы, на вечарыне-праглядзе і гаварылася аб яго вандроўцы на радзіму. Пра тое, як увесь свет адзначаў падзею — стагоддзе з дня нараджэння Марка Шагала, — акрамя Чылі і Беларусі. Узгадваліся першыя Шагалаўскія чытанні, што праходзілі чатыры гадамі пазней, міжнародны пленэр 94-га. Успаміналіся шчаслівыя віцябчане, якія першымі наведалі Дом-музей "мастака свету родам з Беларусі" (музей адчыніўся адразу пасля сёлетняга, ужо другога, пленэру). Дарэчы, гэты пленэр быў ужо не такі, як першы, — і па маштабах фінансавання, і па колькасці творчых прадстаўнікоў, і па якасці арганізацыі. Хай яго будучае не азмрочыцца тэзісам: "Праводзіць не будзем, не хапіла..."**

**Вольга ЛАШКЕВІЧ**

ШЛЯХІ

### 5. КОЖНАМУ СЛАВЯНСКАМУ НАРОДУ СВАЮ СУВЕРЭННУЮ ДЗЯРЖАВУ

У сусветнай гісторыі багата пераканаўчых, добра выверaных на практыцы фактаў, якія сведчаць, што толькі той народ у стане, калі не поўнасцю, дык у даволі аптымальных памерах, здзяйсняць свае нацыянальныя ідэалы, які мае ўласную дзяржаву. Відаць гэта і на прыкладзе суседніх нам краін Літвы, Латвіі і Эстоніі. Яны таксама доўгі час вымушаныя былі жыць у складзе Расійскай імперыі, але пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ім пашчасціла не патрапіць пад крыло створанай у выніку яе шматнацыянальнай пралетарскай дзяржавы, што дало магчымасць заснаваць свае ўласныя краіны, звычайна належыць уся палітычная ўлада. Беларускі ж народ не будзе мець такіх перавагаў, стварыўшы адну дзяржаву ні з Расіяй, ні з Украінай, ні з Польшчай. Чаго ён "дасягнуў", жывучы разам з Польшчай і Расіяй, гісторыі добра вядома. Першая праз 127 гадоў забараніла ўжываць беларускую мову ў грамадскім жыцці, а другая толькі праз 142 гады дазволіла беларусам заснoўваць школы на сваёй роднай мове. Яшчэ ніводзін народ не загінуў, маючы ўласную дзяржаву, яшчэ ніводзін народ не здзейсніў свайго нацыянальнага ідэалу, не маючы ўласнай дзяржавы. Думаю, вялікага розуму не трэба, каб і беларусам выбраць правільны шлях.

І самая прагрэсіўная, нацыянальна-самасвядомая частка беларускага народа выбрала такі шлях. Найперш за ўсё бачыць яна яго ў пабудове магутнай паводле ўсіх параметраў, незалежнай дзяржавы, якая разам з буйнамаштабнай эканамічнай дзейнасцю займаецца і нацыянальна-культурагульнаадукацыйных школах. У лістападзе 1996 г. уладам удалося ад людзей, моцна хворых, але не па сваёй ахвоце, на нацыянальны нігілізм, зліць два святы — Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (3 ліпеня) і Дзень незалежнасці (27 ліпеня) — у адно, перанёсшы апошні на дзень, калі адзначаецца першае з названых святаў. Зусім натуральна, што акурат яно і зойме прыярытэтнае месца ва ўсіх афіцыйных урачыстасцях. Што ж датычыць свята незалежнасці, дык яго ў гэты дзень будуць адзначаць толькі людзі, у душах якіх захавалася пачуццё нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці, але якіх вельмі і вельмі мала ў розных органах улады і кіравання. Вышэйсказанае тлумачыць, чаму ў нас зараз не назіраецца аніякага прагрэсу ў нацыянальна-культурным Адраджэнні, чаму яно дало задні ход. Калі ж такога не назіралася ў многіх краінах Еўропы пасля заканчэння Пер-

*Леанід ЛЫЧ*

# Выжыць і жыць!

## БЕЛАРУСКАЯ НІША Ў СЛАВЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

якія каля дваццаці гадоў пратрымаліся, пакуль не падпалі пад уладу СССР. Але нават і за гэты зусім міззэрны для гісторыі час у нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці літоўцаў, латышоў, эстонцаў адбыліся вельмі істотныя пазітыўныя зрухі. Яны добра пераканаліся, што могуць незалежна ад суседзяў прыстойна ладзіць сваё эканамічнае, палітычнае і духоўнае жыццё і пры гэтым адчуваць сябе намнога лепш, чым гэта назіралася ў час, калі былі пад апекай Расійскай імперыі. Успаміны пра тое прыгожае незалежнае дзяржаўнае існаванне ў міжваенны перыяд жылі ў народзе ўсе гады, пакуль Літва, Латвія і Эстонія не па сваёй волі знаходзіліся ў складзе СССР. Невыпадкова, як прабіў час, з усіх яго саюзных рэспублік прыбалтыйскія самымі першымі і найбольш актыўна сталі выступаць за выхад з Савецкага Саюза і стварэнне самастойных, суверэнных дзяржаў.

Шкада, што занадта ўжо працяглы перыяд бездзяржаўнасці быў у беларусаў, хаця ў сярэдняевеччы не існавала ў гэтым праблемы. У дадзеным пытанні не быў лёс літасцівым і для многіх іншых славян. Прычым бездзяржаўнымі яны заставаліся не таму, што не хацелі ці былі нязДольнымі мець такі пачэсны статус, а таму, што перашкаджалі ім у гэтым улады, якія вялі сярод іх асімілятарскую палітыку. Сёй-той з славян знаходзіўся ў становішчы бездзяржаўнага яшчэ і таму, што ў моц розных абставінаў жыў пад крылом больш шматлікага славянскага народа ў надзеі ахаваць сябе ад агрэсіі краін з неславянскім насельніцтвам. У такой поліэтнічнай славянскай дзяржаве добра сябе пачувалі культура і мова толькі таго народа, які з'яўлялся тытульным, астатнім жа даводзілася рабіць вялікія намаганні, каб не даць сябе асімілявaць, што не заўжды ўдавалася.

Пачатак і канец бягучага стагоддзя азнаменаваўся нараджэннем шэрагу новых нацыянальных дзяржаў у Еўропе, у т. л. і славянскіх. Для большасці з іх гэта з'явілася магутным фактарам усебаковага росквіту. Добра ведаюць цану дзяржаўнага суверэнітэту народы, што дамагліся яго сто і больш гадоў таму. Зразумеўшы ўсю перавагу жыцця ва ўласным доме, цяпер ужо ў Еўропе не вядуць барацьбы за стварэнне шматнацыянальных супердзяржавы ні германскія, ні раманскія, ні англа-саксскія групы народаў. Вось толькі ніяк не могуць утаймавацца са сваёй аб'яднаўчай, федэратыўнай ідэяй славяне. Калі іх дзяржаўным кіраўнікам ці інтэлігенцыі мала еўрапейскага вопыту, не лішнім было б прыглядзецца, як сёння ставяцца да аб'яднаўчых працэсаў з мэтай зліцця ў адну шматэтнічную дзяржаву арабскія краіны, Лацінская Амерыка, ЗША з Канадай, Кітай з Тайванем. Няўжо так цяжка славянскім палітыкам зразумець, што кожны народ можа дасягнуць сапраўднага прагрэсу і быць шчаслівым толькі маючы ўласную дзяржаву, што толькі яна дазваляе смела ўдзельнічаць ва ўсіх формах інтэграцыі, не ставячы пад пагрозу само існаванне той ці іншай нацыі? Што ж датычыць шматнацыянальнай дзяржавы, дык рана ці позна яна стане прычынай этнічнай гібелі ўсіх яе народаў, акрамя аднаго з іх — самага буйнога па колькасці, якому



*Фота А.Клешчука*

ным адраджэннем, абапіраючыся на самыя шырокія пласты грамадства. Так пачыналі ўсе маладыя дзяржавы, якія сталі на шлях самастойнага нацыянальнага развіцця. Ім павінна пайсці і Рэспубліка Беларусь. І яна пайшла ў пачатку 90-х гадоў, толькі хутка збочыла ў канаву.

Без усялякай радасці, калі не сказаць: з гаркатою ў горле — заўважаеш, што апошнім часам у нас праводзіцца зусім неўлацівы для цывілізаваных краін курс у галіне нацыянальнай палітыкі. Ва ўсіх іх улады рабілі і робяць галоўны ўпор на самыя здаровыя нацыянальныя сілы грамадства. У нас жа ўсё адбываецца наадварот: прыярытэты аддаюцца дэнацыяналізаванай частцы беларускага народа, якая ў выніку шматгадовай палітыкі русіфікацыі, якую апошнія гады праводзіла не толькі Масква, але паводле яе ўказанняў і мясцовыя партыйныя і савецкія органы, складае абсалютную большасць беларусаў. Менавіта гэтая частка іх сёння займае амаль усе ключавыя пазіцыі ў Адміністрацыі прэзідэнта, Кабінеце Міністраў, ніжняй палаце прадстаўнікоў нацыянальнага сходу, Савеце Рэспублікі Беларусь, кіруе міністэрствамі і ведамствамі, прадпрыемствамі і ўстановамі, у т. л. і адукацыі, якая па-ранейшаму арыентуецца пераважна толькі на рускія культурна-моўныя стандарты. У дзесяцімільённай Беларусі няма аніводнай беларускай вышэйшай навучальнай установы! Замест таго, каб рашуча стаць на шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння, абапіраца на тыя здаровыя пласты народа, якія канчаткова не згубілі гістарычную памяць, спавядаюць свае культурна-моўныя традыцыі, дзяржава кіруецца выключна толькі інтарэсамі абсалютна большай па сваёй колькасці зрусіфікаванай часткі насельніцтва, пры неабходнасці вельмі ўмела выкарыстоўваe яе пры правядзенні рознага роду рэферэндумаў з мэтай пахаваць, не даць распаўсюдзіцца ў грамадстве той ці іншай прагрэсіўнай нацыянальнай ініцыятыве. Ніякая іншая сіла, як толькі зрусіфікаваная частка беларускага народа дапамагла ўладам праз майскі рэферэндум 1995 г. узняць да такой вышыні сацыяльны статус рускай мовы, што беларуская мова зноў апынулася на сметніку, выконвае не больш як толькі культурна-фальклорныя функцыі, з'яўляецца рабочай у сельскіх шай сусветнай вайны, краінах Азіі і Афрыкі — пасля Другой сусветнай вайны, дык гэта таму, што іх дзяржаўныя ўлады не толькі не перашкаджалі, а, наадварот, узначалілі нацыянальна-адраджэнскія рухі, усяляк дапамагалі ўстаць з каленяў тым сілам, якія яшчэ захавалі вернасць сваім народным традыцыям.

Ідэалагічная апрацоўка мас, якую сёння напорыста вядуць усе сродкі афіцыйнай інфармацыі і асабліва рускамоўны перыядычны друк, скіравана толькі на тое, каб перашкодзіць узнікненню, развіццю ў людзей пачуцця нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці. І ёю беларускі народ не можа пахваліцца, таму большая частка яго з такой лёгкасцю згадзілася перанесці Дзень незалежнасці сваёй краіны на Дзень вызвалення яе ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З такіх дзяржаўных палітыкаў, з такіх паводзінаў беларусаў здзіўляецца ўся цывілізаваная Еўропа, здзіўляюцца народы ўсіх былых савецкіх рэспублік, якія ў зоркавы час змагання за дзяржаўны суверэнітэт дамагліся разам з беларусамі нацыянальнай незалежнасці і цяпер не ідуць на здраду ёй.

Проста не бярэцца рука пісаць пра банальныя ісціны і ўсё ж для каго-небудзь, можа, і трэба яшчэ раз нагадаць, што адмова ці проста нежаданне нацыі мець сваю ўласную дзяржаўнасць вельмі негатыўна ўплывае на ўсе бакі яе жыцця, робіць усіх і кожнага нязДольнымі выражаць без падказкі і падтрымкі з боку

*(Працяг. Пачатак у N 30-31)*

нават самыя элементарныя пытанні. Умець народу і асабліва яго палітычным лідэрам, кіраўнікам і арганізатарам вытворчасці самастойна жыць — гэта вялікае агульнанацыянальнае багацце. Ім многія, калі не большасць нашых палітыкаў і гаспадарнікаў, зусім не валодаюць. Яны, як агню баяцца няўрэзанай, сапраўднай дзяржаўнай незалежнасці, бо ў іх цалкам адсутнічаюць здольнасці самастойна вырашаць нават самыя простыя пытанні палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця. Магчыма выпрацаваць такія здольнасці перашкодзіла ім савецкая цэнтралізаваная камандна-бюракратычная сістэма. Таму, каб утрымацца на плыву, не страціць грунту пад нагамі, нашыя "лідэры нацыі" ўвесь час імкнуцца да каго-небудзь далучыцца, каб ускласці на яго асноўны клопат абавязкаў па забеспячэнні нармальнага існавання краіны. Яны бясконца радыя, што на ўсходзе ёсць вялікая і магутная дзяржава ў асобе Расіі, і вельмі былі б задаволеныя, каб яна ўзяла на сябе ўсе галоўныя рычагі па кіраўніцтве эканомікай, палітыкай і культурай, захаваўшы за разгубленымі дзяржаўнымі дзеячамі Беларусі толькі досыць высокія і добра-аплатныя пасады пасля страты ёю нацыянальнага суверэнітэту. Тут усё як у той рускай прыказцы: "И волки сыты и овцы целы".

Хацелася б памыліцца, але мне здаецца, што ў нас да вышэйшай улады прыйшлі людзі, якія баяцца ў якасці пілотаў весці дзяржаўны карабель і ўвесь час шукаюць для сябе месца дублёра.

Бясспрэчна, ісці па шляху дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальна-культурнага Адраджэння — гэта зусім не тое, што крочыць па праспекце імя Францішка Скарыны. Але ісці трэба ў імя сённяшніх і будучых пакаленняў беларускага народа. Складанасць і актуальнасць дадзенай праблемы вымушае дзяржаўных лідэраў і кіраўнікоў нацыянальна-культурных рухаў неадкладна зрабіць крок насустрач адзін аднаму дзеля вырашэння гэтай лёсавызначальнай задачы. Ініцыятыва павінна сыходзіць ад першых. Сусветная практыка не ведае прыкладу, каб нацыянальна-культурнае адраджэнне таго ці іншага народа паспяхова адбывалася па-за дзейнасцю самой дзяржавы. Наадварот, яна бярэ на сябе ўвесь цяжар па ажыццяўленні гэтай ва ўсіх умовах вельмі цяжкай, але ганаровай місіі. Наш вопыт вядзення дзяржаўнага жыцця, калі не на ўсе 100, дык на добрыя 75 працэнтаў стаў выключэннем з гэтага правіла. Сёння самая перадавая, адданая беларускай ідэі частка грамадства вырашае праблему нацыянальнага выжывання беларускага народа ў варунках існавання буйнога прарасійскага лобі ва ўсіх звёнах органаў улады і кіравання і найперш у самых высокіх — рэспубліканскіх. Праводзіць ярка акрэсленую антынацыянальную палітыку ў пытаннях беларускага Адраджэння штурхае іх, акрамя ўсяго іншага, высокая ступень рускай культурна-моўнай асіміляцыі і дзяржаўных дзеячаў, і самога народа. Гэты працэс зайшоў так далёка, што дзяржава можа спакойна рабіць любыя крокі супраць беларускай культуры і мовы, не баючыся адмоўнай рэакцыі з боку народных масаў, да таго ж амаль пагалоўна абяздоленых. Абяцанкамі паставіць танную нафту і прыродны газ іх лёгка схіліць аддаць усё, што належыць беларускасці і далучыць да любой славянскай нацыі, якая ў стане падзяліцца такімі відамі сыравіны. З сённяшнім пакаленнем беларусаў прарускай дзяржаўнай уладзе нашай краіны вельмі лёгка пакласці канец яе нацыянальнаму суверэнітэту. Але трэба ведаць, што сённяшнія пакаленні беларусаў не ёсць вечнасць. Ім на замену абавязкова прыйдуць больш трывалыя ў нацыянальнай самасвядомасці людзі, глеба для чаго рыхтуецца ў нашыя дні апантанымі змагарамі за беларускую ідэю. Ім дзяржава і павінна была б працягнуць руку, сесці за адзін стол. Не надаўшы сучаснаму беларускаму нацыянальна-адраджэнскаму руху статусу дзяржаўнай палітыкі, няма аніякай гарантыі выратавання беларускага народа ад канчатковай рускай культурна-моўнай асіміляцыі. Усе магчымасці нацыянальна-самасвядомага, неасіміляванага асяродка беларускага народа ўплываць на свае дзяржаўныя органы цалкам выкарыстаны і не далі аніякага станоўчага выніку. Сілы гэтага асяродка працягваюць падупадаць. Таму не шкодзіла б у гэтай экстрэмальнай сітуацыі ўрадам, грамадскасці славянскіх краін таксама задумацца над галоўным лёсам аднаго з сваіх народаў — беларускага, дапамагчы яго дзяржаўным уладам выпрацаваць і праводзіць такую нацыянальную палітыку, якая ў свой час забяспечыла ўсім еўрапейскім народам нармальныя ўмовы для самабытнага нацыянальна-культурнага развіцця, вывела іх на шырокі шлях эканамічнага прагрэсу, мела вынікам усталяванне справядлівага, дэмакратычнага ладу жыцця. На шчасце, сёння славянскай супольнасці, Еўропе патрэбна ратаваць ад поўнай дэнацыяналізацыі толькі беларускі народ. Калі ж не ўратуем яго, не выключана, што гэта страшэнная эпідэмія распаўсюдзіцца і на іншыя еўрапейскія народы, і гэты найцудоўны куток планеты Зямля страціць сваю цяперашнюю прыгажосць. Так сталася, што нацыянальна-самасвядомым беларусам дзеля выратавання свайго народа як самабытнага этнасу даводзіцца спадзявацца толькі на славянскую супольнасць, прагрэсіўную грамадскасць Еўропы. У сваёй жа дзяржавы яны не знаходзяць падтрымкі, бо ў яе наконт гэтага гістарычнай важнасці пытання дыяметральна процілеглыя планы і падыходы.

Лейтматывам усяго нашага дзяржаўнага жыцця апошніх трох-чатырох гадоў з'яўляюцца настойлівыя заклікі да беларусаў ісці на аб'яднанне з Расіяй і Украінай у адну адзіную славянскую дзяржаву. У яе збіраюцца ўключыць і Казахстан, дзе шмат жыве рускіх, украінцаў і беларусаў. Вось толькі невядома, што ж будуць рабіць з яго карэнным насельніцтвам — казахамі, абсалютная большасць якіх моцна шануе свае традыцыі, спавядае мусульманскую рэлігію? Няўжо з імі абыдуцца так, як у свой час Іван IV з казанскімі татарамі: узяў ды гвалтам перахрысціў у праваслаўных.

Акцыю на аб'яднанне ўсходнеславянскіх народаў у адну дзяржаву, прычым без дакладнага вызначэння яе характару, вядуць з такім спехам, нібыта вакол бушуюць пажары, з усіх бакоў насоўваецца варожая лавіна з мэтай захапіць гэтыя незалежныя на сёння краіны, цалкам знішчыць ці пераўтварыць у рабоў яе жыхароў. Палітыкам трэба цвёрда ўцяміць, што не абдумваюцца, не ўзважваюцца ходы толькі тады, калі трэба лавіць трапяткіх блох. Паводле свайго значэння гэтая аперацыя зусім не тое, што перавод незалежнага, суверэннага нацыянальна-дзяржаўнага жыцця беларусаў у такое рэчышча, што ім давядзецца з уласнага дома, асабняка ці як цяпер стаўшага модным тыпам жылля — катэджа перасяліцца ў зусім нядобраўпарадкаваны інтэрнат і класціся спаць у адну мулкую ўсходнеславянскую калыску. Таму спяшацца з такім перасяленнем ой як не трэба!

І раней, і цяпер многія вучоныя з асаблівым замілаваннем пісалі, што ў перыяд Кіеўскай Русі будучыя ўсходнеславянскія народнасці: беларусы, украінцы і рускія ўзгадоўваліся ў адной калысцы. І самую гэтую дзяржаву, у рэальным існаванні якой апошнім часам так засумняваліся, называлі і называюць агульнай усходнеславянскай калыскай. Ну і што добрага ў тым, калі і сапраўды калісьці існавала такая калыска. Нават самая бедная сям'я і тая імкнецца на кожнае маленькае дзіця мець уласную калыску. Блізнят і то не кладуць спаць у адну калыску, бо будуць біцца. Вось так і паводзілі сябе ўсходнеславянскія народы на заранку сваёй гісторыі. І ўсё ад таго, што нейкія палітычныя сілы ўвесь час імкнуліся гвалтам загнаць і трымаць іх у адной бярлозе. Даходзіла да абсурду, калі тое ці іншае ўсходнеславянскае племя, каб адстаяць сваю незалежнасць ад старэйшага, сярэдняга ці малодшага брата, аб'ядноўвалася для барацьбы з ім з зусім іншапляменнымі народамі: татарамі, полаўцамі, печанегамі, крыжакамі.

Колькі братняй крыві праліта, колькі стагоддзяў марна страчана ўсходнімі славянамі дзеля дасягнення нерэальнай мэты стварыць і жыць у адной агульнай дзяржаве?! І хто гэта нас так пракляў, што мы зусім не хочам вучыцца ў сваёй трагічнай гісторыі? Няўжо ж нельга зрабіць хоць якога-небудзь карыснага ўрока з усяго таго, што мы, беларусы, мелі, будучы гвалтам уключаны ў склад Расійскай імперыі (дзіўлюся, як гэта нашыя дзяржаўныя дзеячы не адзначылі ў 1995 г. двухсотгадовага юбілею данай гістарычнай падзеі?!) ці знаходзячыся пад сямейным крылом СССР? Ці ж не гэтая створаная "геніем" Уладзіміра Леніна і яго вернага саратніка Іосіфа Сталіна аб'яднаная шматнацыянальная дзяржава — СССР разбурыла традыцыйныя асновы нашай сельскай гаспадаркі, якая пасля гэтага не ў стане пракарміць сваіх грамадзян; знішчыла ў час барацьбы з "нацдэмакратызмам" і ў гады масавых рэпрэсій амаль усю красу нашага народа — інтэлігенцыю; прымусіла многіх сумленных, працавітых людзей сарвацца з родных мясцін і бадзяцца па бязмежных, халодных прасторах Крайняй Поўначы і Сібіры. Затое ўсяго гэтага не зведала ў міжваенны перыяд суседняя нам невялікая суверэнная дзяржава Літва, якая і сёння не жыве думкай аб палітычным аб'яднанні з якой-небудзь краінай.

Клікаць, рабіць практычныя захады па збіранні рускіх, украінцаў і беларусаў у адну дзяржаву толькі таму, што некалі яны быццам бы жылі адной сям'ёй — гэта велізарны анахранізм. Усе мы ад Адама і Евы, але глядзіце, колькі новага і непаўторнага ў кожнага з народаў. Трэба жыццё кожнага народа і ўзаемаадносіны паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў будаваць не ў залежнасці ад іх мінулага (яно належыць гісторыі!), а ў адпаведнасці з сучаснымі рэаліямі. Куды разумней за нашых палітыкаў паводзяць сябе правадыры народаў, якія некалі ўваходзілі ў склад Свяшчэннай Рымскай, Атаманскай, Аўстра-Венгерскай, Брытанскай і ўсіх іншых імперый. Гэты атавізм час пераадолець і нам.

Няма большай памылкі за непрадуманую да канца спробу зліць спачатку дватры, а затым, можа, і больш славянскіх народаў у якую-небудзь форму дзяржаўнага аб'яднання. Кожны з славянскіх народаў павінен мець сваю дзяржаву, прычым зусім неабавязкова падобную на тую, якая ёсць у іншага славянскага народа, бо нягледзячы на характэрную для гэтай этнічнай супольнасці роднасць культур і моваў, у кожнага яе члена багата чаго адметнага і своеасаблівага ў эканамічным і культурным жыцці. Сапраўдная роўнасць паміж славянамі толькі тады стане рэальнасцю, калі кожны з іх будзе мець сваю дзяржаўнасць. Няроўнасць жа двух-трох славянскіх народаў стане відавочнай, як толькі яны аб'яднаюцца і пачнуць жыць у адной дзяржаве, бо якімі б разумнымі і вопытнымі ні былі іх палітыкі, ім усё роўна непадуладна зрабіць роўнымі свае народы. Такога яшчэ не ведае гісторыя. Такога не ўдасца і славянам. Таму трэба рашуча сысці з утапічнага шляху дзяржаўнага аб'яднання той ці іншай групы славян і ўсяляк імкнуцца да таго, каб кожны з іх меў у поўным сэнсе слова суверэнную дзяржаву, бо толькі пры такіх умовах будзе забяспечвацца трывалае славянскае адзінства. Усім прыхільнікам парэгіянальнага дзяржаўнага аб'яднання славян хацелася парэкамендаваць часцей заглядваць у іх гісторыю, каб бачыць, колькі каштавалі крыві спробы згрувасціць славян у адну дзяржаву, і якой яна была для іх падчас сумеснага жыцця. Як пчол нельга ўтрымаць у адным вуллі, калі яны пачынаюць раіцца, так нельга ўтрымаць у адной дзяржаве (нават і таталітарнай!) некалькі самабытных славянскіх народаў, паколькі ў кожнага з іх свае, неадпаведныя іншым інтарэсы, мэты і задачы. Чым хутчэй палітыкі адмовяцца ад планаў стварэння суперславянскіх дзяржаў, тым хутчэй у асяроддзі славянскай супольнасці запануюць мір і згода, тым хутчэй яна справіцца з пераадоленнем сваёй эканамічнай і сацыяльна-культурнай адсталасці ад перадавых краін цывілізаванага свету.

Ніколькі не сумняваюся, што ў перспектыве, нягледзячы на ўсялякія спробы палітыкаў і вернай ёй часткі інтэлігенцыі, славянская супольнасць застанецца сукупнасцю суверэнных дзяржаў, цесна звязаных паміж сабою шматграннымі вузамі братэрства. Калі ж якому-небудзь з славянскіх народаў па незалежных ад яго прычынах не ўдалося аформіцца ў самастойную дзяржаву, усцерагчы сваю культуру і мову ад асіміляцыі, дык трэба імкнуцца не падпарадкаваць, а, наадварот, усёй грамадой дапамагчы яму стварыць прыстойнае дзяржаўнае, духоўнае жыццё ў поўнай адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі.

Мне могуць запярэчыць, што ў сучаснай Еўропе зараз назіраюцца тэндэнцыі інтэграцыі краін у самых розных сферах жыцця, у т. л. і дзяржаўна-палітычнага. Згодзен, такое мае месца. Але ж Еўропа стала на такі шлях пасля таго, як кожная з яе краін развілася, пераўтварылася ў магутны ва ўсіх адносінах нацыянальны арганізм, якому не страшная аніякая інтэграцыя, бо ён не растворыцца, не згубіцца ў ёй. Вось і нам, безасяродкавым беларусам, трэба спачатку пастарацца стварыць сваё моцнае нацыянальнае ядро, давесці яго да аптымальных еўрапейскіх стандартаў, а затым ужо ісці на ўсебаковую міждзяржаўную палітычную, культурную інтэграцыю з Усходам ці Захадам. Сёння ж нас паводле ўсіх найбольш важных этнакультурных параметраў беспамылкова можна параўнаць з глінай, пластылінам, з якіх, упэўнены, не мы, а хтосьці іншы будзе фармаваць пэўны тып людзей, а хутчэй за ўсё будзе калькасна павялічваць за кошт нас чалавечы патэнцыял сваёй нацыі. Ад такога трагічнага лёсу беларусаў, як і ўсіх іншых народаў з падобным становішчам, можа выратаваць толькі магутная суверэнная дзяржава. Яшчэ раз паўтару: гісторыя не ведае выпадку, каб асіміляваўся, гінуў як самабытны этнас народ, які меў сваю дзяржаву. Затое колькі' фактаў этнічнай смерці народаў, якім не ўдавалася стварыць уласнай дзяржавы! З-за яе адсутнасці, колькі адышло ў нябыт народаў з іх арыгінальнымі, самабытнымі культурамі і мовамі! Ведаючы ўсё гэта, трэба вельмі асцярожна ставіцца да любых формаў інтэграцыі, асабліва палітычнай і культурнай.

*(Заканчэнне будзе)*

# Ніна ВАТАЦЫ



3 жніўня 1997 года памерла член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Ніна Ватацы.

Ніна Барысаўна Ватацы нарадзілася 14 мая 1908 года ў Латвіі ў рабочай сям'і. Скончыла ў 1930 годзе літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.. Працяглы час працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна на розных пасадах, галоўным бібліёграфам. Працавала таксама бібліятэчным работнікам у Архангельску і Ульянаўску. У час Вялікай Айчыннай вайны — начальнік бібліятэкі эвакуацыйнага шпіталя ва Ульянаўскай вобласці. Пасля вайны Ніна Ватацы па сумяшчальніцтве выкладала бібліяграфію на бібліятэчным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Творчую працу Ніна Ватацы пачала ў 30-я гады. Яна шмат зрабіла ў галіне беларускай бібліяграфіі і літаратуразнаўства. Яе працы прысвечаны, у прыватнасці, Максіму Багдановічу, Льву Талстому, Аляксандру Пушкіну. Ніна Ватацы — аўтар кніг "Песня Максіма" і "Шляхі".

Светлая памяць аб добрым, зычлівым чалавеку, стараннай працаўніцы, улюбёнай у сваю справу, назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яе ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі глыбока смуткуе з выпадку смерці заслужанага дзеяча культуры Беларусі, старэйшага бібліёграфа рэспублікі, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ватацы Ніны Барысаўны і выказвае спачуванне родным і блізкім.**

*Я сцены светлыя*
*маляваў,*
*на сцэне музыкаў,*
*танцораў парыў.*
*Чырвонымі, жоўтымі*
*фарбамі вам*
*блакіт і айру*
*я падарыў.*
*Браты замоўклыя,*
*бегчы не ўзбоч,*
*а ўполпеч*
*да зор я хачу якраз,*
*і светлай стане*
*цёмная ноч,*
*і ўсе народы*
*пачуюць вас.*

Марк ШАГАЛ
(пераклад Рыгора Барадуліна)

# Загадка Марка Шагала

Ён пісаў цудоўныя вершы, але больш за ўсё яму хацелася маляваць. І ён стаў мастаком. Вялікім мастаком, які адлюстраваў у сваіх творах сутнасць і дух дваццатага стагоддзя, такога ж, як і ён, бунтоўнага, шматфарбнага, загадкавага. І пражыў ён без малога цэлае стагоддзе, працуючы да апошняга дня, да апошняга дыхання.

Марк Шагал нарадзіўся ў Віцебску 5 ліпеня 1887 года ў яўрэйскай сям'і. Родны горад заставаўся вечным сімвалам на палотнах і ў манументальных працах мастака. "Віцебск — гэта месца асаблівае, — напіша Марк Шагал у сваёй славутай кнізе "Маё жыццё". — Тут мая душа. Тут і шукайце мяне, вось я, мае карціны, мае вытокі".

Безумоўна, у аснове вытокаў яго яскравай індывідуальнасці перш за ўсё — яўрэйская духоўная традыцыя, яўрэйская гісторыя, яўрэйскі побыт. Але, мне здаецца, толькі адзіная нацыянальная духоўная крыніца не магла б даць такую прастору незвычайнаму буянству яго мастакоўскай фантазіі. Многае ў духоўнасці розных краін і народаў змешвалася ў першым і другім дзесяцігоддзях дваццатага стагоддзя, калі пачынаў Шагал; многае таленавітае нараджалася нібы на стыку культур, моў, традыцый. І на Марка Шагала ўплывалі не толькі свой, яўрэйскі, але і духоўны этнас і фальклор беларусаў, што іс681 ісаваў тут жа, побач, у Віцебску і мястэчках, асабліва ўсё тое, што было звязана з дахрысціянскімі, паганскімі вобразамі, сімваламі, абраднасцю. Да гэтага варта дадаць традыцыі унікальнай школы іканапісу тых мясцін на мяжы праваслаўя і каталіцтва, дзе і свабодная кампазіцыя, і адыход ад кананічных сюжэтаў, і жывыя рэальныя рысы ў міфалагічных персанажаў, і нечаканыя каларыстычныя спалучэнні.

Яны ж сапраўдныя летуценнікі — гэтыя шагалаўскія персанажы, якія лётаюць над зямлёй у яго карцінах! Сімволіка паганства чытаецца ў кампазіцыях мастака, кожная нібы дзіўны сон, у кульце жывой істоты, у абагаўленні адвечных сіл прыроды і перш за ўсё — неба і сонца, у пастаянным матыве вяртання да роднай мясціны — да віцебскага дома і ўсяго горада з яго сінагогамі і цэрквамі, тыповымі вулічнымі сцэнкамі і няспешнай побытавай мітуснёй. Неспакойны час з сусветнымі войнамі дадаў да ўсяго гэтага і матыў адвечнай трывогі за родную мясціну, за родны дом, за сябе і сваю сям'ю. Я ўзіраюся ў палотны Шагала, імкнуся перанесціся ў той час, а на памяць прыходзяць знаёмыя радкі і іншага паэта... "Божа! Гэткі свет тут моц стварыла твая! Дзе ж мой дом? Дзе ж мой кут? Дзе айчына мая?"

Янка Купала і Марк Шагал... Ці не занадта рызыкоўнае супастаўленне? Думаецца, што двух мастацкіх геніяў сваіх народаў у адзін і той жа гістарычны час (Купала роўна на пяць гадоў без двух дзён старэйшы за Шагала), на адной і той жа зямлі, сярод вельмі блізкага этнасу, у адных і тых жа геапалітычных умовах маглі хваляваць і непакоіць адны і тыя ж, прынамсі, даволі блізкія трывогі, надзеі, думкі, мары.

На працытаванае вышэй пытанне паспрабаваў даць адказ вялікі пясняр зямлі беларускай: "Мой дом — прывольле звёздная далі, арламі мераны абшар..." А ці не да такога ж неабсяжнага вечнага прытулку імкнецца ў сваіх карцінах Марк Шагал, добра разумеючы, што няма шчасця тут, на зямлі, гэтым простым людзям — аратым, шаўцам, рамізнікам, скрыпачам ды проста звычайным закаханым... "А мы, як цені з таго свету, ідзем, не знаючы куды..." Менавіта ў Віцебску піша Шагал сваю славутую серыю блакітных, ружовых, зялёных "Палюбоўнікаў", гледзячы на якіх нельга стрымаць хваляванне і не прыгадаць: "Пані ты была, я — пан... После зноў расцвіў курган.." А, можа, шагалаўскія закаханыя лятуць над Віцебскам таму, што імкнуцца туды ж, куды і лірычны герой Купалы: "К зорам, што так над табой разгараюцца льсніста ў мільённай на небе сяўбе, рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца: там херувімы спаткаюць цябе!"

Пераадолецъ зямное прыцягненне, "цярпенне балеснае", вырвацца "з ціны жыццёвай душу", пазбавіцца "путаў зямной глушы" — хіба не да гэтага адналькава імкнуцца персанажы вялікага мастака і вялікага паэта? На многіх палотнах Марка Шагала дарога ў неба пракладзена праз Віцебск і Лёзна. А Янка Купала так выказвае сваё запаветнае жаданне: "Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец засціле, я б зняў на зямлю і масціў бы ім новы гасцінец цераз родную ніву сваю..."



*Помнік Марку Шагалу* — *Фота БЕЛТА*

Незвычайнае супадзенне ў паэта і мастака сімвалаў "агністага сонца", якое хочацца ўзяць у рукі, што даддзена было толькі ім абодвум. А над усім гэтым — матыў адвечнага трагізму чалавечага існавання на зямлі: нараджэнне, жыццё, старасць, смерць... Янка Купала не вытрымаў цяжару і жорсткасці камуністычнага таталітарнага рэжыму і ледзь не скончыў жыццё самагубствам. Прадчуваючы жахлівы зыход, Марк Шагал усё прадбачыў і папярэдзіў чалавецтва пра магчымы Халакост (аб гэтым сведчыць яго карціна "Белае распяцце", што знаходзіцца ў Чыкагскім Арт-інстытуце, напісаная ў 1938 годзе, ды іншыя творы). Калі над светам навіснуў фашызм, Шагала ўратавала Амерыка. Тут ён знайшоў прытулак і сяброў.

Магчыма, мае развагі даволі суб'ектыўныя. І ўсё ж лічу, што такое супастаўленне неабходнае, каб лепей зразумець славутых мастакоў, спасцігнуць таямніцы іх натхнёнай творчасці. Нельга забываць і пра тое, што Марк Шагал быў не толькі добры мастак, але і цудоўны паэт. "Браты замоўклыя, бегчы не ўзбоч, а ўполпеч да зор я хачу якраз, і светлай стане цёмная ноч..." Гэта я цытую ўжо самога Шагала; ці не праўда — вобразная структура даволі блізкая да згаданага вышэй?

У творчасці і Янкі Купалы і Марка Шагала арганічна зліваліся рэалізм і мадэрн, побыт і абстракцыя, дакладнасць і стыхія, узлёт духу і буянства рэчаў і цела, эмацыянальнасць і разважлівасць, думка і інтуіцыя. Яны сталі своеасаблівымі пачынальнікамі сімвалізму ў сваіх культурах у еўрапейскім кантэксце, — гэты метад даваў спрыяльныя магчымасці адысці ад класічных традыцый, што вычарпалі ўжо сябе, і весці пошук новых форм мастацкай выразнасці. Звяртаю ўвагу на тое, што пра Купалу-мадэрніста, заснавальніка стылістыкі абсурду ў еўрапейскай паэзіі і драматургіі, яшчэ не сказана як след у літаратуразнаўстве. Хіба не з "Тутэйшых" пачыналася тая плынь у сусветнай літаратуры, якую назавуць абсурдам і гратэскам і якая потым дасць у сваіх літаратурах Ёнэску і Бекета, Брэхта і Куліша, Эрдмана і Платонава? Але ж у савецкі час пра ўсё гэта нельга было гаварыць.

Як нельга было аддаць належнае Марку Шагалу на яго радзіме. Па ўказцы ідэалагічнай службы беларускага ЦК нават асобныя адзінкавыя згадкі пра Шагала і створаную ім Віцебскую мастацкую школу даваліся скажонымі.

Нялёгкую барацьбу за прызнанне Марка Шагала, за вяртанне яго імя на радзіму, за ўшанаванне яго памяці распачаў весці Шагалаўскі камітэт на чале з паэтам Давідам Сімановічам. Вялізную ролю ў дзейнасці гэтага камітэта сыгралі вядомыя беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Дзякуючы неймаверным шматгадовым намаганням, толькі ва ўмовах суверэннай Беларусі ўдалося адкрыць музейную экспазіцыю ў адным пакоі дома на былой Пакроўскай вуліцы ў Віцебску, дзе жыў Марк Шагал. 5 ліпеня 1992 года блізка гэтага дома быў адкрыты помнік мастаку (скульптар Аляксандр Гвоздзікаў).

І толькі сёлета, нарэшце, у Мінску і Віцебску, пры садзейнічанні ўрада Францыі, адбываецца першая на радзіме выстава твораў Марка Шагала з калекцыі музея ў Ніццы і прыватных збораў.

Праз многія гады мастак вярнуўся на сваю радзіму, у свой, так натхнёна апеты ім Віцебск. На тую радзіму, дзе сёння, на жаль, паскораны ўсе антынацыянальныя асіміляцыйныя працэсы і дзе, як здаецца, надзвычай актуальна прагучаць наступныя словы Марка Шагала, аднаго з найвыдатнейшых сыноў зямлі беларускай: "Ключы ад гармоніі і шчасця трэба шукаць у нас саміх. Мы трымаем іх ва ўласных руках. Усё, што я зрабіў, — толькі спроба кінуць выклік жорсткасці. Мастацтва, якім я займаюся з дзяцінства, навучыла мяне таму, што чалавек здольны любіць, што любоў можа ўратаваць яго".

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ**
*г. Чыкага, ЗША*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Расставіць па ранжыры? Сёння на золку? Літаратуразнаўцам — добрая дуля. Бо па ранжыры наперадзе Гамолка, а недзе ззаду Купала з Бядулем. Арыенціры зараз мяняюць скрозь, робяць гэтак ад даты да даты. Гартаў дысертацыю, накрэмзаў хтосьці, дык там ужо лепшыя — аўтары "Воениздата". Пахерыць каго ці пакінуць з намі — школьнікі дазнаюцца на чарговым экзамене. А пакуль для сачыненняў захаваны агульныя — Павел Карчагін і Макар Нагульнаў.

●

З ростам насельніцтва справа швах, хоць перажані ўсіх чыста. І не дапамогуць нам гэтыя клубы чарапах "Каму за трыста". Трэба забяспечыць працай маладых, даць кватэры. І ці давядзецца торгаць парадзіх: "Прымiце меры!"

●

Які ён, беларускі веласіпед? Не той, што робяць на заводзе, а той, што вынаходзяць? Машына, кажуць, будзе мець прывод на задні ход. Едзеш кудысьці наўгад, а колы круцяцца назад — у сацыялізм, у калгасны лад, у імперыю, да Цанавы і Берыі, да помніка Сталіну, неразумна зваленаму... Хто яшчэ знае, дзе пакіне след беларускі веласіпед і ці спыніцца веласіпедыст, зважаючы на ўлюлюканне і свіст?

●

Студэнты ехалі на аўтобусе з Мінска ў Слуцк і пад рогат успаміналі песні пра Сталіна. Рэпертуару хапіла ад вакзала да вакзала. І тут нейкі гарэза-студэнт заспяваў песню "Товарищ президент" — першую пра прэзідэнта Беларусі. На хвілінку ўсім няёмка стала, нібы той, учарашні дзень адкінуў цень на сённяшні дзень. І тады запявала ўдыхнуў на ўсе грудзі: "Няпраўда, людзі, мы былі і будзем!"

●

Паводле Марка Твэна. Расцуць мае землякі, адусюль відаць гэты рост. Ды, мабыць, разам з імі вырастае нейкі прахвост. Бо якой бы мае землякі ні дасягнулі вяршыні, нехта паўсюль настаўляе ім нос.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2682-667 |


*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*


**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 7.8.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4519/Г

Д-1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12